


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

23 ЛЮТАГА 2001г. № 8/4092 КОШТ 118 РУБ.

## ДРАМА БЕЛАРУСКАГА ХРЫСЦІЯНСКАГА АДРАДЖЭННЯ

**Уладзімір КОНАН: “На руінах былога Саюза ўсё яшчэ “бродит призрак” Сярпа і Молата, Штыка і Мяча. І толькі недзе на гарызонце віднеецца Крыж. З нашых даведнікаў і ганаровых найменняў падаецца, быццам наша Беларусь — самая мілітарная краіна ў свеце. Мы жывём у вялікіх гарадах і мястэчках. Але вуліцы, школы, калгасы напамінаюць: пакуль што нас пакінулі ў Партызанскім Лесе”.**



## ЦІ ТРЭБА ШУКАЦЬ ГЕРОЯ?

**Уражанні ад прачытанага — Пятра ПРЫХОДЗЬКІ**



## НОВЫЯ ВЕРШЫ

**Сяргея ГРАХОЎСКАГА і Віктара ШНІПА**



## СПАЦЬ, СПАЦЬ, СПАЦЬ...

**Апавяданне Адама ГЛОБУСА**



## ХТО САЛОЎКУ НЕ СЛУХАЎ...

**Суб’ектыўны дадатак да аб’ектыўных рэцэнзій на новую пастаноўку “Барыса Гадунова” ў Нацыянальным акадэмічным тэатры оперы Беларусі**





*Люты ў валёнкі абуты...*

*Фота Г. ЖЫНКОВА*



## КОЛА ДЗЁН

***Канчаецца зіма... Зіма трывогі нашай? — карціць спытаць па звычцы. Ды не! Якраз наадварот: зіма была мяккая, маласнежная, спакойная ва ўсіх адносінах, у тым ліку і ў сацыяльна-эканамічным плане. Мы не мерзлі, не галадалі, не свяцілі голым целам праз рызманы. А што больш браткам-беларусам трэба? І на гэтым дзякуй! Суседзям вунь, кажуць, куды горай... Турботы, хваляванні, пертурбацыі розныя пачнуцца з надыходам вясны (адна пасяўная чаго варта!), лета і, асабліва, восені, бо да жніва і копкі бульбы ды буракоў далучацца яшчэ і выбары...***

***А пакуль усё спакойна, ціхамірна, нават — не будзем прыбядняцца — добра. Прынамсі, ёсць хлеб і сёе-тое да хлеба. Ну і чарачка тая самая, ды яшчэ, пры ўсёй нашай беднасці, надта ж танная, таннейшая за любую закусь. А кульнеш чарачку — і душа твая зусім адтае, размякчаецца, хоча адначасова плакаць і спяваць, і ўжо табе не проста добра, а — хораша, і ўжо ты не на гэтай грэшнай няўтульнай зямлі, а ў раі, у запаветным і жаданым Эдэме Божым...***

***А зіма, між тым, сапраўды канчаецца...***

### УКАЗ ТЫДНЯ

Апублікаваны ўказ аб скліканні другога ўсебеларускага народнага сходу. Ён пройдзе 18 мая ў Мінску і абмяркуе пытанне аб праграме сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 2001—2005 гады...

### АЖЫЎЛЕННЕ ТЫДНЯ

Архітэктары Мінска выступілі з прапановай "ажыўлення" галоўнай плошчы сталіцы — Кастрычніцкай. Зараз на ёй анічога няма, акрамя Палаца рэспублікі і знака першага кіламетра. Вось і прапануецца размясціць тут вернісажы самадзейных і прафесійных мастакоў, разьбяроў па дрэве ды ганчароў, якія зараз ладзяцца на плошчы Волі, а таксама наладжваць тут выступленні духавых аркестраў. А чаму б і не? Што да апошняга, дык старэйшыя мінчукі яшчэ памятаюць той час, калі ў парку Горкага штовечар гралі духавыя аркестры, і гэта па-добраму цешыла і грэла душы гараджан...

### АСПЕКТ ТЫДНЯ

Летась у краіне было зарэгістравана 135,5 тысячы злачынстваў — прыкладна столькі ж, як і пазалетась. Аднак жа ёсць адзін вельмі адметны і трывожны аспект у гэтай статыстыцы. Калі стала менш выпадкаў, напрыклад, хуліганства і вымагальніцтва, дык затое павялічылася колькасць забойстваў, перш-наперш на так званай бытавой глебе, у тым ліку ўчыненых жанчынамі. Жаночы аспект злачыннасці асабліва трывожны. З агульнай колькасці забойстваў на долю жанчын прыпадае дзесятая частка. Але калі мужчыны забіваюць, так бы мовіць, "пастаронніх", дык жанчыны — найчасцей сваіх блізкіх. З дзесяці забойстваў, учыненых жанчынамі, 9 тычацца членаў сям'і, у першую чаргу мужоў, сужыцеляў, палюбоўнікаў. Суадносіны жаночай і мужчынскай злачыннасці — 1,5. Гэта значыць, што жанчыны ўчыняюць злачынстваў у пяць разоў менш, чым мужчыны. Але апошнім часам узровень жаночай злачыннасці расце куды хутчэй, чым мужчынскай, і гэта ўжо не проста насцярожвае, а выклікае сур'ёзную трывогу. Бо гаворка ж ідзе пра мацярок, прадаўжальніц роду чалавечага...

### З'ЕЗД ТЫДНЯ

У апошні дзень лютага адбудзецца восьмы з'езд Беларускага саюза фермераў. Удзельнікі з'езда будуць гаварыць аб магчымасцях пашырэння фермерскага руху ў краіне. Прынясе гэта плён ці не? Цяжка сказаць. Фермеры ў Беларусі паявіліся прыкладна дзесяць гадоў назад, іхні з'езд — ужо восьмы, аднак жа справа фермерства стаіць на месцы, колькасць фермерскіх гаспадарак не расце, а скарачаецца. У рэшце рэшт, развіццё фермерства залежыць не ад з'езда, а ад палітыкі дзяржавы ў гэтай галіне. На жаль, сённяшняя дзяржаўная палітыка фермерству не спрыяе...

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

Споўнілася паўтара месяца, як на частаце былога 8-га канала вяшчае СТБ. Што пра гэта можна сказаць? Памянялі быка на індыка ці шыла на мыла? Справа не ў гэтым. Хай бы былі б і 8-ы канал, і СТБ. Пытанне — у іншым. На 8-м канале хоць зрэдку, але былі беларускамоўныя перадачы — скажам, тая ж "У бары ў Алега", а на СТБ беларускае слова зусім не ў пашане, яго там проста няма. А між тым, уражанне ад канала — неблагое. Радуе інфармацыйная насычанасць праграм, усцешваюць тэлевядучыя-карэспандэнты — яны маладыя і абаяльныя, іх прафесійны ўзровень, як ні дзіўна, ці не вышэйшы, чым у многіх вядучых так званага ПНК...

### ПЫТАННЕ ТЫДНЯ

"Чаму кожны месяц плата за камунальныя паслугі павышаецца на 6-7 працэнтаў, а зарплата і пенсія — не? Калі ў кастрычніку, лістападзе і снежні 1999 года плата складала 5,8; 8,9 і 7,8 працэнта ад маёй пенсіі адпаведна, то ў 2000 годзе ўжо 12; 16,1 і 14,9 працэнта за тыя ж месяцы. А ў студзені 2001-га — 18,2 працэнта! Чаму долар не даражэе, нафта дзешавее, а цэны на электраэнергію, паслугі сувязі растуць? Чаму растуць цэны на прадукты харчавання (за апошнія дні ў Добрушы зноў падаражэлі малочныя прадукты, белы хлеб і іншыя)?"

Гэтыя пытанні праз газету "Народная воля" задае пенсіянер з Добруша Іван Аляксандравіч Бондарау. Слушныя, вельмі для многіх нашых людзей надзённыя і балючыя пытанні.

Ды, на жаль, рытарычныя, адказаў на якія — няма...

### УЦЕЧКА ТЫДНЯ

Не спыняецца, наадварот — павялічваецца ўцечка мазгоў з Беларусі. Маладыя (найперш акурат маладыя, перспектыўныя) вучоныя эмігрыруюць, едуць на працу і застаюцца ў ЗША, Германіі, Ізраілі, Расіі, Канадзе, Польшчы, Швецыі, Галандыі, Францыі, Чэхіі і іншых краінах. Штогод за апошнія пяць гадоў з Беларусі эмігрыравала прыкладна па 70 вучоных. Многа гэта ці мала? Мяркуйце самі: прыкладна столькі дактароў і кандыдатаў навук заняты навуковымі даследаваннямі ў Віцебскай вобласці...

### МІФ ТЫДНЯ

Мы прывыклі гаварыць, нават выхваляцца, што Беларусь — краіна лясоў, Белавежскую пушчу называем не інакш, як лёгкімі Еўропы. А што на самай справе? У нас 34 працэнты тэрыторыі пад лесам. Ну, а якая сітуацыя ў краінах Еўропы? Столькі ж лесу, як у Беларусі — у Чэхіі, трошачкі менш — у Германіі, Літве, Румыніі, Польшчы, Францыі, яшчэ менш — у Бельгіі, Венгрыі, Украіне, Малдове. Затое больш — у Балгарыі, намнога больш — у Аўстрыі, Эстоніі, Расіі, Латвіі, а ў Фінляндыі лясы займаюць 76 працэнтаў тэрыторыі, у Швецыі — 68 працэнтаў. Дык і чым жа мы выхваляемся? Асабліва, калі прыняць да ўвагі, у якім стане нашы лясы...

### ДГРЭС ТЫДНЯ

Падрыхтаваны праект будаўніцтва ў Зэльве новай магутнай ДРЭС — на 900 МВт. Рэалізацыя яго залежыць ад таго, як хутка будуць адшуканы сродкі на будаўніцтва. Новая ДРЭС не толькі цалкам задаволіць патрэбы краіны ў электраэнергіі, але і дасць магчымасць (да мяжы з Польшчай ад Зэльвы ўсяго 80 кіламетраў) экспартаваць яе ў Заходнюю Еўропу.

ПАДЗЕЯ

## Люты — месяц кніжны




З 13 па 16 лютага ў памяшканні Нацыянальнага выставачнага цэнтра БелЭКСПА праходзіла Беларуская кніжная выстаўка-кірмаш, заснавальнікам якой з'яўляліся Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку і ГА "Беларуская асацыяцыя кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў", а арганізатарам УП "Белкніга". Удзел у гэтым мерапрыемстве прынялі больш як 250 экспанентаў і ўдзельнікаў. А гэта не толькі беларускія выдаўцы, кнігагандлёвыя арганізацыі і паліграфічныя прадпрыемствы, а і госці з Германіі, Латвіі, Расіі і Украіны.

Адметнасць выстаўкі і ў тым, што яна праходзіла сумесна з 7-й Міжнароднай спецыялізаванай выставай "Комбіт-2001", на якой сучасныя тэхналогіі ў паліграфіі, выдавецкай справе і рэкламе прадставілі фірмы Беларусі, Бельгіі, Вялікабрытаніі, Германіі і іншых краін.

Падчас выставак адбыліся прэзентацыя найбольш цікавых кніг, якія выйшлі апошнім часам. Сярод іх — фотаальбом Г. Ліхтаровіча "Добры дзень, Беларусь", які з'явіўся дзякуючы "Беларускай асацыяцыі кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў". Маляўнічае і змястоўнае выданне прываблівае і тым, што аўтар яго, адзін з самых вядомых беларускіх фотамайстроў, выступае і як паэт.

**Н. К.**

## У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Павіншаваць з 50-гадовым юбілеем паэта Януса Мальца прыйшлі ў пісьменніцкую бібліятэку старшакласнікі мінскіх школ, навучэнцы ПТВ, калегі-творцы. Цёплыя словы пра юбіляра казалі народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, крытык і літаратуразнаўца Міхась Кенька, паэт Мікола Шабовіч, бард Анатоль Кудласевіч. Гучалі таксама песні на вершы Януся Мальца.

●

Па традыцыі напярэдадні Дня абаронцаў Айчыны група пісьменнікаў пабывала ў адной з воінскіх часцей Мінскага гарнізона. Пра светлы воблік абаронца Айчыны, пра гісторыю сяброўства воінаў і пісьменніцкай арганізацыі Беларусі гаварылі Яўген Каршукоў, Уладзімір Карызна, Навум Гальпяровіч. Яны прачыталі вершы пра Радзіму, пра слаўныя подзвігі людзей у ваенных шынялях у гады Вялікай Айчыннай вайны.

КАНТАКТЫ

## Працяг творчага дыялога

Друкуючы ў адным з апошніх нумароў (нумар за 2 лютага г. г.) падборку перакладаў з літоўскай паэзіі, "ЛіМ" паведамляў, што публікацыя папярэднічае маючаму адбыцца візіту беларускіх пісьменнікаў у Літву. Такі візіт адбыўся. Па запрашэнні Саюза пісьменнікаў Літвы ў Вільнюсе знаходзілася два дні дэлегацыя нашага пісьменніцкага саюза ў складзе выконваючай абавязкі яго старшыні Вольгі Іпатавай, Анатоля Вярцінскага, Сяргея Законнікава і Валянціны Коўтун.

Ва ўтульным, па-гаспадарску абжытым Доме літоўскіх пісьменнікаў, што знаходзіцца на вул. К. Сірвідо, 6, адбылася працяглая і канструктыўная размова мастакоў слова дзвюх суседніх краін. У атмасферы ўзаемнага зацікаўлення было абмеркавана шырокае кола пытанняў, звязаных з творчым супрацоўніцтвам у новых абставінах, на новым гістарычным вітку. Найперш справа ішла пра мастацкія пераклады з адной мовы на другую, пра ўзаемаабмен публікацыямі новых перакладаў на старонках літаратурнай перыёдыкі. Удзельнікі сустрэчы ўхвалілі дамоўленасць паміж галоўным рэдактарам нашага "Полымя" Сяргеем Законнікавым і галоўным рэдактарам літоўскага "Metai" ("Поры года") Данеюсам Мушынскасам наконт таго, каб абмяняцца неўзабаве такімі публікацыямі.

Сустрэчу адкрыў і вёў старшыня Саюза пісьменнікаў Літвы, літаратуразнаўца Валенцінас Сяняцкас. Пра магчымасці і планы беларускіх пісьменнікаў у справе міжнародных творчых сувязяў распавяла Вольга Іпатава. З літоўскага боку ў гутарцы прынялі таксама ўдзел літаратуразнаўца, перакладчыца з беларускай Альма Лапінскене, народны паэт Літвы, перакладчык нашай паэзіі Альгімантас Балтакіс, рэдактары часопісаў Данелюс Мушынскас і Эвалдас Матвекас, літаратары Рамунас Клімас, Міндаўгас Кветкаўскас, Іонас Ліняўскас, Яніна Руткоўскене.

Пазней у зале Клуба пісьменнікаў адбыўся вялікі літаратурны вечар, якім апякаліся як Саюз пісьменнікаў Літвы, так і пасольства Рэспублікі Беларусь і Асацыяцыя мясцовых беларусістаў. Вечар вялі дырэктар міжнародных праграм СПЛ, паэт Эўгеніуш Алішанка і Альма Лапінскене. Выступілі ўсе госці — прадстаўнікі беларускага пісьменніцкага саюза, а таксама іх літоўскія калегі. У імпрэзе прынялі ўдзел пасол РБ у Літве Уладзімір Гаркун і саветнік пасольства прафесар Уладзімір Скараходаў.

Як і прадугледжвалася праграмай, на другі дзень нашы пісьменнікі ўдзельнічалі ў адкрыцці штогодняга Віленскага кніжнага кірмашу, мелі тут некалькі цікавых гутарак, а потым сустрэліся з настаўніцкім калектывам, навучэнцамі і прадстаўнікамі нашай дыяспары ў беларускай сярэдняй школе імя Ф. Скарыны. Сустрэча прайшла ў цёплай, нязмушанай атмасферы. Госці чыталі свае творы, адказвалі на пытанні. Слова бралі дырэктар школы Галіна Сівалава, вядомы літаратар Андрэй Чэмер (Анішчык), прыняты нядаўна ў Саюз беларускіх пісьменнікаў (падчас сустрэчы яму быў уручаны адпаведны білет), прэзідэнт Згуртавання беларускіх грамадскіх арганізацый Літвы, у нядаўнім вядомы оперны спявак Лявон Мурашка, прафесар Уладзімір Скараходаў і інш.

Пісьменнікі падарылі школе часопісы і кнігі. На ўспамін аб сустрэчы, дзеля карысці добрай справы.

**Наш кар.**





*На здымках: Літаратурны вечар у клубе пісьменнікаў. Выступае С. Законнікаў; падчас сустрэчы ў сярэдняй школе імя Ф. Скарыны. В. Іпатава ўручае білет сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Андрэю Чэмеру (А. С. Анішчыку).*

АНОНС

## "Мінск — Варшава — Парыж"

У гэтай назве адлюстраваны своеасаблівы змест канцэрта, што мае адбыцца 28 лютага ў сталічным Доме дружбы. Праграма складзена з музыкі польска-французскай традыцыі, выканаўцы — беларускія спевакі ды інструменталісты, маладыя, але добра вядомыя ў краіне і прызнаныя на міжнародных конкурсах.

Меламаны маюць рэдкасную магчымасць паслухаць творы, што называецца, вышуканыя. Сярод іх — "Чатыры польскія народныя песні" Ф. Пуленка і арыя з яго ж камічнай оперы "Грудзі Тырэсія" (паводле фарса Г. Апалінэра), "Мазурка" К. Дэбюсі, вялікі канцэртны дуэт для віяланчэлі і фартэпіяна на тэмы з оперы Д. Меербера "Роберт-Д'ябал" Ф. Шапэна—А. Франкома, Соль мінорная мазурка К. Сен-Санса, Фантазія Г. Вяняўскага на матывы оперы Ш. Гуно "Фауст"...

А вось імёны выканаўцаў — лаўрэатаў і дыпламантаў міжнародных конкурсаў: салісты Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі Аляксандр Жукаў, Эльвіра Рыжановіч, Тацццяна Трацццяк; віяланчэліст Аляксей Афанасьеў; скрыпач Алег Яцына; піяністы Алесь Собаль, Алена Вашкевіч. У амплуа канцэртмайстра — піяніст і дырыжор Алег Лясун.

Весці праграму будзе Юлія Андрэева. Дарэчы, ёй і належыць ідэя канцэрта "Мінск—Варшава—Парыж", арганізацыю якога ажыццяўляе Польскі інстытут у Мінску.

**С. Б.**

ВІНШУЕМ!

## Узнагароды ўручаны

Дзяржаўныя ўзнагароды ўручыў заслужаным людзям краіны прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Сярод іх — і выдатныя дзеячы культуры. Прынамсі, ордэнамі Францішка Скарыны адзначана праца прафесара кафедры спеваў Беларускай акадэміі музыкі народнай артысткі СССР Тамары Ніжнікавай і мастацкага кіраўніка Беларускага дзяржаўнага ансамбля "Песняры" народнага артыста СССР Уладзіміра Мулявіна. Медалі Францішка Скарыны ўручаны прафесару Беларускай акадэміі музыкі заслужанаму дзеячу мастацтваў краіны Міхасю Солапаву і вядучаму майстру сцэны Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы народнаму артысту Беларусі Віктару Чарнабаеву.

**Н. К.**

## Ў "Зьніча" — юбілей

22 лютага Беларускі паэтычны тэатр аднаго актора "Зьніч" адзначыў свой 10-гадовы юбілей.

Рэдакцыя "ЛіМа" і нашы чытачы шчыра віншуюць калектыў тэатра і яго мастацкага кіраўніка Галіну Дзягілеву з гэтай падзеяй.

У наступным нумары чытайце матэрыял, прысвечаны тэатру "Зьніч".

ВЫСТАВЫ

# "Роднай Беларусі прысвячаецца"

Такую назву атрымала выстава-конкурс, што адкрылася ў вялікай зале Нацыянальнай мастацкай галерэі, прысвечаная пяцігоддзю Спецыяльнага фонду прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі. Падчас яе прэзентацыі ўразіла тое, што ў экспазіцыі больш за дзвесце работ аўтараў розных узростаў ад малодшых школьнікаў да навучэнцаў Беларускай акадэміі мастацтваў і Універсітэта культуры, жывуць не толькі ў сталіцы, але большасць у раёнах і вёсках. У падрыхтоўцы выставы спрацаваў ужо адладжаны мінулагоднімі мастацкімі акцыямі прынцып адбору. Як заўжды стваралася камісія, прапаноўваліся лепшыя творы навучэнцаў дзіцячых мастацкіх школ з усёй рэспублікі, як заўжды іх чакалі прызы...



Навізна сёлетняга мерапрыемства — у яго маштабнасці і велічыні грашовых узнагарод, многія з якіх перавышалі сто тысяч рублёў. Усяго было прысуджана па тры месцы ў трох катэгорыях (да шаснаццаці год, да дваццаці і пасля дваццаці). Першае месца ў першай катэгорыі атрымаў Віталь Лявіцкі з Гомельскай мастацкай школы N 4, у другой катэгорыі першынство падзялілі Вольга Лугавая з Віцебскай дзіцячай мастацкай школы N 1 і Марына Напрушкіна з Мінскай мастацкай школы, у трэцяй — Кацярына Сумарава (БелАМ) і Максім Данільчанка (БУК). А Гран-пры, які атрымала Ірына Бярнацкая з Гомельскай мастацкай вучэльні, склаў амаль трыста тысяч рублёў.

Акрамя гэтага, дванаццаць дзяцей атрымалі грашовыя прэміі, спецыяльныя прызы, дзевяць дзяцей у лістападзе два тыдні праводзяць у творчай школе ў Ждановіцкім санаторыі, а дзесяць-дванаццаць будуць удзельнікамі спецыяльнага дзіцячага пленэру, які фонд намагаецца правесці першы раз у гэтым годзе. І гэта сапраўды немалая падтрымка маладых і асабліва юначых талентаў, што дазволіць многім з іх не кідаць творчасці з-за недастатковага матэрыяльнага дабрабыту сям'і.

У гэтым годзе ўмовы выставы-конкурсу аніяк не абмяжоўвалі дзяцей у выбары тэхнікі, жанру і віду творчасці. Таму ў экспазіцыі не толькі жывапісныя, графічныя палотны і разнастайная кераміка, тут ёсць габелены, калажы, выцінанкі, шаўкаграфія, дэкаратыўныя пано з саломкі і аб'ёмныя саламяныя рэчы, напрыклад, павукі і каляднікі зорачкі, разьба па дрэве, скульптура з пластыліну, вышыўка. І ўсё гэта яркае, жывое і вельмі таленавітае. Нечакана нават, як разнастайна і шчыра ўспрымаюць дзеці нашу краіну. Яны малююць апошніх энтузіястаў калгаснай працы і твары бабулек, што дажываюць свой век у адзіноце. Дзесяцігадовая Аня Булат з Ляхавіч назвала свой малюнак "А пенсію ўсё не нясуць". А побач — зыркае вечаровае сонца, вясёлыя каляды, героі беларускіх паданняў, язычніцкіх міфаў, вулкі і закуткі родных мястэчак.

Уражвае, што школьнікі ў сваіх работах не толькі канстатуюць свае непасрэдныя ўражанні, яны ўсё больш падуладныя развагам і абагульненням, колеравым і пластычным пошукам. Усцешна, што прыступка, з якой яны пачынаюць хаду ў мастацтва, грунтуецца на лепшых мастацкіх дасягненнях старэйшых майстроў. "Хутка яны прачнуцца", так назвала сваю графічную фантазію Ганна Ціханава (БелАМ), нібы выкляўшы ідэю самой выставы.

Пасля Мінска выстава паедзе па беларускіх гарадах. Будзе выдадзены каталог. Усе прадстаўленыя работы застануцца па ўмовах конкурсу ў фондаўскім распараджэнні. Частка з іх будзе перададзена для ўпрыгожвання дзіцячых садкоў і дзіцячых дамоў, частка застанецца ў асобнай калекцыі. Менавіта яна і будзе паказана ў красавіку падчас вялікага дзіцячага канцэрта, таксама прысвечанага юбілею фонду.

**Н. Ш.**

*Фота М. ПРУПАСА*

ВЕЧАРЫНЫ

# Бенефіс Каліноўскага

У самых людных сталічных кварталах, на рэкламных шчытах ды тумбах з'явіліся афішы з партрэтам гэтага музыканта. Нібыта й знаёмы твар, аднак далёка не кожны прыгадае, дзе мог яго бачыць. Колькі крокаў бліжэй да афішы — і зацікаўлены чалавек спяшаецца далей, яўна задаволены прачытаным.



Дык пра што паведамляе афіша? Пра тое, што 26 лютага ў Вялікай зале сталічнай філармоніі адбудзецца творчы вечар саліста Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, знанага гітарыста, аранжыроўшчыка і кампазітара Аляксандра Каліноўскага. Вечарына, дарэчы, — з шэрагу сёлетніх імпрэзаў, якімі заслужаны калектыў пад кіраўніцтвам народнага артыста, лаўрэата Дзяржаўных прэмій краіны прафесара Міхала Фінберга адзначае сваё 15-годдзе.

Прыхільнікі знанага аркестра, вядома ж, даўно звярнулі ўвагу на выканальніцкае майстэрства Аляксандра Каліноўскага, на яго таленавітую асобу. І для нашых чытачоў гэта — ужо імя. Прынамсі, летась, абмяркоўваючы канцэрты VII Міжнароднага фестывалю джаза "Мінск-2000", мы вылучалі выступленне інструментальнай групы DTS-band, якая ўтварылася ў структуры Дзяржаўнага канцэртнага аркестра па ініцыятыве А. Каліноўскага і пад яго кіраўніцтвам дасягнула поспеху не толькі дома, а і ў Германіі. Адметнасць выступлення вызначалася не толькі высокай тэхнічнасцю ўдзельнікаў суполкі (гэта — як і мае быць у музыкантаў Дзяржаўнага канцэртнага), але і арыгінальным рэпертуарам, які ствараў А. Каліноўскі. Рамантычныя "Нябёсы, якія танчаць", інтэлектуальная "Бясконцая размова", густоўнае "паганскае свята ў гуках" з перапляценнем беларускіх народных песенных мелодый — каларытная кампазіцыя паводле вобразаў Купалля... Такі розны яго творчы свет!

Вечарына, якую ладзіць Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі ў гонар аднаго са сваіх "зорных" музыкантаў, абяцае для кагосьці працяг знаёмства з мастацтвам Аляксандра Каліноўскага, а для кагосьці — радаснае адкрыццё сапраўднага музычнага таленту.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*

АБСЯГІ

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Два юбілеі

Газета аблвыканкама і абласнога Савета дэпутатаў "Магілёўскія ведамасці" адзначыла дзесяцігоддзе з дня выхаду ў свет першага нумара. А газета камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні аблвыканкама "Зямля і людзі" парадавала чытача юбілейным, пяцісотым нумарам. Першая абласная газета выходзіць тры разы на тыдзень, другая — раз. У абедзвюх побач з разнастайнымі навінамі з жыцця вобласці пастаянна суседнічаюць і літаратурныя творы.

## "Нам засталася спадчына"

Выстава старых хатніх рэчаў пад такой назвай адкрыта ў Кісялёва-Будскай сельскай бібліятэцы Клімавіцкага раёна. Наведвальнікі могуць пабачыць прадметы колішняга штодзённага вясковага ўжытку: чыгункі, самавары, ручнікі, лапці, калаўрот, гліняны гарлач, прас, які працуе ад вугольля, падвясную лямпу, цэп для абмалоту зерня, вясельны строй, якому сто гадоў. Нават частка плота з вёскі Куляшоўка гэтага ж сельсавета стала цяпер экспанатам вясковага музея. Стварыла ж гэты цудоўны куточак вясковай даўніны загадчыца бібліятэкі Людміла Блахіна, якая працуе тут ужо дзесяць гадоў... Даволі ўтульна ў гэтай вясковай чытальні. Нават куточак для дзятвы адведзены і з густам аздоблены. Так што сюды прыемна зайсці кожнаму вяскоўцу, і малому, і старому, каб пагартаць у вольную часіну часопіс альбо газету, ці ўзяць дадому цікавую кнігу.

**Іван ЛАПО**

*БРЭСТЧЫНА...*

## Аднаўляецца сядзіба

Значная работа праводзіцца ў вобласці па аднаўленні культурнай спадчыны. У вёсцы Варацэвічы Іванаўскага раёна даведзена да ладу сядзіба вялікага асветніка Напалеона Орды. Тут пасаджаны парк. У Баранавіцкім раёне адроджаны мясціны, дзе жыў славуты паэт Адам Міцкевіч. А зараз вядзецца рэстаўрацыя Высокаўскага сядзібна-паркавага комплексу. Прыведзены ў належны стан гідратэхнічныя збудаванні. Ачышчаны вадаёмы, зрэзаны старыя дрэвы. Калі ж поўнасцю закончацца работы па аднаўленні сядзібы вядомага ў Беларусі роду Сапегаў і Патоцкіх, тут запланавана адкрыць музей сядзібна-паркавага мастацтва. Яго наведвальнікамі стануць не толькі жыхары рэспублікі, але і замежныя госці.

**Анатоль ХАРЛАМАЎ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Гурткоўцы кажуць: "Дзякуй!"

У Езярышчанскай сярэдняй школе адбылася сустрэча з паэтам, перакладчыкам, літаратуразнаўцам Анатолем Канапелькам — дацэнтам кафедры беларускай літаратуры Віцебскага дзяржуніверсітэта. У зале прысутнічалі вучні і настаўнікі адразу дзвюх школ — сярэдняй і спецшколы для дзяцей са слабым зрокам. Да сустрэчы рыхтаваліся загадзя, знаёміліся з вершамі Анатоля Мікалаевіча з кнігі "Музыка лістапада", дзіцячымі малюнкамі аформлілі залу, падрыхтавалі пытанні паэту. Асабліва цікавіла дзяцей, ці пісаў Анатоль Мікалаевіч вершы, калі вучыўся ў школе, бо многія мясцовыя вучні спрабуюць складаць вершы, паданні, казкі на занятках літаратурнага гуртка "Маладзічок". Пыталіся школьнікі пра лёс беларускай мовы, пра сустрэчы з цікавымі людзьмі.

**Ірына КЛЮЕВА**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Жыве ў Жлобіне паэт

Павел Луд нарадзіўся роўна паўвека назад у Лунінецкім раёне Брэсцкай вобласці (дарэчы, блізкі сваяк рана пайшоўшага з жыцця пісьменніка Міколы Калінковіча). Пасля заканчэння прафтэхвучылішча імя М. Лынькова працуе на чыгунцы, сёння ён — машыніст пасажырскага цеплавоза, дэпутат гарсавета. А яшчэ ведаюць яго ў Жлобіне як цікавага паэта. Ды і не толькі, дарэчы, тут. Вершы Паўла Луда друкаваліся ў абласным і рэспубліканскім друку, а неўзабаве павінна з'явіцца першая кніжка. На асобныя творы паэта напісалі песні вядомы мінскі спявак і кампазітар Альберт Скараход, а таксама мясцовыя аўтары Аляксандр Пілюга і Валерый Міхальцоў. Гэтыя песні ўпрыгожылі літаратурную вечарыну, прысвечаную пяцідзесяцігоддзю Паўла Луда, якая прайшла ў цэнтральнай бібліятэцы Жлобіна. Вяла яе супрацоўніца бібліятэкі Марына Раманенка.

У тым, што чыгуначніка і паэта Паўла Канстанцінавіча Луда паважаюць і шчыра шануюць у горадзе, можна было пераканацца хоць бы па тым, што павіншаваць яго прыйшлі старшыня гарвыканкама У. Ерафееў, старшыня гарсавета В. Байкачоў, загадчыца аддзела па інфармаванні насельніцтва гарвыканкама Г. Мельнікава. З кветкамі і падарункамі віншавалі юбіляра паэты Іосіф Ранейскі, Марыя Смірнова, мастак Уладзімір Ганжа, супрацоўнік райгазеты "Новы дзень" Мікола Шуканаў і рэдактар газеты "Інформобзор" Юрый Ішу, прадстаўнікі дэпо Сяргей Сухоцкі і Валерый Лахадыр...

Юбіляр жа чытаў вершы. Як і належыць паэту, калі ў яго свята.

**Васіль ТКАЧОЎ**

## "Дняпроўскія далягляды"

Восенню леташняга года на Рэчыцкай зямлі адбыўся пленэр жывапісцаў "Дняпроўскія далягляды". У Рэчыцы была наладжана выстава работ яго ўдзельнікаў. Затым пленэрысты дапрацоўвалі некаторыя свае работы ў майстэрнях. Зараз яны выставілі новыя палотны ў карціннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў. Тут экспануюцца работы М. Казакевіч, Р. Ландарскага, У. Кароткага, П. Фея, І. Папова, В. Асіпенкі і іншых. Частка экспануемых твораў будзе перададзена ў дар аддзелу мастацтва Рэчыцкага музея.

## Работы з Нараўляншчыны

У абласным Цэнтры народнай творчасці наладжана выстава ўмельцаў з Нараўляншчыны. Экспануюцца 180 работ сарака аўтараў. Сярод экспанатаў — вырабы ткацтва, пляценне з лазы, шкатулкі, абразы, інкрустацыя, жывапіс.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Усебеларускі фестываль

18 лютага ў сталіцы ўрачыста адкрыўся чацвёрты Усебеларускі фестываль нацыянальных культур. А заключныя мерапрыемствы традыцыйна адбываюцца ў Гродне. Такім чынам, распачаўся рэгіянальны фестывальны тур, які з лютага па чэрвень пройдзе па гарадах і сёлах Беларусі. Затым мерапрыемствы адбудуцца ў Мінску і ў абласных цэнтрах. А на пачатку чэрвеня фінальны акорд свята прагучыць у Гродне.

— Гродзенскі фестываль павінен стаць у шэрагу самых значных культурных падзей у рэспубліцы, — зазначыў, адкрываючы свята міністр культуры Л. Гуляка. — Добра было б, каб да яго заснавальнікаў, якімі з'яўляюцца Міністэрства культуры, Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей, Гродзенскія аблвыканкам і гарвыканкам, далучыліся б і іншыя зацікаўленыя арганізацыі, такія, як Міністэрства адукацыі, Дзяржаўны камітэт па справах моладзі, Нацыянальны тэлерадыёкамітэт, Дзяржкамдрук. Гэта дазволіла б вывесці фестываль на якасна новы ўзровень...

**Лілія НАВІЦКАЯ**



**ЧАСАПІС**

## *На філфаку БДУ*

**На філалагічным факультэце БДУ адбыліся Шамякінскія чытанні, прысвечаныя 80-гадоваму юбілею пісьменніка.**

**Рэй вяла заслужаны работнік вышэйшай школы, дацэнт Вольга Казлова.Выступіў лаўрэат Літаратурнай прэміі СБП імя І. Мележа прафесар А. Бельскі, які асноўнаю тэмаю свайго даклада зрабіў разгляд маральна-этычнай праблематыкі ў творах Івана Шамякіна 80—90-х гадоў. Загадчык кафедры беларусазнаўства, дацэнт Таццяна Шамякіна, дачка пісьменніка, расказала шмат цікавага пра Шамякіна як бацьку. Народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч прачытала ўрывак з твора І. Шамякіна. Ад імя студэнтаў выступіла студэнтка IV курса завочнага аддзялення Ала Уласевіч.**

**Ва ўрачыстым пасяджэнні ўзялі таксама ўдзел прафесар кафедры рускай літаратуры Галіна Няфагіна, дацэнты Ніна Рашэтнікава, Міхась Кенька, Ала Цітова, старшыя выкладчыкі Аліса Шыловіч, Людміла Карпава і іншыя.**

**Прысутнічалі таксама намеснік дэкана філалагічнага факультэта, кандыдат філалагічных навук, дацэнт Павел Навойчык, загадчык кафедры беларускай літаратуры XX стагоддзя, прафесар Людміла Сінькова.**

●

**6 лютага на філалагічным факультэце БДУ адбыліся Мележаўскія чытанні, прысвечаныя 80-гадоваму юбілею пісьменніка.**

**Адкрыла ўрачыстае пасяджэнне загадчык кафедры беларускай літаратуры XX стагоддзя, прафесар Людміла Сінькова.**

**Выступіў член-карэспандэнт НАН Беларусі, прафесар Алег Лойка, які згадаў свае сустрэчы з Іванам Мележам, непаўторныя рысы яго асобы, а таксама тыя часы, калі пісьменнік уваходзіў у літаратуру .**

**Прафесар Дзмітрый Бугаёў падзяліўся ўспамінамі пра асабістыя стасункі з І. Мележам.**

**Загадчык сектара тэорыі літаратуры НАН Беларусі Міхась Тычына ў сваім выступленні падкрэсліў ролю Івана Мележа як пісьменніка, у чыёй творчасці замацаваны асновы нацыянальнай мастацкай традыцыі, усасоблены беларускі менталітэт.**

**Выступілі таксама навукоўцы філалагічнага факультэта дацэнты Валерый Максімовіч, Ніна Рашэтнікава, Міхась Кенька, старшыя выкладчыкі Аліса Шыловіч, Людміла Карпава, Алесь Пашкевіч.**

**Лада АЛЕЙНІК**

## *Завараўжыў... "заваражаны мяч"*

**Алесь Камароўскі — адзін з нямногіх беларускіх пісьменнікаў, якія ў сваёй творчасці асэнсоўваюць спартыўную тэму. Больш таго, ён расказвае пра тых, хто па-сапраўднаму захоплены футболам, а гэтая гульня карыстаецца ў балельшчыкаў, як вядома, асабліва вялікай папулярнасцю. Невыпадковы творы А. Камароўскага і знаходзяць так хутка дарогу да чытацкіх сэрцаў. Адбываецца гэта, канечне, яшчэ дзякуючы і таму, што яны напісаны высокапрафесійна і ў мастацкіх адносінах. Пацвярджэнне таму і новая кніга Алеся Адамавіча "Заваражаны мяч". Не паспела яна выйсці ў выдавецтве "Ураджай", як адразу знайшла сваіх прыхільнікаў. І не толькі ў сталіцы, а і ў глыбінцы.**

**Сведчанне таму і прэзентацыя, што адбылася ў Рубяжэвіцкай сярэдняй школе Стаўбцоўскага раёна. І сам А. Камароўскі і тыя, хто разам з ім завітаў да вучняў і настаўнікаў і выступіў перад імі, а гэта Міхась Зарэмба, Уладзімір Мазго, — змаглі ўпэўніцца, што слова пра футбол, прамоўленае Алесем Адамавічам, хутка запатрабоўваецца тымі, хто любіць гэты від спорту ды і цікавыя кнігі.**

**А ішла гаворка пра "Заваражаны мяч", як і ўвогуле пра беларускую літаратуру, дзякуючы клубу "Спадчына", які ўзначальвае настаўніца беларускай мовы і літаратуры Рамуальда Ігнатаўна Сабалеўская. Са сваімі вершамі на сустрэчы выступіў і брыгадзір мясцовага калгаса Раман Сабалеўскі. Адным словам, завараўжыў усіх... "Заваражаны мяч".**

**Н. К.**

САМ-НАСАМ З РАДЗІМАЙ І З ЧАСАМ

Ніл ГІЛЕВІЧ

# Ці шмат можа зрабіць адзін?

Гадоў сорак назад добры чалавек, лінгвіст і педагог М. С. Васілеўскі (рай вечны душы яго!) ашчасліві мяне незвычайным дарункам — "Гісторыяй беларускай (крыўскай) кнігі" Вацлава Ластоўскага, выдадзенай у Коўне ў 1926 годзе. Што такая кніга ёсць — я ведаў даўно, яшчэ са студэнцкіх гадоў, але дабрацца да яе не паклапаціўся; дый было няпроста гэта зрабіць — на пісьменніцкіх і навуковых творах "заятага ворага народа, нацдэма" Ластоўскага ляжала глухая забарона. І я, шчыра кажучы, не ўяўляў, што гэта такое маштабнае капітальнае выданне, такі фундаментальны збор звестак па гісторыі беларускага кнігадрукавання — з фрагментамі тэкстаў, з анатацыямі на кнігі, з каментарамі і заўвагамі, са слоўнікам слоў старабеларускай мовы, з паказальнікам тэм і паказальнікам імён, нарэшце, з дзесяткамі факсімільна ўзноўленых ілюстрацый... Уражанне, помню, было незвычайнае. Я гартаў падоўгу гэтую агромністую — на 776 старонак велічэзнага фармату — таміну, чытаў і перачытваў, і проста не мог сабе даць веры, што гэта зрабіў — падрыхтаваў і выдаў, прычым за кароткі час, за некалькі гадоў — адзін чалавек. Адзін — адзін! — здолеў выканаць такую тытанічную працу! Колькі ж гадзін у суткі і з якім напружаннем ён працаваў? І якую ж трэба мець прафесійную падрыхтоўку, каб асіліць такое? Ну, сказаў я сабе, цяпер мне зразумела, чаму В. Ю. Ластоўскі быў абраны правадзейным членам Беларускай Акадэміі Навук — у ліку самых першых, яшчэ пры заснаванні акадэміі. Той, хто даў *беларускай навуцы і культуры гэтакі плён сваёй творчай* працы, у вышэйшай ступені адпавядае годнасці акадэміка. А яшчэ я падумаў: дык вось адкуль чэрпаюць звесткі па гісторыі беларускай літаратуры многія даследчыкі, у тым ліку — пагромшчыкі "беларускага нацыяналізму!" Вось адкуль яны, як марадзёры, без спасылак на першакрыніцу, грабуць-крадуць ідэі, думкі, факты ды яшчэ і аплёўваюць таго, каго абдзіраюць!

*Амаль праз сорак гадоў, на парозе новага веку,* мне давялося ізноў перажыць зусім такое ж незвычайнае здзіўленне і захапленне, як і тады — ад навуковага подзвігу Ластоўскага. На гэты раз неверагодную для аднаго чалавека працу выканаў літаратар і навуковец Сяргей Шупа. Плён ягонага шчыравання называецца "Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі", том І. Гэта — дзве велічэзныя, на 1720 старонак (нумарацыя агульная), кнігі, у дасканалым паліграфічным выкананні, на паперы, якая нашым акадэмічным выданням можа толькі сніцца. На тытульным лісце пазначана: укладанне, падрыхтоўка тэксту, уступны артыкул, каментары, пераклады, паказальнікі, камп'ютэрны набор, макет Сяргея Шупы. Заўважце: не толькі прадмова, каментары, паказальнікі, але і пераклады многіх тэкстаў з іншых моў (нямецкай, французскай, польскай і інш.), і нават набор і макет — усё зроблена адным чалавекам.

Самае галоўнае, аднак, пра што ў першую чаргу думаеш, гартаючы старонкі "Архіваў", гэта — на што, на якую мэту, у імя чаго пакладзены такія надзвычайныя самаахвярныя высілкі. Гадаць не даводзіцца: у імя Беларусі. І гэтым сказана ўсё. Толькі вялікі сыноўскі клопат пра Маці Беларусь, пра лёс беларускага народа мог паклікаць і натхніць на такую працу. Толькі гарачая неадольная вера, што выцягнутыя на свет божы Архівы БНР паслужаць (абавязкова паслужаць!) справе беларускага нацыянальнага адраджэння і ў першую чаргу — справе аднаўлення праўдзівай, аб'ектыўнай гісторыі Бацькаўшчыны.

Для мяне, аднаго з тых (пакуль, напэўна, нямногіх), каму пашчасціла перагарнуць, трымцеючы ад хвалявання, старонкі гэтых двух фаліянтаў, ужо ясна: без гэтае кнігі сёння не зможа абысціся ніводзін даследчык палітычнай гісторыі Беларусі XX стагоддзя, ніводзін філосаф-мысляр, які займаецца вывучэннем беларускай грамадскай думкі гэтае эпохі, ніводзін пісьменнік-раманіст, які распрацоўвае сюжэты з грамадска-палітычнага жыцця Беларусі на яе шляхах да свабоды і незалежнасці. Скажу нават больш: гэтае выданне павінен мець дома, чытаць і перачытваць кожны беларускі інтэлігент, каб глыбей пранікнуць у вытокі і сутнасць нашай нацыянальнай трагедыі, якая працягваецца дагэтуль. Павінны чытаць усе беларусы, каб лепш зразумець саміх сябе і свой пракляты лёс.

Вялікая, грунтоўная размова пра апублікаваныя матэрыялы Архіваў БНР — наперадзе: яе павядуць, не сумняваюся, нашы навукоўцы — гісторыкі, архівісты, палітолагі, літаратуразнаўцы... Мне ж тут хацелася б звярнуць увагу толькі на адну акалічнасць — на трагічны лёс архіваў БНР, а значыць — і на цяжкасці, якія сустракае на сваім шляху наша гістарычная навука. У грунтоўным уступным артыкуле ўкладальнік піша: "...У справе Архіваў БНР застаецца шмат *неразгаданых таямніцаў і загадак. Частка — і пры гэтым* найбольш важная — Дзяржаўных Архіваў дагэтуль застаецца нязнойдзенай". Выключнай каштоўнасці "хроніка барацьбы за незалежнасць расцярушылася па ўсім свеце". Калі чытаеш аб тым, як гэта рабілася, — сэрца сціскаецца ад крыўды, ад горычы, ад болю. Як катастрафічна, нібыта выпадкова, але надта ж прадбачана і масава, зніклі архівы БНР, яе дзяржаўных органаў і асоб, якія адыгралі ў яе гісторыі вельмі прыкметную ролю. Зніклі пісьмовыя сведчанні гістарычнага шляху народа, яго долі-нядолі, яго лёсу. Вось невялікая выбарка фактаў для пацвярджэння сказанага.

У снежні 1917-га адбыўся Першы Усебеларускі з'езд — асноўная маса дакументаў не знойдзена. Пратаколы пасед жання Народнага Сакратарыята — не знойдзены. Архіў Рады Народных Міністраў за 1918—1925 гг. — сістэматычнага збору не захавалася. Архівы Рады БНР за 1918 год, прэзідыума Рады БНР за 1920—1924 гг. — не знойдзены. Архівы амаль усіх замежных місіяў НРБ — не знойдзены. З асабістых архіваў беларускіх палітычных дзеячаў не адшуканы архівы Я. Лёсіка, Я. Серады, П. Крэчэўскага, В. Захаркі, А. Цвікевіча, Т. Грыба і іншых. Колькі ж пошукавай працы яшчэ чакае нашых гісторыкаў і архівістаў! Колькі дзяржаўнага клопату павінна быць праяўлена да гэтай справы! І з якой удзячнасцю мы абавязаны думаць пра тых, хто ахвяраваўся на выданне "Архіваў", хто зразумеў і падтрымаў патрыятычны энтузіязм ініцыятара і выканаўцы гэтай фундаментальнай навуковай працы!..

Вацлаў Юсцінавіч Ластоўскі праз два гады пасля выхаду яго Вялікай Кнігі быў абраны акадэмікам Беларускай Акадэміі Навук (тады яна называлася іменна так — Беларускай, і ў ёй панаваў дух беларушчыны). Ці чакае гэтакі гонар Сяргея Анатольевіча Шупу? Пабачым. Два гады прамінуць хутка.




## Бязмежная ўдзячнасць

Імя пісьменніка Івана Шамякіна, юбілей якога мы нядаўна адзначалі, ведае кожны беларус.

Мы выраслі і сталелі разам з яго кнігамі. Помню, з творамі І. Шамякіна я сустрэлася недзе ў пятым класе. "Глыбокую плынь" мы чыталі па чарзе, з захапленнем, горача абмяркоўвалі (не ў школе, а проста — малыя кнігалюбы — паміж сабой). Пераказвалі найбольш вострыя і цікавыя раздзелы рамана.

Цяпер я разумею, што ў пасляваеннае наша дзяцінства менавіта Іван Шамякін унёс яркі прамень мастацкай літаратуры, і гэта засталося ў душы назаўсёды.

У 90-я гады Міністэрства адукацыі неабгрунтавана зменшыла колькасць твораў І. Шамякіна ў школьнай праграме. Аднак у бягучым навучальным годзе ў 9-ым класе чытаюць аповесць "Ахвяры", у 11-ым ўзноўлена вывучэнне рамана "Сэрца на далоні".

Да юбілею пісьменніка мы з адзінаццацікласнікамі падрыхтавалі абмеркаванне рамана І. Шамякіна "Крыніцы" — твора аб вясковай інтэлігенцыі і школьным жыцці.

Прайшло паўвека з часу напісання рамана. Шмат што змянілася, а праблемы падлеткаў, асабліва вясковых, у асноўным засталіся тыя ж: іх узаемаадносіны, адносіны з дарослымі, іх жаданні, мары, любоў да роднага краю і, безумоўна, каханне.

Таму старшакласнікі, прачытаўшы раман "Крыніцы", аднадушна зазначылі, што твор цікавы і змястоўны, яго лёгка чытаць.

Перачытваючы раманы "Крыніцы" і "Сэрца на далоні", я зноў упэўнілася: ад іх нельга адарвацца. У іх усё зачароўвае: займальнасць сюжэта, прыгажосць і складанасць чалавечых пачуццяў, мілыя сэрцу вобразы беларусаў усіх пакаленняў.

Аднойчы мне пашанцавала сустрэцца з пісьменнікам. Было гэта ў жніўні 1987 года, у дні настаўніцкай канферэнцыі.

У той дзень працавалі секцыі настаўнікаў беларускай і рускай моў. Недзе напрыканцы работы нам аб'явілі, што на сустрэчу з намі прыехалі пісьменнікі І. Шамякін, В. Ткачоў і А. Сяркоў.

Было ўжо тры гадзіны дня, людзі стаміліся і жадалі хутчэй дабрацца дадому. Таму з добрай сотні моваведаў на сустрэчу засталося чалавек 15. Але якая цудоўная была сустрэча! Пісьменнікі не звярталі ўвагі, што нас мала, усё роўна размова атрымалася душэўная і шчырая. Іван Пятровіч быў ужо ў сталым узросце, аднак выглядаў энергічным і рухавым. Прыгожы твар адцянялі густыя ссівелыя валасы. Ад яго сыходзіла аўра духоўнасці, дабрыні і інтэлігентнасці.

Выступленне І. Шамякіна мы слухалі стаіўшы дыханне. Іван Пятровіч гаварыў а задачах літаратуры, аб выхаванні чытачоў, асабліва моладзі, аб адказнасці пісьменніка перад грамадствам. Гаварыў таксама аб сваёй літаратурнай працы, аб тым, што абдумвае твор аб чарнобыльскай бядзе, коратка крануўся сюжэта будучай аповесці (праз некаторы час яна выйшла з друку — аповесць "Злая зорка").

Мы былі бязмежна ўдзячны гасцям за гэтую сустрэчу.

Варта адзначыць, што адметнай вехай у беларускай літаратуры стала кніга І. Шамякіна "Роздум на апошнім перагоне". Гэта кніга-жыццяпіс, кніга-дзённік, кніга-летапіс нашага часу. У творы аўтар па-майстэрску спалучае асабістыя перажыванні з найбольш значнымі і грамадскімі з'явамі.

Усе мы, удзячныя чытачы, жадаем шаноўнаму юбіляру здароўя, душэўнага спакою і новых натхнёных сустрэч з чытачамі.

**Раіса КАЗЛОВА,**

*в. Рагінь Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці*




## Галасы Беларусі — на ўзроўні!

Падрыхтуйцеся! Неўзабаве ў адказ на канцэрты, выставы і кінапаказы Дзён беларускай культуры ў Расіі на Беларусь завітаюць Тэатр на Таганцы (пад кіраўніцтвам Мікалая Губенкі), Ансамбль танца Ігара Майсеева, рускае кіно, музыкі, мастакі, паэты... А пакуль расіяне, пэўна, абмяркоўваюць уражанні ад "звышаншлагавага" канцэрта "Песняроў" з удзелам аркестра пад кіраўніцтвам Міхала Фінберга, кінастужкі "У жніўні 44-га", балета "Страсці (Рагнеда)" і многіх іншых адкрыццяў.

Да іх ліку адносіцца і **Вакальны вечар салістаў** Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі, што адбыўся ў Эрмітажным тэатры Санкт-Пецярбурга. Нагадаем, што сёння горад, у якім знаходзіцца знаны Марыінскі тэатр, уваходзіць у пяцёрку сусветных оперных аўтарытэтаў: Мілан — Пецярбург — Нью-Йорк — Лондан — Вена. Надзвычайная адказнасць спяваць перад пецярбургскай публікай легла на Юрыя Бастрыкава, Тамару Глаголеву, Вікторыю Курбацкую, Марата Грыгорчыка і Андрэя Марозава.

Адразу ў дзень прыезду, *"з колаў"* артысты разам з канцэртмайстрам Таццянай Івановай далі канцэрт у дзівоснай зале, аналаг якой хацелася б мець і ў Мінску: мініяцюрны, на 300 месцаў, але сапраўдны тэатр з партэрам і ложамі ў некалькі ярусаў.

Казачная акустыка Эрмітажнага тэатра, вытанчаная праграма з оперных арый, дуэтаў і класічных рамансаў, а галоўнае — настроенасць паказаць найлепшую форму свайго прафесіяналізму зрабілі канцэрт падзеяй, пасля якой пецярбуржцы прызнаваліся спевакам: не ведалі, што зусім побач ёсць галасы сусветнага ўзроўню. А адзін з узрушаных слухачоў — консул Іспаніі — адразу прапанаваў абмеркаваць планы магчымых гастроляў Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі ў ягоную краіну.

**Алена КАЗЛОЎСКАЯ**

ШЛЯХІ

*"Але раней за ўсё тое накладуць на вас рукі і будуць гнаць вас, выдаючы ў сінагогі і вязніцы, і пастравяць перад царамі і валадарамі імя Маё (...). Выдадзены таксама будзеце бацькамі і братамі, і родзічамі, і сябрамі, і некаторых з вас заб'юць, і будуць ненавідзець вас усе за імя Маё..." (Лк. 21: 12, 16).*

***Прароцтва Ісуса Хрыста пра лёс хрысціянскіх святароў у антыхрысціянскай імперыі.***

# Драма беларускага хрысціянскага адраджэння

Уладзімір КОНАН

Людзі мінулага стагоддзя былі сведкамі невядомых з часоў рымскага імператара Нерона ганенняў на хрысціянства ў бальшавіцкай імперыі. Беларускія хрысціянскія дзеячы — творцы нацыянальнага адраджэння, людзі шматграннага таленту — асветнікі, пісьменнікі, вучоныя, грамадскія і палітычныя дзеячы. Ім прысвечана кніга Юрася Гарбінскага "Беларускія рэлігійныя дзеячы". Гэта другая грунтоўная праца нашага калегі. Летась накладам Інстытута славістыкі Польскай акадэміі навук выйшла ў свет падрыхтаваная спадаром Юрасём фундаментальная анталогія "Беларуская думка XX стагоддзя: Філасофія, рэлігія, культура" (Варшава, 1998). У навуковы, літаратурны і сацыякультурны кантэкст пачалі ўваходзіць творцы беларускай гісторыі і нацыянальнай культуры, абылганыя і "забытыя" пры бальшавіцкай уладзе над Беларуссю.

Першай "добрай весткай" у гэтым кірунку быў зборнік артыкулаў і эсэ "Вяртанне маўклівая споведзь: Постаці творцаў беларускай гісторыі ў кантэксце часу" (Мінск, 1994). Ідэю гэтай сёння ўжо рэдкай кнігі зноў жа падалі літаратуразнаўцы Юрась Гарбінскі і другі наш калега Лявон Юрэвіч. Яна дала пачатак "маўклівай споведзі" забытых, выгнаных і забітых, пераважна пісьменнікаў і навукоўцаў.

Сёння ўжо выйшла пяць тамоў шасцітомнай "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", адзінаццаць тамоў "Беларускай энцыклапедыі" ў 18 тамах. У гэтых выданнях з'явіліся ў біяграфічных даведках і партрэтах постаці забітых, загнаных і выгнаных беларускіх дзеячаў Царквы, іншых пакутнікаў за Веру і Бацькаўшчыну. Але будзем шчырымі: савецкая ідэалагічная селекцыя знікае павольна, асабліва з падручнікаў і наогул з масавай навучальна-асветнай літаратуры. Пра сціплых і "ціхіх" пакутнікаў афіцыйная навука і шырокае кола напаўсавецкага грамадства мала што ведаюць. Сярод персаналіі энцыклапедый, у найменнях тысяч гарадскіх вуліц усёй Беларусі, школ, універсітэтаў, калгасаў дамінуюць імёны савецкіх начальнікаў, камісараў, камандзіраў Чырвонай Арміі і савецкага партызанскага падполля, савецкіх герояў былой перамогі і былой працоўнай славы. На руінах былога Саюза ўсё яшчэ "бродит призрак" Сярпа і Молата, Штыка і Мяча. І толькі недзе на гарызонце віднеецца Крыж. З нашых даведнікаў і ганаровых найменняў падаецца, быццам наша Беларусь — самая мілітарная краіна ў свеце. Мы жывём у вялікіх гарадах і мястэчках. Але вуліцы, школы, калгасы напамінаюць: пакуль што нас пакінулі ў Партызанскім Лесе.

Энцыклапедычная кніга Ю. Гарбінскага мае сваіх папярэднікаў. Першым даследчыкам хрысціянскага адраджэння быў лідэр гэтага руху ў XX стагоддзі ксёндз Адам Станкевіч: спачатку ў газеце "Беларуская крыніца", часопісе "Хрысціянская думка", а пасля ў манаграфіях "Родная мова ў святынях" (1929), "Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення" (1934), "Беларускі хрысціянскі рух" (1939) ён на канкрэтных фактах раскрыў значэнне хрысціянства наогул і Каталіцкага касцёла асабліва ў станаўленні беларускай нацыі і культуры.

Пра нашых царкоўных дзеячаў успамінаюць нарысамі, нататкамі, артыкуламі пісьменніцкі штотыднёвік "Літаратура і мастацтва", газета "Голас Радзімы", часопісы "Крыніца", "Нёман", "Полымя", а сёння — адзін з сапраўды беларускіх па накірунку, змесце і выяўленчым матэрыяле часопіс "Наша Вера", што выдаецца з 1995 года пад рэдакцыяй пісьменніцы Хрысціны Лялько.

І вось цяпер — цэлая энцыклапедыя аднаго аўтара! Рэч унікальная, калі ведаць, што энцыклапедыі рыхтуюцца адмысловымі, арыентаванымі на гэты жанр выдавецтвамі і сотнямі аўтараў. Але кніга Ю. Гарбінскага — не толькі энцыклапедыя. Такі жанр у літаратурнай традыцыі атрымаў назву камбайн. Так назваў Уладзімір Дубоўка сваю арыштаваную бальшавікамі "Штурмуйце будучыні аванпосты" (1929).

Энцыклапедычны камбайн Ю. Гарбінскага суладжвае прадмову, два раздзелы асноўнай часткі — персаналію, скампанаваную па энцыклапедычным прынцыпе, і выбраныя крыніцы, на аснове якіх складаліся біяграфічныя даведкі; урэшце, два дадаткі — васемнаццаць унікальных дакументаў, знойдзеных упершыню ў архівах альбо ўзятых з рэдкіх, амаль забытых выданняў. Персаналія (з указаннем асноўных крыніц і бібліяграфіі) дае ўяўленне пра выдатную падзею XX стагоддзя — беларускае хрысціянскае адраджэнне, вяртанне Праваслаўнай царквы і Каталіцкага касцёла ў кантэкст гісторыі і культурна-нацыянальнай традыцыі беларусаў.

Першае моцнае ўражанне, што западае ў душу пасля прачытання кнігі, — адчуванне таго, што ты далучыўся да вялікай драмы XX стагоддзя, перажытай укрыжаванай нацыяй і яе героямі. Да пісьменніцкага, акадэмічнага, асветніцкага і самага вялікага сялянскага беларускага мартыралога сёння далучаецца мартыралог святарскі. Жыццё беларускіх рэлігійных дзеячаў было светлае і па-людску шляхетнае, у духоўным плане набліжанае да анёльскага. Але і трагічнае: большасць іх загінула ад крывавых рук антыхрыстовых служак. Так бывала спрадвеку: пачынаючы вайну са сваім і чужым народам, дыктатуры найперш забівалі іх духоўную і свецкую эліту. Так паступіў біблейскі Саул: "І сказаў цар Доіку: пайдзі і казні святароў. І пайшоў Доік Ідумеянін, і напаў на святароў, і забіў у той дзень восемдзесят пяць мужоў, якія насілі льняны эфод (...). І мужчын, і жанчын, і юнакоў, і немаўлятаў, і валоў, і аслоў, і авечак забіў мячом" (1, Цар 22: 17—20). Паводле старагрэцкага перакладу Септуагінты, усіх забітых было 305.

У бальшавіцкай імперыі колькасць ахвяраў вымяраецца мільёнамі, сярод іх духоўных настаўнікаў — тысячы. Амаль што ўсе лідэры хрысціянскага Адраджэння. Пэўна ж, гэты мартыралог яшчэ дапоўніцца імёнамі пакуль невядомых пакутнікаў за Веру і Айчыну. Аўтарская энцыклапедыя не можа ахапіць усю праблему. Будзем мець на ўвазе нацыянальна-культурныя крытэрыі адбору ўключаных у кнігу жыццяпісаў. У яе ўвайшлі біяграфічныя нарысы тых дзеячаў царквы, якія так ці інакш далучыліся да беларускага нацыянальнага Адраджэння XX стагоддзя. Этнічнае паходжанне і нацыянальная прысутнасць далёка не адно і тое ж. Асноўны крытэрый тут — жыццё і творчасць у кантэксце нацыянальнай мовы і культурнай традыцыі беларусаў. Сярод нашых рэлігійных дзеячаў былі і, верагодна, будуць палякі, украінцы, рускія, латышы, літоўцы. Усе тыя, хто пасадзейнічаў вялікай падзеі стагоддзя — беларускаму нацыянальна-культурнаму Адраджэнню.

Мае абавязкі рэцэнзента палягаюць яшчэ ў тым, каб адказаць на некаторыя пытанні, якія, магчыма, узнікнуць у чытачоў. Чаму, напрыклад, сярод беларускіх рэлігійных дзеячаў шмат католікаў заходняга і ўсходняга абрадаў і значна менш праваслаўных святароў? Чаму пакутнікі за Беларусь — пераважна сялянскія дзеці, а шляхта і меснічы — рэдкасць? Чаму шмат хто з іх рана памёр, калі не ад кулі энкавэдыстаў і лагерных здзекаў, то з прычыны падарванага здароўя? Як, напрыклад, выдатныя асветнікі і пісьменнікі Андрэй Зязюля (Аляксандр Астрамовіч), Казімір Сваяк (Канстанцін Стаповіч), ксёндз Францішак Будзька. Урэшце, чаму гэтыя рыцары духу гадаваліся пераважна ў Заходняй Беларусі, у той час калі з БССР іх няшмат?

Пачнём з апошняга пытання. У складзе адноўленай Польшчы на прысутнасць беларускай мовы і культуры ў касцёле глядзелі коса, паны-начальнікі хацелі ператварыць яго ў палігон суцэльнай паланізацыі і шмат паспелі ў гэтай далёка не хрысціянскай справе. Але ж хрысціянская рэлігія афіцыйна падтрымлівалася. У Савецкай Беларусі спачатку дазволілі толькі абмежаваную аўтаномію Беларускай праваслаўнай царквы, а ў 1925 годзе яе ініцыятар мітрапаліт Мелхіседэк ужо сядзеў у маскоўскай Бутырцы.

А ў Заходняй Беларусі адраджалася Уніяцкая царква, інтэграваная ў беларускай культуры, стваралася Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква. Урэшце, на тэрыторыі Заходняй Беларусі да 1949 года не было бальшавіцкай індустрыялізацыі і калектывізацыі; гэта значыць, захавалася этнічнае ядро нацыі — сялянства. Якраз тады настаў зорны час — з сялянства выйшлі ў свет выдатныя беларускія сыны і дочкі. Занадта шмат сіл, духоўных і фізічных, прыйшлося затраціць ім, каб ад спрадвечнага земляробства і пастухоўства прыйсці ў семінарыі, гімназіі, універсітэты, атрымаць еўрапейскую адукацыю, каб пасля самаахвярна служыць свайму народу. Адсюль — хваробы, найчасцей сухоты, раннія смерці.

Парадаксальнасць беларускай сацыякультурнай сітуацыі ў наступным пытанні. Якім чынам беларуская каталіцкая шляхта, у сваёй большасці апалячаная, нярэдка варожая да беларускай мовы і культурнай традыцыі, аказалася ў эпоху асветніцтва і рамантызму ініцыятарам беларускага моўна-культурнага адраджэння? Агульным адказам на гэтае пытанне было б славутае евангельскае выслоўе: "І святло ў цемры свеціць, і цемра не агарнула яго" (Ян 1:5). Гісторыка-сацыялагічны аналіз беларускага насельніцтва XIX ст. дае магчымасць канкрэтызаваць адказ на гэтае пытанне. Беларуская шляхта ніколі не была поўнасцю апалячана, як гэта здавалася прыхільнікам апрыёрных ацэнак. Паводле ўсерасійскага перапісу насельніцтва 1897 года, каля 40% спадчыннай (родавай) шляхты назвала сваёй роднай моваю мову беларускую. Пачынальнікі новай беларускай літаратуры, выхадцы з каталіцкай шляхты і сялянства былой уніяцкай канфесіі (Паўлюк Багрым, Як Чачот, Ян Баршчэўскі, Вінцэнт Каратынскі, Аляксандр Рыпінскі, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч) добра ведалі родную мову, хоць не вывучалі яе ў польскай альбо рускай школе, не кажучы ўжо пра афіцыйныя імперскія універсітэты. Цудоўна ведаў яе класік польскай літаратуры беларус з Навагрудчыны Адам Міцкевіч, бо сам сведчыў пра гэта, кажучы ў сваіх парыжскіх лекцыях, што яна — адна з самых развітых гаворак сярод іншых славянскіх моў.

У 2-й палове XIX ст. набірала сілу перспектыўная нацыянальная ідэя. Яна мела на ўвазе будаўніцтва унітарных польскай, беларускай, літоўскай і ўкраінскай дзяржаў шляхам эвалюцыйнага развіцця грамадства, нацыянальнай свядомасці, культуры, кансалідацыі народаў. Шляхта былой Рэчы Паспалітай, страціўшы разам з дзяржавай свой ваенна-палітычны аўтарытэт, захавала за сабой духоўна-асветнае і часткова эканамічнае лідэрства. Якраз такі сацыяльна-культурны статус фальваркавай шляхты па-мастацку выявіў Адам Міцкевіч у выдатных паэмах-эпапеях "Пан Тадэвуш" і "Дзяды" — яшчэ да паразы паўстання 1863 года. Небагатая паводле дваранскай меркі беларуская шляхта ўсё ж мела пэўныя рэсурсы для адукацыі і далучэння да агульнаеўрапейскай культуры, без чаго быў бы немагчымы яе пераход ад рэгіянальнай польскай культуры на Беларусі да беларускай нацыянальнай культуры. У гэтым духоўна-культурным працэсе ўдзельнічала сялянства каталіцкага веравызнання дзякуючы магчымасці бясплатна атрымаць адукацыю ў каталіцкіх школах, духоўных семінарыях, а пазней і каталіцкіх акадэміях.

А. Станкевіч упершыню звярнуў увагу на палітычныя і духоўна-экзістэнцыяльныя прычыны, дзеля якіх пачынальнікам нацыянальнага адраджэння была каталіцкая меншасць народа, а не ягоная праваслаўная большасць. Пасля паўстанняў 1794 і 1830—1831 гг. царызм узмацніў рэпрэсіі супраць каталіцтва рымскага і ўсходняга (Унія) абрадаў, у выніку чаго яны аказаліся апазіцыйнымі канфесіямі. Праваслаўнае ж, дабаўлю я, як канфесія дзяржаўная, не магла падтрымаць апазіцыйны з пункту погляду царызму ды імперскай ідэалогіі беларускі нацыянальны рух.

У пачатку XX ст. цэнтр беларускага каталіцкага адраджэння перамясціўся ў Пецярбургскую каталіцкую акадэмію, дзе да 1919 года вучыліся выхадцы з Беларусі, будучыя ксяндзы, ініцыятары руху за беларусізацыю Касцёла, у сваёй большасці сыны сялян-католікаў. Тут яны не толькі атрымалі вышэйшую агульную і тэалагічную адукацыю, але і далучыліся да нацыянальна-адраджэнскага руху, узначаленага лідэрамі БСГ і газетай "Наша Ніва". Студэнты каталіцкай акадэміі В. Гадлеўскі, І. Жаўняровіч, П. Пякарскі, С. Шырокі заснавалі Беларускі гурток (кастрычнік 1913). Апрача іх, першымі змагарамі за Беларусь у асяроддзі каталіцтва былі ксяндзы Ф. Будзька, А. Астрамовіч, Ф. Абрантовіч, В. Гадлеўскі, В. Шутовіч, П. Татарыновіч, А. Цікота, Я. Семашкевіч, М. Пятроўскі, Я. Рэшаць, Л. Хвенцька, Н. Талочка, іншыя выпускнікі каталіцкай акадэміі ў Пецярбургу. Пазней у Заходняй Беларусі лідэрам беларускага каталіцкага адраджэння стаў Адам Станкевіч.

Заслуга штотыднёвай "Нашай Нівы", між іншым, у тым, што яна на працягу дзевяці гадоў абгрунтоўвала і прапагандавала ідэю нацыянальнага адзінства беларускага народа незалежна ад рэлігіі і канфесійнай прыналежнасці, аб'ядпала вакол сябе не толькі свецкіх аўтараў, але і шчырых вернікаў — католікаў, праваслаўных, прыхільнікаў пратэстанцкіх плыняў і новай, беларускай Уніі. На яе старонках усебакова абмяркоўвалася праблема вяртання каталіцкага і праваслаўнага богаслужэння і царкоўнага асветніцтва ў кантэкст беларускай культуры.

З-за недахопу сродкаў "Наша Ніва", фактычна грамадскі інстытут адраджэння Беларусі, вымушана была ў 1912 годзе адмовіцца ад паралельнага выдання кірыліцай і лацінкай, перайшла на адну кірыліцу. Тады яе каталіцкія супрацоўнікі заснавалі беларускую каталіцкую газету для народа "Беларус" ("Bielarus", 1913—1915), што ўдала спалучала свецкае і хрысціянска-касцельнае асветніцтва. "Наша Ніва" не толькі не была супраць новай газеты, але пэўным чынам ініцыявала яе выданне: адзін з яе выдаўцоў Іван Луцкевіч угаварыў будучых рэдактараў "Беларуса" Б. Пачопку, а праз яго А. Бычкоўскага ўзначаліць новую газету, абяцаў дапамогу. А. Станкевіч са слоў таго ж Б. Пачопкі сведчыў, што фактычнымі рэдактарамі газеты "Беларус" былі пісьменнік Ядвігін Ш. (А. Лявіцкі) і Ян Пазняк, пазней адзін з рэдактараў газеты Беларускай хрысціянскай дэмакратычнай партыі (БХД) "Крыніца".

На аснове Беларускага гуртка каталіцкай акадэміі і Пецярбургскага камітэта дапамогі беларускім уцекачам з акупаванай нямецкай арміяй часткі Беларусі ў 1917 годзе была заснавана Хрысціянская дэмакратычная злучнасць (ХДЗ) — першапачатковае ядро будучай БХД. Яе першыя ідэолагі — Б. Эпімах-Шыпіла, Ф. Абрантовіч, іншыя дзеячы каталіцкага адраджэнскага руху. У Пецярбургу яна аб'ядпала каля 300 сяброў, мела свой аматарскі тэатр, касцельны хор, а з кастрычніка 1917-га — газету "Крыніца" ("Krynica").

Высланыя бальшавікамі з Пецярбурга кіраўніцтва ХДЗ і рэдакцыя "Крыніцы" на кароткі тэрмін мелі сваё прыстанішча ў Мінску, там яны ўдзельнічалі ў правядзенні Усебеларускага з'езда (18—20 снежня 1917) і ў наступных актах абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, займалі ў яе выбарных органах цэнтрысцкую пазіцыю, супрацоўнічалі з усімі беларускімі партыямі і рухамі, якія падтрымлівалі ідэю нацыянальнага самавызначэння Беларусі. Яшчэ раней у Мінску рыхтавалася стварэнне хрысціянска-дэмакратычнай партыі: 24—25 мая 1917 года ў Кафедральным саборы адбыўся першы з'езд беларускіх ксяндзоў, падрыхтаваны В. Гадлеўскім, Ф. Будзькам, Л. Хвецькам, А. Астрамовічам, А. Цікотам. Прынятая на з'ездзе праграмная рэзалюцыя (шырокая аўтаномія Беларусі, беларуская мова ў школе, увядзенне ў касцёлах казанняў і дадатковых набажэнстваў па-беларуску, заснаванне беларускага грамадска-рэлігійнага перыядычнага выдання і інш.) стала пазней асноваю для распрацоўкі праграмы і тактыкі Беларускай хрысціянскай дэмакратычнай партыі (БХД).

*(Працяг на стар. 14—15)*

## "Віцебшчына ў легендах і паданнях"

**У выдавецтве "Беларусь" пабачыла свет чацвёртая кніга з серыі "Мой родны кут", заснаванай у 1995 годзе. Гэтым разам яна прысвечана блакітнаазёрнай Віцебшчыне. Як і папярэднія тамы, "Віцебшчына ў легендах і паданнях" падрыхтавана (складанне, запіс і апрацоўка матэрыялаў) доктарам філалагічных навук Аляксеем**




**Ненадаўцом. Том атрымаўся аб'ёмным, а змест яго складаюць легенды і паданні, якія па-свойму вытлумачваюць паходжанне 129 населеных пунктаў гэтага кутка Бацькаўшчыны. Па традыцыі, кніга адкрываецца матэрыялам, што дае адказ на тое, адкуль узялася назва абласнога цэнтра. У навукоўцаў наконт гэтага, канешне, іншае меркаванне, у народа — сваё.**

**Паводле версіі, якую прыводзіць А. Ненадавец, на месцы сённяшняга Віцебска вельмі даўно знаходзілася крынічка, дзякуючы жыватворнай вадзе якой можна было вылечыцца ад розных хвароб. Але знайшлася "адна злая баба з тае вёскі, дзе адны злыдні жылі, прыйшла да крынічкі і давай у ёй брудную бялізну паласкаць. Гэта каб людзям не дапамагала". А ў гэты час акурат прыйшлі да крынічкі "старая бабулька з унучкай. Тая хварэла нейкай цяжкай хваробай, і ніхто ўжо не мог дапамагчы".**

**Апошняе спадзяванне заставалася на цудадзейную крынічку, а тут...**

**"Бабулька як убачыла такія здзекі над цудадзейнай вадой, дык ажно закрычала:**

**— Што ж гэта ты робіш?**

**А баба адвярнулася і рагоча:**

**— Вось вашай крыніцы... Вось ёй...**

**— Каб ты за гэта віцьбай вілася! — узлавалася старая і прашаптала страшны заклён.**

**Так і здарылася. Крынічка тая прапала, а з яе пачала выцякаць рачулка, ды такая пакручастая, такая непрадказальная, што ўсё жыццё з ёю пакутавалі тыя, хто жыў на яе берагах. Рачулку сталі людзі Віцьбай зваць. Потым на беразе вырас высокі, спачатку драўляны, а там ужо і мураваны, замак-крэпасць. Яго таксама звалі ад рэчкі, Віцьбескам, а пазней — Віцебскам".**

**Магчыма, знойдуцца тыя, хто, прачытаўшы гэта, усміхнецца — вельмі ж усё проста, а ў нечым і наіўна вытлумачваецца паходжанне назвы Віцебска. Канешне, гэта толькі праяўленне багатай фантазіі, але відавочна, што, прыдуманае калісь невядомым аўтарам, зацікавіла многіх, таму і перадавалася з пакалення ў пакаленне. І трэба ставіцца да яе, як да аднаго з фальклорных твораў, а фальклор, добра вядома, заўсёды мае вялікую прыцягальную сілу.**

**Каторае паданне ці легенду з прапанаваных А. Ненадаўцом ні возьмеш, абавязкова знойдзеш для сябе нешта цікавае. Даследчык запісаў гісторыі, якія вытлумачваюць паходжанне як вялікіх, так і малых населеных пунктаў. Для прыкладу, вёскі Юзіха, што знаходзіцца ў Шаркаўшчынскім раёне: "Быў у адной матулі сын. Звалі яго Юзік". Калі вырас, пакахаў простую дзяўчыну, але тая не спадабалася яго бацьку, бо з'яўлялася галадранкай. Аднак як ні адгаворвалі сына, каб не жаніўся, нічога не атрымалася. Тады маці адцуралася яго і папрасіла, каб забралі ў салдаты. А сама "па-ўсялякаму чаплялася да нявесткі".**

**Трывала тая абразы, а пасля...**

**"Аднае раніцы знялі яе сяляне з разгалістай вярбы, якая расла над самай ракой. Там жа, на беражочку, і пахавалі бедалагу.**

**Калі вярнуўся з войска Юзік, то першай справай пачаў дапытвацца, дзе жонка. Яму і паказалі зарослую магілку. Тады ён кінуўся ў раку ды і ўтапіўся.**

**Даўно гэта было. Няма і тае вярбы, і тае рачулкі, а вось памяць пра гаротную жанчыну захавалася ў паданні. Ад гэтага падання і вёска пайшла — Юзіха".**

**З кнігі можна даведацца, як народ вытлумачвае паходжанне назваў раённых цэнтраў Віцебшчыны: Бешанковічы, Браслаў, Верхнядзвінск, Гарадок, Глыбокае, Докшыцы, Дуброўна, Лепель, Лёзна, Міёры і іншыя, а таксама вёсак, сярод якіх ёсць і назвы, якія ў іншых мясцінах, бадай, не напаткаеш: Холм, Сар'я, Мардукі, Лындзіна, Старая Палата, Рыбакі, Казьяны... Тым больш цікава прачытаць, адкуль іх назвы пайшлі.**

**Міхась ГЕНЬКА**

УРАЖАННЕ

# Ці трэба шукаць героя?

У адным са сваіх артыкулаў, змешчаных у "ЛіМе", я ўжо выказваў свае думкі і ўражанні аб прачытаных у перыядычным друку мастацкіх творах, у асноўным паэтычных. Сёння хачу зноў паразважаць аб тым, што прачытаў у апошні час, і адказаць на пытанне, вынесенае ў загаловак гэтага артыкула. Перш за ўсё пойдзе гаворка пра мастацкую публіцыстыку, пра творы мемуарнага і дзённікавага характару, якіх у нас стала ў дастатковай колькасці.

Найперш хочацца згадаць пра дзённікі Максіма Танка, урыўкі з якіх змяшчаліся не так даўно ў некалькіх нумарах часопіса "Полымя". Хоць у гэтых запісах шмат фактаў, якія адносіліся да службовых спраў былога першага сакратара, затым старшыні Саюза пісьменнікаў, Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі, прыцягваюць увагу тыя месцы, дзе гаворыцца аб творчай працы, аб літаратуры і мастацтве, адносінах паміж пісьменнікамі, дзеячамі культуры, наогул паміж людзьмі. Максім Танк падкрэсліваў у адным са сваіх запісаў: "Дзённік мой становіцца нястомным субяседнікам, якога магу разбудзіць у любы час ночы і працягваць бяседу — весці гэтыя хаатычныя запісы".

Наконт "хаатычнасці" сваіх запісаў паэт памыліўся. Яго запісы, зробленыя без прэтэнзій на мастацкія якасці напісанага, цікавыя і як дзённікі, і як літаратурныя творы.

Кніга Янкі Брыля "Пішу як жыву" — блізкая па тэматыцы і апісанні падзей, фактаў з жыцця і творчай працы запісам Максіма Танка. У Івана Антонавіча што ні сказ, што ні слова — адкрыццё свайго свету, як знешняга, так і ўнутранага. Пра што б ні гаварыў аўтар — пра сваіх блізкіх людзей, сяброў, калег па пяры — верыш яму, кожнай яго літары. Прыкладаў можна прывесці мноства. Дастаткова прыгадаць, як Янка Брыль неўзабаве пасля вайны пазнаёміўся з былым франтавіком, цудоўным нашым літаратарам Фёдарам Міхайлавічам Янкоўскім: яны сустракаліся яшчэ на руінах Мінска, заходзілі разам у адну з невялікіх ацалелых цэркваў, што стаяла непадалёк ад Дома ўрада. З якой замілаванасцю, пачуццём любові і дружбы расказвае пісьменнік пра свайго сябра, якога, на вялікі жаль, ужо няма сярод нас. Уся кніга Янкі Брыля, як і астатнія яго кнігі — гэта простыя, але мудрыя аповеды пра людзей працы, творцаў чалавечага шчасця. Ён не шукае герояў для сваіх твораў. Яны побач, усюды — у горадзе, у вёсцы, на радзіме і за яе межамі. Толькі трэба прыглядзецца, заўважыць іх і перадаць тыя рысы характару, асаблівасці кожнага чалавека, як гэта ўмее рабіць Янка Брыль.

Дакументальнай прозай сёння захапіліся многія нашы пісьменнікі. І гэта зразумела. Само жыццё падказвае гэта. На вялікі раман не хопіць часу. Таму аўтары ў большасці сваёй звяртаюцца да жанру дакументалістыкі, да дзённікавых запісаў, у якіх выказваюць свае думкі і пачуцці ў адносінах да ўсяго ўбачанага ў жыцці і перажытага самімі.

Не раз ужо змяшчаліся ў нашым штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва", у часопісах "Полымя", "Маладосць" дзённікавыя запісы Вячаслава Адамчыка пад назвай "Сам перад сабой", Леаніда Галубовіча "Зацемкі з левай кішэні" (выйшлі нават асобнай кнігай), Казіміра Камейшы "Па законе прыгажосці", Уладзіміра Паўлава "Бог чуе таго, хто плача", Віктара Гардзея "Далёка бачны таполі юнацтва", Уладзіміра Ліпскага — пра сваіх падшэфных з Вялікіх і Малых Аўцюкоў, Навума Гальпяровіча "Шляхі і вяртанні". З асаблівай цікавасцю я прачытаў дакументальную аповесць Міколы Купрэева, напісаную добрай, сакавітай беларускай мовай. Няхай мяне прабачаць, калі каго не згадаў. Блізкімі да дакументальнага жанру я асабліва палічыў аповесць Адольфа Варановіча "Валацуга", апавяданне Алеся Бадака "Сабака, які забыў сваё імя", некаторыя іншыя творы, змешчаныя ў перыёдыцы. Для ўсіх іх характэрна тое, што яны напісаны на тэмы сённяшняга дня і закранаюць балючыя пытанні нашага жыцця: у першым творы — лёс простага чалавека, працаўніка, які не па сваёй віне стаў так званым "бомжам", у другім — сабака-дварняжка так любіць сваё жытло, сваю радзіму, як не могуць любіць некаторыя людзі...

Асобна хочацца сказаць пра запіскі Уладзіміра Ліпскага. Для мяне яны асабліва блізкія, таму што ў мясцінах, якія там згадваюцца, мне давялося быць шмат гадоў таму. Наша дывізія, восенню і зімой 1943 года вызваляла Калінкавіцкі раён, я асабіста з баямі праходзіў праз Вялікія і Малыя Аўцюкі, сустракаўся з іх жыхарамі, вызваляў іх ад фашысцкай няволі. І калі Уладзімір Сцяпанавіч зараз перадае запісаныя ад іх выслоўі, прымаўкі, я чую іх галасы, мне здаецца, я зноўку з імі размаўляю на чыстай нашай роднай беларускай мове. І як гэта выглядае цудоўна, прыгожа ў параўнанні з тымі халоднымі, не вельмі змястоўнымі перадачамі, якія часам гучаць на нашым нацыянальным беларускім тэлебачанні. А ў апошні час там усё радзей і радзей пачынае гучаць роднае слова...

Дарэчы, у мяне таксама ўжо ёсць некалькі сшыткаў дзённікавых запісаў, якія яшчэ чакаюць свайго часу. Хочацца толькі звярнуць увагу на тое, чым кранаюць, падкупляюць чытача тыя творы, у якіх, як сказала наша цудоўная паэтэса Людміла Рублеўская, "Тытунь і мяту ў водар не з'яднаць". Усё ў іх павінна быць так, як ёсць у самім жыцці, у іншым побыце. А калі што становіцца незразумелым ці няясным, тады задаеш сабе пытанне адным з геніяльных радкоў Максіма Танка: "А дзе ты знойдзеш тое дрэва, з якога шум лясны пачаўся?" А пісьменніку трэба ведаць гэта дрэва, як трэба ведаць і таго героя, пра якога піша.

Цікавасць (думаю, не толькі ў мяне) выклікалі ўрыўкі з запісных кніжак народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі пад назвай "Няспісанае сэрца", змешчаныя ў восьмым нумары "Полымя" за мінулы год. Гэта неўміручая, шчырая, сардэчная споведзь чалавека-творцы перад сваім народам, перад радзімай. Аўтар шчыра гаворыць пра тое, што ён любіць, што ненавідзеў, што прымаў усёй душой, што адрынаў ад сэрца як чужое, ненавіснае. І правільна падкрэсліў у прадмове да публікацыі паэт, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Сяргей Законнікаў: "Як дакладна, як усеабдымна, не быў бы ён Творцам з вялікай літары".

Што можна дадаць да гэтых слоў, калі гаварыць пра запіскі Пімена Панчанкі і пра тое, што ён у іх выказаў? Кожны радок, кожнае слова выклікае шмат думак і пачуццяў. Як сказаў аб гэтым адзін з нашых вядомых паэтаў Мікола Хведаровіч у сваім вершы "Ганяю плыты": "Адзін я з думкамі сваімі, а іншых мне не трэба". Так, Пімен Емяльянавіч сам-насам са сваімі думкамі і пачуццямі выказаў шмат таго, аб чым думаюць, мараць многія творцы мастацкага слова і сёння. Ён заносіў у сшыткі свае рабочыя радкі, каб выкарыстаць потым у вершах, паэмах, ды, на вялікі жаль, не паспеў гэтага зрабіць. За сэрца кранаюць такія радкі:

*Сядзіш, нібы ў калысцы,*
*І крылле па баках.*
*А ці было калісьці,*
*Што плыў ты ў аблаках?*

*Цягнуцца па небе хмары сонна,*
*Тратуар ад дожджыка рабы,*
*І брыдуць дзядзькі пад парасонамі,*
*Быццам пачарнелыя грыбы.*

Безумоўна, такія радкі маглі б упрыгожыць, аздобіць любую паэму ці баладу, якія былі ў задумцы паэта. І кожны з многіх добрых паэтаў можа сёння пазайздросціць такому майстэрству.

А пагледзіце, шаноўныя сябры-паэты, якія ў Пімена Емяльянавіча ў запісной кніжцы рыфмы, не выкарыстаныя ў напісанні вершаў: "раніца—раіцца", "міністры—маністы", "схопіць—копаць", "ясна—прыязна", "песнямі—пенсію", "праматалі—пры метале", "карыта-закрыта", "луста—глупства", "праз лісце—празрысцей" і г. д., і г. д. "Якая дакладнасць, якая ўсеабдымнасць!" — зноў можна паўтарыць словы С. Законнікава, які пісаў прадмову да панчанкаўскіх запісак. Такія рыфмы мог прыдумаць толькі хіба яшчэ адзін цудоўны майстар паэтычнага слова — наш паважаны Рыгор Іванавіч Барадулін. Хай не пакрыўдзяцца Васіль Зуёнак, Віктар Ярац ці яшчэ хто з нашых добрых паэтаў.

А вось запісы, зробленыя Піменам Емяльянавічам быццам бы незнарок, а колькі яны выклікаюць думак і пачуццяў у адносінах да нашага сённяшняга жыцця: "Пайду па дарогах, нібы жабрак, мне хлеба ўсюды дадуць... І вады глыток... але як мне ў вочы бяроз глядзець? Я кляўся, я марыў зрабіць так многа...". Альбо пра самае балючае, пра што не раз Пімен Панчанка пісаў і ў сваіх вершах раней: "Нельга ненавідзець мову, на якой маці спявала табе калыханку, нельга ненавідзець лес, дзе ты збіраў ягады. Хто ж навучыў цябе ненавідзець?" Не шкодзіла б гэтыя радкі прачытаць некаторым нашым кіраўнікам, чыноўнікам з дзяржаўных высокіх устаноў. Ды дзе там! Хіба яны такія творы чытаюць?

Для Пімена Панчанкі, як і для іншых нашых выдатных паэтаў, празаікаў, героямі для напісання твораў былі людзі, з якімі яны жылі, працавалі разам, само жыццё, сама прырода роднай зямлі, якую яны любілі і любяць усім сэрцам, усёй душой.

Такім пісьменнікам з'яўляецца ў нас аўтар многіх раманаў і аповесцей, надзённай публіцыстыкі, народны пісьменнік Беларусі Іван Пятровіч Шамякін. Пра яго дакументальную прозу трэба гаварыць асобна, што я не бяруся і не асмельваюся рабіць. Скажу толькі адно — ён сваіх герояў не шукае, яны самі прыходзяць да яго і наяве, і ў сне. Прыкладам — многія яго аповесці, напісаныя ў апошнія гады, пасля распаду Савецкага Саюза...

Калі гаварыць пра пошукі герояў для мастацкіх палотнаў, то не магу не спыніцца на двух апошніх, зусім свежых творах беларускай прозы — на рамане Віктара Казько "Бунт незапатрабаванага праху" і "Сямейнай хроніцы ў духу барока" Уладзімір Гніламёдава "Уліс з Прускі", якую можна таксама называць раманам (гэта беспамылкова).

Крыху пра раман Віктара Казько. Ён мне спадабаўся не толькі тым, што ў ім глыбока закрануты падзеі Вялікай Айчыннай вайны, якую мне давялося прайсці ад пачатку да канца, быць у такіх "пераплётах", на некалькі крокаў ад смерці, у якіх аказаліся і героі рамана — стары ўжо салдат Гаўрыла Карповіч і яго сын Герман. Пісьменнік не толькі расказвае пра іх сцежкі-дарожкі, пра тыя гора і пакуты, якія яны вынеслі на гэтых сцежках, — ён глыбока заглядвае ў душы людскія і паказвае па-майстэрску, вобразнымі мастацкімі сродкамі ўсё, што зведваюць яны, чым жылі і жывуць сёння. Нельга без хвалявання чытаць, як салдат амаль на самым полі бою прымае роды ў смяротна параненай жанчыны — сваёй зямлячкі. Калі дзіця толькі што з'явілася на свет, жанчына ўжо была мёртвай. Салдат адрэзаў народжанаму пупавіну, спавіў яго чым мог, прыгарнуў да сэрца. А ў гэты час побач зашчабятала маленькая птушачка. І аўтар рамана тут гаворыць такія словы, што апякаюць сэрца чытача: "Гаўрыла прасачыў за яе пырханнем. То была, здаецца, сінічка, або нейкая іншая, зусім невядомая яму птушка. Кружылася на адным месцы. Апусціўшыся долу, падняўшы хвосцік, трапятала крыльцамі, жаласна, жаласна ціціўкала... Раптам птушка каменем пачала падаць на купіну. Дакранулася лапкамі да яго непакрытай галавы, мазнула крыльцамі па твары, прыпала да яго грудзей, загаласіла, заплакала. І ён зразумеў, што гэта зусім не птушка. То душа, што адляцела ўжо на той свет, душа гэтай памерлай жанчыны..."

Якая тонкая ніць у развязванні настрою чалавека! Якая сакавітая, чыстая, мілагучная родная мова! Нібыта яна сама дапамагае пісьменніку глыбока і пераканаўча выказваць думкі і пачуцці свайго героя.

Вялікі па аб'ёме твор Уладзіміра Гніламёдава "Уліс з Прускі", змешчаны ў трох нумарах часопіса "Маладосць" (3, 4 і 5 — за 2000 год), я, прызнаюся, чытаў з вялікай цікавасцю і захапленнем, чакаючы выхаду ў свет кожнага наступнага нумара. Аўтар назваў свой твор "Сямейнай хронікай у духу барока" (мастацкага стылю ў галіне архітэктуры), хоць пад назвай смела можна было ставіць надпіс — раман. У ім разглядаецца лёс не толькі адной сям'і, а ўсяго навакольнага люду, які жыве і жыў у адным з раёнаў былой Заходняй Беларусі. Падзеі, якія апісвае аўтар, адбываюцца на пачатку дваццатага стагоддзя.

Увесь твор ад пачатку да канца (а мне здаецца — будзе яго працяг) падкупляе з першых радкоў праўдзівасцю, дакладнас-

цю. Перад вачыма праплываюць здаўна знаёмыя карціны роднага краю, яго прыгожай, чароўнай прыроды, вузкіх сялянскіх палосак у палях, шырокіх зялёных лугоў і, галоўнае, герояў — простых людзей. Жывуць яны і працуюць на сваіх гаспадарках у вёсцы Прускі, што раскінулася ўздоўж невялікай рачулкі непадалёк ад Камянца. Увагу чытача адразу прыкоўвае да сябе сярод многіх вясковых будынкаў хата дзеда Гаўрылы, бацькі Міхаля, іх унука і сына Лявонкі. Аўтар падрабязна прасочвае рост, стаўленне характару маладога чалавека, вучобу ў вясковай школе, затым у гімназіі, паказвае разам з ім і яго сяброў — Ціліпку, Цімошу і іншых. Між іх прыгожай, светлай абліччам і душой выглядае дзяўчына Ганначка, якую пакахаў Лявонка і думае аб ёй увесь час.

Але не трэба падрабязна пераказваць сюжэт твора. Можна коратка перадаць яго словамі самога аўтара, у якіх сказана вельмі многае: што яднала, злучала ў адну суполку гэтых розных, але блізкіх людзей: "Упартасць і настойлівасць у барацьбе за жыццёвае існаванне рабіла іх людзьмі моцнымі і трывалымі. Нягледзячы на сваю закінутасць і даўнюю адлучанасць ад гісторыі, жылі яны адкрыта, умелі размаўляць з зорамі і сусветам, чуць, як расце трава і шэпчацца з берагам вада, давяралі прыродзе і разумелі яе мову". Як шмат эмоцый і думак выклікаюць у чытача такія простыя, але праўдзівыя словы!

Чытаючы гэты твор, шчыра скажу, я думаў і пра сябе, пра сваё маленства і юнацтва. Аўтар расказвае пра заходнебеларускую зямлю, а я нарадзіўся і ўзрастаў на ўсходняй частцы Беларусі, што знаходзіцца на мяжы з Расіяй у вярхоўі Бесядзі, на Магілёўшчыне. І я думаў: як многа агульнага ў нас, хоць мы знаходзімся на далёкай адлегласці адны ад адных — нават побыт, звычаі, паводзіны ў працы, у самім жыцці. Вось у вёсцы Прускі быў цікавы, вясёлы і дасціпны да ўсяго расказчык Кузёмка: ён ведаў усё, дзе што робіцца, і перадаваў вяскоўцам усе новыя і новыя звесткі, пачутыя дзесьці ім ці вычытаныя ў кнігах, газетах. Слухаючы расказы гэтага Кузёмкі, я ўспамінаў свайго дзядзьку Якава з роднай вёскі Альшоў, што каля самага Хоцімска: ён збіраў нас, малых вяскоўцаў, у гурт і чытаў казкі Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна.

Уладзіміра Васільевіча Гніламёдава мы дагэтуль ведалі як удумлівага літаратурнага крытыка, даследчыка, вучонага-філолага. Тут ён змог паказаць сябе і таленавітым майстрам мастацкага слова. Твор напісаны жывой, сакавітай і багатай на розныя адценні роднай беларускай мовай.

На заканчэнне не магу не згадаць нумар штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" за 15 снежня мінулага года. У ім маю ўвагу прыкавалі да сябе нататкі Ніла Гілевіча пад назвай "А праўда ўсё-такі жыве". Як сцвярджае аўтар, гэта — "нататкі пра незабыўнае". У такім плане ён не раз выступаў і раней. Толькі гэта не дзённікавыя запісы, а хутчэй лірычная споведзь майстра мастацкага слова, сапраўдная публіцыстыка, пабудаваная на канкрэтных фактах, падзеях, узятых з нядаўняга мінулага і сённяшняга жыцця краіны. Аўтар гаворыць на ўвесь голас пра тое, чаго часам не заўважаюць альбо не хочуць заўважаць многія з нас. Ён кранае сэрцы чытачоў на ўсіх жанрах: у паэзіі — тонкі, пачуццёвы лірык, у прозе — сапраўдны публіцыст, вучоны-філолаг. Ніл Гілевіч закранае самыя балючыя пытанні сённяшняга стану нашай гісторыі, культуры, літаратуры, мастацтва, гаворыць аб тым, што перашкаджае нацыянальнаму адраджэнню беларускага народа, яго мовы, этнасу. І паказвае ўсё гэта на канкрэтных фактах, прыкладах, узятых з жыцця.

У гэтых нататках, — дай божа, не апошніх на хвалюючую тэму, — Ніл Сымонавіч згадвае свайго даўняга сябра — балгарскага паэта Андрэя Германава, распавядае, у прыватнасці, аб тым, як цудоўны балгарскі пясняр любіў народныя беларускія песні: "Чаму ж мне не пець", "Іванька малодзенькі" і іншыя. Кажучы пра першую, ён пярэчыў таму, каб называць гэтую песню жартоўнай. "Якая ж яна жартоўная, — здзіўляўся Андрэй. — Гэта ж вельмі трагічная песня. Якая страшная трагедыя народа адлюстроўваецца ў ёй. Ды і мелодыя зусім не вясёлая, не забаўная, а горкая, балючая... Не разумею, не разумею... Нешта вы, беларусы, тут набліталі..."

О так, мы ўмеем часам блытацца самі і заблытваць другіх. І дзякуй Вам, Ніл Сымонавіч, што своечасова прыгадваеце такое мудрае і тонкае назіранне балгарскага сябра над тымі з'явамі, якія адбываюцца ў нас і якіх мы, на вялікі жаль, самі не заўважаем...

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

КНІГАРНЯ

# "Антычны дождж" — з нябёсаў паэтычных

Паэзія — субстанцыя далікатная, духавая, яна незалежная ад катэгорыі колькаснай, што засведчыў зборнік вершаў Валянціны Аксак "Антычны дождж", летась выдадзены з ласкі выдавецтва АТ "VILSPA" ў Вільні. Тут вы не знойдзеце звестак ні пра ўлікова-выдавецкія, ні пра ўмоўныя аркушы, — хіба ж такія лічбы хвалююць апантанага чытача, выбранага выбітнай аўтаркай! Так, інтэлектуальная паэзія мае паўнамоцтва — выбіраць, а не толькі долю быць абранаю.

Кніжка туліцца да сэрца. Вядома ж, не таму што яна мае кішэнны фармат. І не толькі таму, што нагадвае чароўнае люстэрка — таму, што ўражвае тут усё: арыгінальнасць і гармонія зместу і формы вершаў, пададзеных тарашкевіцаю, нязвыклая мастацкая аздоба, належная, так патрэбная свабода размяшчэння твораў, — на ўсім ляжыць пячатка вытанчанага мастацкага і эстэтычнага густу паэткі, мастака, выдаўцоў. Так і хочацца ўсклікнуць: "Дзякуй, "VILSPA"! Дзякуй, Вільня! Дзякуй, Валянціна Аксак, за цудоўны дарунак!"

Я не аматар цытаваць анатацыі. Але хіба можна ўтрымацца ад такой спакусы:

***Валяньціна Аксак***
***народжаная на Нясьвіжчыне.***
***У Менску штудыявала ўсясьветную гісторыю. Марна. Але гэта высьвятлілася потым, у Полацку, калі спасцігала Радзіму. Там зьвершаваліся "Цьвінтар" і "Капліца". "Антычны дождж" праліўся ў Менску, дзе й жыве з мужам Уладзімерам ды сынамі Раманам і Багданам.***

Вось, аказваецца, як незаштампавана, а цікава, дынамічна і ёміста, сутнасна можна распавесці пра творчую асобу! Хутчэй за ўсё пра сябе так умела сказала сама творца. А зараз — роздум пасля інфармацыі: у хаце — тры мужчыны! Значыць, адна ўжо кухня, пліта колькі паглынае часу! Побыт наш неймаверна цяжкі, каб даваў ён жанчыне адпачываць і мець многа вольнага часу. Тут, як кажуць, не да натхнення. Адкуль жа ў Валянціны Аксак такое арыстакратычнае пісьмо, такая класічная прага дасканаласці, такая багдановічаўска-скарынаўская любоў да характва, да адзінства формы й зместу:

***Ня маю права памерці,***
***бо не збудавала храм,***
***у якім мяне***
***адсьпяваюць.***

Адкуль такая прыўзнятасць мастацкіх вобразаў, пачуццяў, думак (верш "Сын"):

***Пялёсткі пальчыкаў***
***спадобіліся***
***да сукветў ружы,***
***буточык набрыняў***
***у водах зіхатлівага Хаосу,***
***Сусьвет успомніў***
***нешта пра былое***
***й паволі новым***
***кветкам расьцвітае.***

Паэтычнае бачанне свету выяўляецца ў творцы адчуваннем незвычайнай красы, чысціні, маштабнасці: "іх шлюбныя пасьцелі млечныя", "сусьвет тваіх вачэй", "пялёсткі пальчыкаў", "сузор'е журавінаў"... "Антычны дождж" светлы, чысты і цёплы. У зборніку дамінуюць матывы антычнага свету, вядомыя антычныя багі, побач, паралельна ідуць нашыя — язычніцкія. Паэтку хвалюе і шмат што з нашае рэчаіснасці. Вось як нязвыкла, па-мастакоўску свежа, праніклівa распавяла яна пра вынікі нейкага рэферэндуму:

***Слова згубіла водар,***
***думка згубіла згук,***
***на горлах ва ўсіх —***
***адэнома,***
***на сэрцах —***
***інфарктны струп,***
***а душы,***
***яны ня ў вырай***
***памкнуліся назаўжды,***
***паклікаў іх нейчы вырак***
***ці выдых***
***туды,***
***дзе магчымы ўдых.***

Гэтак жа арыгінальна выказала яна свае думкі і пачуцці ў вершы "27 ліпеня":

***Нібыта восень —***
***ліпнёвы хмурны дзень,***
***спагады просім —***
***ня маем***
***анідзе,***
***у лета краскі***
***зьлінялі,***
***як штандар,***
***што з нашай ласкі***
***зьвісае долу з хмар.***

Нашае прыгожае пісьменства заўсёды радавала не толькі глыбокім зместам, але і характвом формы. Вершы Валянціны Аксак па форме фігурныя ці максімальна блізкія да такіх. Як у змесце ёсць стрыжань, так у форме — цэнтр, з якім перакрыжоўваюцца радкі, у выніку ствараючы "малюнкі", што нагадваюць то велічную калону ці вежу, то сілуэт жаночага строю, то гожую вазу, то кветку, то чалавечае сэрца... Невыпадкова некаторыя вершы паэтка называе эцюдамі — яны часта блізкія да музыкі. Адчуваецца, натуральна, што іх стваральніца ўлюбёная ў мастацтва.

Ёсць у кнізе і творы, куды трапілі некаторыя сучасныя паэты, неардынарныя, таленавітыя, непрыгладжаныя, да прыкладу, верш "Чытаючы Міколу Купрэева". Яскравы атрымаўся верш "У альбом вядомаму паэту", тут гамонка з Анатолем Сысом. Валянціна Аксак не першая звяртаецца да постаці гэтага паэта — праслаўляла яго й Данута Бічэль. Дзіўна: Анатоля Сыса правакацыйна праслаўляюць, стымулюючы ў ім развіццё горшых якасцей, мамы, у якіх ёсць сыны. Яго пахвальваюць, а ён тым часам паціху дэградуе настолькі, што яго, нядаўнага волата, пачынаюць буцкаць розныя жабкі.. Дык навошта тая ідэалізацыя, стварэнне ідала? Ці то не больш было б карысці, каб мы білі трывогу накшталт: "Апомніся, Сыс! Падумай пра сябе і літаратуру!"

Мне імпануюць многія настроі ў кнізе Валянціны Аксак. У вершы "Сьмешна" гаворка пра тое, як прыходзяць музы і паэтычныя радкі, штрых-пункцірна — пра лёс жанчынытворцы. Яшчэ раз вельмі хораша паказвае Валянціну як творцу-маці вось гэты верш:

***Мне сын сказаў:***
***настаўніца старая,***
***ёй ажно дваццаць шэсьць гадоў!***
***Ну, што тут запярэчыш,***
***рацыю ён мае —***
***жанчыны маладыя***
***хіба ставяць***
***мужчынаў***
***тварам***
***да кутоў?***

Праўда, калі паэты ўжываюць словы: "мае рацыю", я ўспамінаю пра шпіёнаў ці міліцыянтаў. Сучасная беларуская мова такая багатая, што вельмі лёгка абысціся без падобных выразаў на карысць натуральных, простых, прыгожых.

Шмат што добрае яшчэ ды і трохі крытычнае можна сказаць пра белы "Антычны дождж" Валянціны Аксак (ёсць у кніжцы неапраўдана ўскладнёныя творы, ёсць і амаль празаічныя вершы), але гэта не рэцэнзія, а водгук на падзею. З Богам, паэтка, да новых вышыняў!

**Васіль ЖУКОВІЧ**

# Незабыўнымі сцежкамі

Калі памірае чалавек, асабліва вядомы, то неўзабаве гісторыя яго жыцця абрастае міфамі, здагадкамі, меркаваннямі. Кожны па-свойму бачыць гэтую асобу, па-рознаму ўспрымаюць розныя людзьмі яе погляды, сямейны ўклад, кантакты. Вельмі каштоўныя, з гэтага пункту гледжання, з'яўляюцца сведчанні сяброў і блізкіх. У такім плане якраз і цікавая, карысная для нашчадкаў кніга сына Якуба Коласа Данілы Канстанцінавіча Міцкевіча, што летась выйшла ў свет.

Са старонак названага выдання перад намі, як жывыя, паўстаюць родныя вялікага паэта: яго бацькі, браты і сёстры, жонка, дзеці, сваякі. Яна дае ўяўленне аб тым, як жыў і працаваў Якуб Колас, што ён рабіў у вольны час, з кім сустракаўся, што гаварыў і (галоўнае!) пісаў. І гэта не проста халодны, цвярозы аналіз фактаў, падзей, а па-мастацку выкладзеныя ўражанні таго, хто сам быў сведкам амаль усяго, аб чым ён расказвае. Пра Якуба Коласа ў 20—30-я гады, у час Вялікай Айчыннай вайны, потым у 40-я, 50-я... Пра лёсы яго дзяцей, жонкі... Пра гісторыю напісання твораў...

Даніла Канстанцінавіч доўгі час быў дырэктарам, а потым старшым навуковым супрацоўнікам Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа. Памёр ён у 1996 годзе, не паспеўшы завяршыць кнігу, аднак пакінуў пасля сябе значны фактычны матэрыял, сістэматызаваны і літаратурна апрацаваны. За справу ўзялася яго дачка, унучка Якуба Коласа, старшы навуковы супрацоўнік музея Вера Міцкевіч. Яна перагартала мноства рукапісных лістоў, праслухала сотні метраў магнітафоннай стужкі з запісамі інтэрв'ю свайго бацькі, дадзеных ім у розныя гады карэспандэнтам шматлікіх беларускіх газет і часопісаў. У выніку з'явілася кніга, вельмі патрэбная даследчыкам творчасці Якуба Коласа, а таксама настаўнікам, вучням, студэнтам, пісьменнікам.

Трэба падкрэсліць, што кнігу напісаў чалавек, глыбока зацікаўлены ў тым, каб данесці да чытача дух, абставіны, дэталі і драбніцы, з якіх складаўся побыт Якуба Коласа. Адна з вельмі важных вартасцей гэтага выдання — асаблівая рупнасць аб тым, каб аповед быў дакладны і праўдзівы. Даніла Канстанцінавіч палемізуе з аўтарамі ўспамінаў пра Якуба Коласа, якія прыдумвалі розныя байкі пра песняра, паказвалі яго ў скажоным святле, надавалі яму неісночуыя ў рэальнасці рысы паводзін і характару, чаму многія, на жаль, верылі. Сын Якуба Коласа паказвае нам сапраўднае аблічча бацькі, раскрывае прычыны і прыроду ўзнікнення вакол яго асобы чутак, плётак, недакладнасцей і недарэчнасцей. Ён абараняе светлае імя песняра, прыгожую памяць аб ім. І па гэтай прычыне праца Д. Міцкевіча заслугоўвае пашаны і ўдзячнасці.

У кнізе сабраны матэрыялы розных жанраў і форм: архіўныя звесткі і вершы, публіцыстыка, хроніка падзей з жыцця і творчасці Якуба Коласа. Багата ў ёй фотаздымкаў, якія добра ілюструюць і прыгожа аздабляюць яе змест. Аснову ж кнігі складаюць артыкулы-ўспаміны, напісаныя Д. Міцкевічам пра тыя ці іншыя перыяды жыцця сям'і пісьменніка, пра асобных яе членаў. Ужо назвы артыкулаў гавораць пра іх змест. Вось толькі некаторыя з іх: "Слова пра брата Юрку", "Мясціны летніх адпачынкаў Якуба Коласа на Беларусі", "Якуб Колас у Клязьме", "Пра Ташкент, сяброў-таварышаў і няпростыя стасункі песняроў"... Многае тут надрукавана ўпершыню, над асобнымі матэрыяламі Даніла Канстанцінавіч працаваў не толькі ў апошнія гады, але нават і ў апошнія месяцы свайго жыцця.

У аповедзе Д. Міцкевіча шмат малавядомых і часта нечаканых дэталей і падрабязнасцей. Запамінальна паказаны ў кнізе пачатак Вялікай Айчыннай вайны. Жыва, вобразна напісаны старонкі, прысвечаныя знаходжанню сям'і Я. Коласа ў эвакуацыі, гісторыі стварэння паэмы "Новая зямля", іншым знамянальным фактам творчай біяграфіі народнага пісьменніка. Вядома, што з адлегласці часу многае з убачанага, адчутага, перажытага ўспрымаецца па-іншаму. Час дапамог Д. Міцкевічу расставіць акцэнты, ацаніць тое, што адбывалася, з сучасных пазіцый.

Прасочваючы гісторыю роду Міцкевічаў — бацькоў Якуба Коласа, яго дзяцей і ўнукаў, пераконваешся ў тым, што Міцкевічы заўсёды мелі высокі і важкі духоўны набытак. Гэта былі не толькі ўзаемапавага і разуменне ў сям'і, ветлівыя і паважлівыя адносіны паміж яе членамі, не толькі пастаяннае творчае гарэнне аднаго і ўменне адгукацца на яго астатніх, не толькі цягавітасць і любоў да працы — як фізічнай, так і разумовай. Галоўнае тут (і гэтая думка праходзіць праз усе артыкулы, змешчаныя ў кнізе "Любіць і помніць", аб'ядноўваючы іх у адно цэлае) — беларуская ідэя, прысутнасць якой разам з адданым ёй служэннем былі неад'емнымі характэрнымі рысамі жыццёвага ладу Міцкевічаў. З маленства дзеці чулі ў сям'і беларускую мову, вучыліся ёй па беларускіх букварах, кнігах нашых пісьменнікаў, з самых ранніх гадоў у спіс важнейшых для іх паняццяў пачыналі ўваходзіць Радзіма, народ, патрыятызм. Гэта дадавала трываласці, загартоўвала волю, прымушала не адступаць, а ісці наперад у самых, здавалася б, складаных сітуацыях, абставінах. Пры ўсіх уладах сумленне не дазваляла Міцкевічам прыніжаць сябе, разменьвацца на дробнае і нікчэмнае. Яны заставаліся людзьмі ў лепшым значэнні гэтага слова. Памяць уб усіх перыпетыях іх лёсаў беражліва захоўвае і старанна даносіць да нас кніга Д. Міцкевіча "Любіць і помніць".

Шмат хто з нас пасля знаёмства з гэтым выданнем са здзіўленнем адкрыюць для сябе зусім новага Якуба Коласа, змогуць дакрануцца да невычэрпнага багацця яго творчай спадчыны, даведацца аб тым, як працякаў працэс напісання ім твораў. Магчыма, некага кніга "Любіць і помніць" падштурхне зацікавіцца коласазнаўствам, нехта пасля яе прачытання захоча наведаць літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа, пабыць у коласаўскіх мясцінах на Стаўбцоўшчыне... Значыць, мэта аўтара дасягнута, абудзіць цікавасць да Я. Коласа яму ўдалося.

Мы знарок не акцэнтавалі ўвагу чытача на тым, што сын Якуба Коласа, Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч — таленавіты вучоны-хімік, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь. Ці так гэта важна? Кніга "Любіць і помніць" сведчыць, што ён быў добрым сынам свайго бацькі і істотна паспрыяў захаванню светлай памяці аб ім і ўмацаванні любові да яго ўсіх нас.

**Святлана САЧАНКА**

*Міцкевіч Д. К. Любіць і помніць: Успаміны пра Якуба Коласа (укладальнік В. Д. Міцкевіч. — Мн., "Полымя", 2000.*

## "Незабудкі"

**Блізіцца да свайго завяршальнага тома "Бібліятэка беларускай дзіцячай літаратуры", якую выдавецтва "Юнацтва" выпускае з 1991 года. Нядаўна пабачыў свет чарговы, дзевяты том "Незабудкі". (Укладальнікі Уладзімір Карызна і Яўген Хвалей). У яго ўвайшлі паэтычныя творы, напісаныя для дзяцей (кніга ў першую чаргу адрасавана малодшаму**




**школьнаму ўзросту) сучаснымі пісьменнікамі. Тэматычна атрымалася яна разнастайнай, але аб чым ні пісалі б аўтары, абавязкова робяць гэта займальна, непаўторна. Каторы твор ні возьмеш, адчуванне такое, што змог вярнуцца ў дзівосны свет маленства. А ў гэтым свеце магчыма ўсё. Як у "Жарце" Рыгора Барадуліна:**

*Проста жах —*
*Гарыць калодзеж.*
*Аж пад неба*
*Полымя.*
*Чым астудзіш?*
*Не рукамі голымі!*

*Што рабіць?*
*Бяда*
*Адна —*
*Выгарыць*
*Вада*
*Да дна.*

*Што рабіць*
*І што рашыць?*

*Як ваду*
*Вадой тушыць?*

**Хлапчук жа з верша Генадзя Бураўкіна "Янкавы санкі" — з тых, хто не любіць сядзець у хаце, а бавіць вольны час на свежым паветры:**

*Для малога Янкі*
*Мы купілі санкі.*
*Як маланкі,*
*Палазы,*
*Каб блішчэлі ў маразы.*
*І цяпер ад ранку*
*Не ўтрымаеш Янку —*
*Так і рвецца за сяло,*
*Дзе сумётаў намяло.*

**Даўно хораша зарэкамендаваў сябе як дзіцячы пісьменнік Віктар Гардзей. Як і ў вышэйзгаданых аўтараў, ён прадстаўлены ў "Незабудках" многімі творамі. Каторы ні возьмеш, застаецца толькі здзіўляцца і па-добраму зайздросціць аўтарскаму ўменню пісаць для маленькіх так, што напісанае лёгка запамінаецца, а нярэдка ўспрымаецца і з гумарам. У шэрагу такіх вершаў і "Зайчыкавы ноты":**

*У музычнай школе*
*Зайчык дзень прабыў,*
*— До-рэ-мі — фасоля —*
*Ноты ён вучыў.*

*Потым ля загона*
*Рваў стручкі за трох*
*І спяваў натхнёна:*
*— До-рэ-мі — гарох!*

**З вершаў Ніла Гілевіча нельга не адзначыць "Родную мову". І іншыя аўтары "Незабудак" пішуць пра хараство матчынай гаворкі, але твор Н. Гілевіча хораша вылучаецца:**

*Мова родная мая ты,*
*Што і дзедавай была!*
*Мова мамы, мова таты,*
*Мэва нашага сяла.*

*Ты звініш, калі я ўранку*
*Чую песні за акном,*
*І журчыш, як баіць байку*
*Мне бабуля перад сном.*

**А ўсяго ў зборніку прадстаўлена каля 50 аўтараў: ад Алеся Бадака, творамі якога кніга адкрываецца, да Рыгора Яўсеева, якому выпаў гонар яе завяршыць.**

**Міхась ГЕНЬКА**




Сяргей ГРАХОЎСКІ

# Элегіі

## Снежань

*Снежна, —*
*Снежань,*
*Свежна, —*
*Свежань:*
*Усё ў срабрыстай мітульзе.*
*На маўклівае бязмежжа*
*Узіраюся ў тузе:*
*Усё, нібыта за мяжою,*
*Не маё і не чужое,*
*А туга, туга, туга,*
*Як хамут і як дуга,*
*Сціснулі маю душу,*
*Хоць ніколі не грашу,*
*Не грашу,*
*Не прашу,*
*Не хлусіў і не хлушу,*
*Часам слухаю імшу*
*І чакаю навіны,*
*Што ударыць у званы,*
*А званы маўчаць, маўчаць,*
*Як не ведаюць пачаць*
*Сумны ці вясёлы сказ*
*Пра наступнікаў і нас.*
*Іх скідалі два разы*
*Ад слязы і да слязы,*
*А хто скідваў, спрах даўно,*
*Нават знаку не відно.*
*А ўваскрэслыя званы —*
*І сягоння вестуны,*
*Урачыстасць ці трывогу*
*Нам прарочаць, дзякуй Богу,*
*Будзяць чыстае сумленне,*
*Каб ніколі на калені*
*На зняважі і на здзек*
*Не укленчваў Чалавек,*
*Каб гарачай кропляй воску*
*Праслязіўся Матцы Боскай,*
*Не спяшаўся на пагост,*
*А ўздымаўся ў поўны рост,*
*Каб забыў пра страх і здзек*
*У шчаслівы Новы Век.*
*Снежна —*
*Снежань,*
*Свежна —*
*Свежань:*
*Дзесь завеі загулі...*
*Сэрца б'ецца незалежна:*
*Будзе шчасце на зямлі.*

## Ростань з маладосцю

*Я шукаю цябе, маладосць,*
*Я гукаю цябе, маладосць,*
*Дзе ты ёсць? Дзе ты ёсць,*
*Мой жаданы паспешлівы госць?*
*Ты нядоўга ў мяне гасцявала,*
*За паводкаю ў сталасць сплывала,*
*З шумавіннем, сцюдзёнай вадою,*
*Дробнай радасцю, буйнай бядою*
*Ад юнацтва, няволі, да волі,*
*Каб назад не вярнуцца ніколі.*
*Я надоўга засеў на мялі,*
*За сумётам сумёт намялі*
*Завірухі, а ў вокнах узоры*
*Заблішчалі, як сінія зоры,*
*Загайдаўся агеньчык на кноце,*
*Засмылела душа на самоце.*
*Клікаў я для адхлання у госці*
*Прывід колішняй маладосці,*
*Успомніў палкія вусны і вочы,*
*Салаўіныя золкі і ночы.*
*Усё прайшло,*
*прамільгнула, датлела,*
*Нават сталасць даўно перас пела,*
*Я апошні свой круг завяршаю,*
*Развітацца сяброў запрашаю.*
*Іх ужо засталося нямнога,*
*Бо штодня карацее дарога.*

## Рэмінісцэнцыі

*Забыта ўсё, усё дарэшты*
*Датлела ў памяці датла,*
*І не прыпомню нават, дзе ж ты*
*Са мною некалі была.*

*Якое мы сустрэлі ранне,*
*Што замінала нам любіць,*
*І толькі ў колішнім рамане*
*Гарачых вуснаў не забыць.*

*Душа не ведала спакою,*
*Калі з табою нам да дня*
*У сініх прыцемках пакою*
*Шаптала толькі цішыня.*

*Апошнюю вярсту іду я,*
*Лічу забытыя гады,*
*І ўспамінаю, і шкадую,*
*Што шчасце не знайшлі тады.*

## Любоў

*Я назаўсёды адлюбіў*
*Ласкавых, колкіх і трывожных,*
*Баўся, хоць і поруч быў,*
*Крануць не надта асцярожных.*

*Далёкае растала ў дыме,*
*І не заўважылі калі,*
*А ў памяці, як і былі,*
*Усе засталіся маладымі.*

*Але любоў не мае межаў,*
*Яна хвалюе кожны дзень,*
*І неадступная, як цень,*
*То водарам суніцы свежай,*
*Сцюдзёнай ранняю расою,*
*Бязмежжам любае Зямлі,*
*І свежай вільгаццю раллі,*
*І непаўторнаю красою*
*Язміну, срэбраных канвалій*
*І церпкім чадам палыну,*
*І роснай сцежкай у вясну,*
*Пакуль не ўсе зязюлі адкувалі,*
*Я, можа, не спяшацца і ўмалю,*
*Бо Беларусь найбольш люблю.*

## Сцюжа

*Стукае, грукае ў шыбы завея,*
*Белага свету даўно не відно,*
*Неба сівее, пушча сівее,*
*Месяц і зоркі патухлі даўно.*

*Раніцай сцежку не знойдзеш у полі,*
*Не адшукаеш учорашні след,*
*Белыя здані у навакollі*
*Кружацца, як ашалелы балет.*

*Мушу ісці. Ні завея, ні сцюжа*
*Не спыняць, калі неабходна ісці,*
*Пакуль не зламаны,*
*адважны і дужы,*
*Пакуль неабходны*
*камусьці ў жыцці.*

## Каб свету сказаць...

*Сумленне і Воля — з адзінага поля,*
*Між імі няма і не будзе мяжы,*
*Адна у іх вера, адна у іх доля, —*
*Ніколі распятай не быць на крыжы.*

*Іх вечна тапталі каваныя боты*
*І воляй няволю лічылі знарок,*
*У дужых і смелых пыталіся:*
*"Хто ты?"*
*Каб душы і вусны замкнуць*
*на замок,*
*Каб на памост акрываўлена-коўзкі*
*Надзею ўзагнаць і Сумленне Зямлі,*
*Каб толькі зірнуць,*
*як Кастусь Каліноўскі*
*Глядзеў праз акенца*
*п'янькаваў пятлі.*

*Нашчадкі яго не забудуць ніколі,*
*Бязлітасных катаў кляняць,*
*як клялі,*
*Жывуць, каб змагацца*
*за Шчасце і Волю,*
*Каб свету сказаць:*
*"Іх і мы здабылі!"*

## Непазбежнасць

*Гора — на гора,*
*Гара — на гару.*
*Не знікнуў учора,*
*Цяпер дагару.*
*Воблачкам дыму у небе растану,*
*Жменькаю шэрага попелу стану,*
*Не застаецца ні знаку, ні следу.*
*Хадзіў толькі пешкі. Нарэшце праеду.*
*Даўно я маўчу, і нарэшце ачах,*
*Магчыма, узнімуць сябры на плячах.*
*Без музыкі, без ардэнаў і без планак*
*Сустрэну апошні і ціхі прыстанак,*
*І тут застануся у вечным даўгу,*
*Бо "дзякуй" нікому сказаць не змагу.*
*Забудуцца хутка, як хмарку ў зеніце.*
*Адно пажадаю: "Шчасліва жывіце*
*У годным сумленні, з надзеяй у згодзе*
*Шчаслівым народам*
*у вольным народзе".*

## Надзея

*Хоць і нічога я не значу*
*Ні ў ранні час, ні ў позні час,*
*А светлы ранак, як удачу,*
*Я сустракаю кожны раз:*

*Дзіўлюся, як усходзіць сонца,*
*Буркоча голуб на страсе,*
*А у душы, як у скарбонцы, —*
*Усе радасці і беды ўсе.*

*Успомню дальнюю дарогу*
*І ўсё, што некалі было...*
*Устану. Памалюся Богу,*
*Каб Сонца заўтра узышло...*

## Тэлефон

*Даймалі тэлефонныя званкі*
*Ад рання і да позняй ночы:*
*То запрашалі ў госці землякі,*
*То нехта нешта пачытаць ахвочы.*

*Я кожнаму стараўся памагчы:*
*Паслухаць, падтрымаць,*
*сустрэцца.*
*Вяртаўся ў непагоду і ўначы,*
*Не адчуваючы, як сэрца б'ецца.*

*Мае сябры зніклі назаўжды,*
*Бязмоўныя, з патухлымі вачыма...*
*Так пазваніць хацелася туды,*
*Куды ўжо дазваніцца немагчыма.*

*Я на самоце — многа год і дзён*
*Ніхто не запытае: "як жывецца?"*
*Я кратаю маўклівы тэлефон,*
*Хоць ведаю — ніхто не азавецца.*

## Прага праўды

*Чаму хлусня баіцца праўды*
*І цягне свой фальшывы груз?*
*Сумленнаму крычыць:*
*"Не праў ты!"*
*І большы хлус, і меншы хлус.*

*Хлуснёю праўды не закрэсліць,*
*А толькі можна дагадзіць*
*Таму, што выпадкова ў крэсле*
*Вышэйшым за сябе сядзіць.*

*Часамі вырашае лёсы*
*То брыгадзір, то старшыня:*
*Сірочыя не бачыць слёзы,*
*Затое цешыцца радня.*

*Хлусня людскую кроіць долю*
*На ўсе кірункі і лады,*
*А людзі хочуць толькі волі*
*І прагнуць праўды назаўжды.*

## Без слёз

*Даўно мне не хапае слёз,*
*Каб выплакаць усе няўдачы,*
*Хоць быў распяты, як Хрыстос,*
*А слёз маіх ніхто не бачыў.*

*З канцом звяжу усе канцы,*
*Пачую голас: "Памаліся!"*
*А слёз няма. Адны рубцы*
*На сэрцы толькі засталіся.*

ПРОЗА

Адам ГЛОБУС



# Спаць, спаць, спаць...

АПАВЯДАННЕ

КОЛЬКІ СЯБЕ ПАМЯТАЮ, лётаю ў сне. Лётаю па-рознаму Проста ўздымаюся і лячу над вуліцаю, над дрэвамі і мінакамі. Ніхто не здзіўляецца. Мяне не бачаць. І невядома чаму не бачаць, бо я сам сябе цудоўна бачу і выдатна адчуваю. А яшчэ лётаю ў касцёле. У саборы, што на пляцы Незалежнасці, я чамусьці маленечкі, памерам з двухтыднёвае кацянё. Узлятаю да вітражнай ружы і сяджу на ёй, музыку слухаю. А бываю ў снах вялікі-вялікі, як воблака, такое празрыстае і ледзь бачнае. У форме воблака я завісаю над Свіслаччу, ад моста на праспекце Скарыны аж да каменнай альтанкі каля вайсковага штаба. Нечакана пераўвасабляюся ў чорную кропачку і магу заляцець у любую шчыліну. Але найлюбімай формаю для палётаў у снах была і застаецца срэбная стужачка з фальгі. Стужка лётае кепска, бязмэтна, але вельмі па-святочнаму.

Лётаць я пачынаю, калі мне кепска спіцца. І ёсць шмат месцаў на свеце, дзе сны мае трывожныя. Вось у Каіры ўсе ночы спаў кепска. А калі пад раніцу засынаў, дык муадзіны з мінарэтаў якраз тады і пачыналі свае спевы малітоўныя. Кепска спаў і ў Тбілісі. Жыў на праспекце Руставелі. Была гарачыня. Вокны наросхрыст. Вуліца гула і ўдзень і ўночы. І гэтая грузінская манера крычаць на ўсё горла не давала выспацца. І ў Маскве сплю зусім кепска. Масква спіць мала і другім не дае паспаць. І дзе я толькі не спаў у Маскве. І ў гатэлях, і ў інтэрнатах, і ў мастакоўскіх майстэрнях, і ў сяброўскіх кватэрах — паўсюль не высыпаўся. Пра вакзалы і казаць няма чаго. Толькі заплюшчыш вочы на Беларускім чыгуначным, міліцыянт ужо тут. “Спаць на вакзале забараняецца! Будзеш спаць, выганю на дождж!” І выганяў, гадзіна. Даводзілася спускацца ў метро, сядаць у цягнік, які ходзіць па кальцавой, і спаць у вагоне седзячы. Дзе-дзе, а ў цягніку я ніколі добра не спаў. Наколькі я люблю вакзалы, настолькі не люблю цягнікі. Нехта храпе. Нехта ходзіць. Нехта дух псуе. І абавязкова плача дзіця. Спаць немагчыма. Вісіш, гайдаешся паміж сном і яваю ўсю дарогу. Пасля прыезду я доўга-доўга мыюся і потым гадзінку-другую ляжу ў сваім ложку, адпачываю ад вагонных паўсноў. Не спіцца мне і ў правінцыйных гатэльчыках. Ні ў Мсціславе, ні ў Браславе, ні ў Лагойску выспацца я не мог. Вельмі кепска спалася мне і ў мсціслаўскім інтэрнаце для дзяцей з кепскім слыхам. Наогул у інтэрнатах спаць кепска. І ў касцёле, калі жыў там адзін, спаў трывожна. Касцёл не месца для сну. Мяркую, і ў манастырах, такім, як я, спіцца кепска.

Цікава было б паспаць на 76 паверсе Нью-Йоркскага хмарачоса. Як спяць у горадзе, які ніколі не спіць? Пад Парыжскім мостам таксама было б цікава паглядзець сон. Але што казаць пра тое, чаго не зведаў. Пусты занятак.

Лепей раскажу пра свае асноўныя сны. Яны паўтараюцца з году ў год. Ніякай логікі ў іх паўторах я не адсочваў. Можа, яе і няма. Але ж сны гэтыя плывуць і плывуць разам са мною праз усё жыццё. Вось сяджу я на дне акопа і чакаю, калі скончыцца артпадрыхтоўка. На мне вайсковая форма без апазнавальных знакаў. Відавочна, што я салдат. У мяне карабін. Ідзе дождж. У акопе сыра і холадна. Закончылі страляць гарматы. Пачалася атака. Трэба выбірацца з акопа і бегчы на ўсход. А я сяджу, гляджу ў шэрае неба і думаю: ісці ці не ісці? Так і сяджу, так і прачынаюся. Сон гэты ўпершыню я пабачыў у гадоў 10-12. У сне мой узрост быў і застаецца дагэтуль нязменны, у акопе я вечна дваццацігадовы салдат, стрыжаны пад нуль, з чырвонымі ад холаду рукамі. Я вельмі не хацеў, каб сон спраўджваўся, а таму і ў войска не пайшоў. Вядома, сон толькі адна з сотні прычын, каб не ісці ў чужынскае войска, але і такая акалічнасць мелася. Пра беларускае войска ў 10 гадоў яшчэ ўсур’ёз я не дбаў. Думаў пра іншае, пра пераадоленне страху вышыні. Не так і проста ўзлезці на дзесяціметровую вышку і скокнуць у басейн. Узлазіў і скакаў. А сон пра вышку мне сніцца такі. Лезу на высачэзную, метраў 50, вышку з дошак. Вышка стаіць на пустцы каля вінзавода, што насупраць Кальварыйскіх могілак. Лезу на самую верхатуру, а там вецер. Вышка хістаецца, нахіляецца, пачынае падаць, і я падаю-падаю і — прахопліваюся. Не ведаю, колькі разоў я сядзеў у акопе і падаў з вышкі, як не змагу peралічыць колькасць інтымных сустрэч з настаўніцай гісторыі. Была ў мяне такая вясёлая настаўніца ў чырвонай спадніцы і чырвоным пінжаку. Валасы яна выбельвала, пазногці і вусны фарбавала ў найчырванейшыя адценні, а яе чырвоныя чаравічкі мелі высачэзныя абцасы. Я не вельмі любіў сваю настаўніцу ў рэальнасці, а ў сне чамусьці абагаўляў. Яна запрашала да сябе ў госці, распраналася, распранала мяне. Мы любіліся. У яе была поўная, акруглая, рэмбрантаўска-рубенсаўская пастава Данаі. Настаўніца гісторыі пераўвасаблялася ў настаўніцу эротыкі. Вядомы ўсім і нават прэсны сюжэт пра закаханасць вучня ў настаўніцу. Але гэта мой сон, і мне ён дарагі. Пэўна, кожны спрабуе закрычаць у сне, а голасу няма, хоча пабегчы, а ногі не бягуць. І такога мне сніцца багата. Каго гэтымі снамі здзівіш. А вось падзеннем у рэчку, можа, і здзіўлю. Бываюць у жыцці моманты, калі лёс адбіваецца ў сне дакладна, як у люстэрку. Ішоў я па кладачцы праз рэчку. Кладка — два бервяны, а замест парэнчаў — дрот, нацягнуты з аднаго боку. Стаяла позняя восень з холадам і дажджом. Бярвенні былі слізкія, як гады. І ногі паехалі. І ўчапіўся я ў дрот. А дрот выгнуўся. І я ў ботах і фуфайцы бухнуўся ў глыбокую і каламутную лістападаўскую ваду. Выплысць выплыў і да дзедавай хаты бягом прыскакаў і нават не захварэў, але з таго часу мне сніцца і сніцца гэтае лістападаўскае падзенне. Падобнае адбылося і з аўтакатастрофаю. Адзін раз я перакуліўся на машыне, а ў снах зрабіў тое самае разоў сто.

Сны, сны, яны наплываюць і сплываюць. Я бачыў іх безліч. І дасць Бог, яшчэ пабачу. Бывае, мне захочацца сасніць нешта страшнае, я кладуся на левы бок і бачу жахі, а на правым баку сніцца адно добрае. Таму ў дзіцячым садку мяне прывучылі спаць на правым баку. І большасць жыцця я спаў на правым баку. Выхавацелькі былі мудрыя кабеты.

У снах тоіцца свая невычарпальная мудрасць. Свая таямніца смерці і жыцця. У мяне сны звязаліся са смерцю з самага маленства і самым непасрэдным чынам. Як і ўсе малыя дзеці, я мусіў спаць сярод дня. А спаць удзень не любіў. Хто з дзяцей любіць спаць удзень? А пазбегнуць гэтага койданаўскае дзіця магло толькі пры пэўных акалічнасцях, калі некага хавалі, і труну неслі паўз твой дом, — спаць не дазвалялася. А таму, як толькі баба Ядзя казала: “Валодзя, ідзі спаць!”, я ляцеў на двор, выбягаў на сярэдзіну вуліцы —Другой Ленінскай і глядзеў, ці не нясуць нябожчыка. Вуліца наша роўная і відаць ажно да паловы Койданава. І якая была радасць убачыць далёка-далёка пахавальнае шэсце. Калі шэсця не было, я пачынаў услухоўвацца: можа, дзе на бакавой вуліцы грае пахавальны марш? Цішыня расчароўвала. Я ішоў, клаўся, але працягваў услухоўвацца і думаць пра смерць. Я баяўся заснуць летаргічным сном, баяўся прачнуцца ў труне. Тым больш, што мой першы ўспамін пра прачынанне знітоўваўся з падзеннем.

Я прачнуўся ў сваім дзіцячым жалезным ложку. Пакой стаяў пусты. Я паспрабаваў вылезці з ложка, пералез праз парэнчы, паляцеў уніз, зачапіўся нагою за тыя парэнчы і бразнуўся галавою аб жалезную раму ложка. Скуру на лобе моцна рассек. Палілася кроў. Я заплакаў, закрычаў. Аднекуль з варыльні прыбегла маці. Мяне супакоіла, галаву забінтавала. Часам я думаю, што маё вечнае падзенне з дашчанай вежы —гэта нішто іншае, як своеасаблівы адбітак таго дзіцячага падзення з ложка. Але гэта толькі думкі, рацыянальныя, апавядальныя, яны вельмі плыткія ў параўнанні з глыбінямі сноў.

Галоўнае — добра выспацца і не помніць сноў. І ёсць сітуацыі, калі спіцца добра. Пасля доўгага падарожжа выдатна засынаю. Бывае, выкурваю дарагую цыгару і моцна сплю. Пасля тактоўнай пагулянкі, калі без пераборavў, спіцца добра, але прачынаюся кепска. А вось пазаймаўшыся сексам і сплю класна і прачынаюся з цудоўным настроем. Яшчэ люблю прабегчыся ў парку ўздоўж Свіслачы, а калі не хапае сілы —проста пашпацыраваць увечары сярод сонных клёнаў і дубоў. Прагулянкі стамляюць і супакойваюць. Авіцэна раіў тым, хто не можа заснуць, пераплыць рэчку Тыгр два разы, а потым выпіць чырвонага віна. Слушна раіў Або Алі Ібн Сіна. Толькі віна я не п’ю, а вада ў Свіслачы і брудная і халодная, так што пакуль стае сілы, буду бегаць, каб крапчэй спалася.

Ёсць месцы, дзе мне заўсёды добра спалася. У Вільні сплю, як сурок, ці як мядзведзь, як локіс, карацей. У Тайландзе, на беразе Сіямскага мора, у цені ад пальмаў спіцца, як у раі. У белым крымскім дамку ля сіняе бухты я выдатна засынаў. У дзяцінстве любіў спаць на печы. Аднаго разу, узімку праваліўся пад лёд. Дамоў ісці баяўся, прывалокся да сваячніцы, цёткі Камілі. Яна загнала мяне на печ. Які глыбокі быў сон на той цёплай печы. Дзіўна, але мне заўсёды хараша спалася ў аўтобусах “Менск—Мсціслаў” і “Мсціслаў—Менск”. Так хараша спіцца і на нудысцкім пляжы ў скалах пад Барселонаю. Але яшчэ лепш раніцаю пасля сексу заснуць у інтэрнацкім пакоі на вузкім ложку з жанчынаю. Усе сышлі. Ціха. А ты спіш, і жанчына твая пахне свежым цёплым малаком. А як цудоўна было засынаць з мамінай рукою на падушцы. Усе жахі-сполахі знікалі, я трымаў маміну руку каля шчакі і засынаў найсаладзейшым сном у жыцці. А цяпер люблю спаць у сваім ложку з жонкаю. Нездарма ж маці з бацькам падаравалі мне на вяселле канапу і шафу. Простыя рэчы, але калі перабіраю ў памяці падарункі, лепшага не згадаю. Перад сном люблю пачытаць. Хоць старонку, хоць тры радкі, але абавязкова чытаю. У маёй спачывальні тысячы кніг. Без чытанкі не магу заснуць.

Калі ўжо пайшла гутарка пра ложкі, дык на якіх толькі лежбішчах ні даводзілася засынаць. Калі мы жылі на восьмым паверсе насупраць Кальварыйскіх могілак, я любіў улетку пераначаваць на гаўбцы. А ў Койданаве ў цёплыя ночы мы ставілі ў садзе палатку і спалі ў ёй з Толікам Кісялём. А вось з Жэнікам Хвастовічам мы пераначавалі ў лясным шалашы. Наш пяты клас пайшоў у паход. І мы пайшлі. Яны ў адзін бок, а мы ў другі. Яны на возера Пціч, а мы ў Трасцянец. Пайшоў дождж. Яны вярнуліся, а мы засталіся, зрабілі шалаш і пракалаціліся ў ім цэлую ноч. Дома нас адлупілі бацькі. Усё дзяцінства я рабіў нейкія штабы, капаў зямлянкі ў лесе, абсталёўваў схроны на гарышчах у сутарэннях. Найлепшы схрон быў у койданаўскім свіронку. Я нацягаў туды снапоў лёну і, лежачы на іх, чытаў “Казкі тысяча і адной ночы”. Чытаў-чытаў і засынаў, і сніліся мне гарэмы. Дзіўна, але ў Каіры і на Чырвоным моры гарэмы мне не сніліся, хоць ложкі былі добрыя і штовечар у рэстарацыі жанчыны выплясвалі танец жывата. Канешне, у класных гатэлях класныя ложкі і ў іх класна спіцца і ў Амстэрдаме, і ў Бангкоку. Асабліва пасля трохгадзінных экскурсій па кварталах з чырвонымі і ружовымі ліхтарамі.

Перад тым, як заснуць, я люблю згадваць эратычныя экскурсіі. А хто не любіць? Ты? Не веру. Як не паверу, што ёсць людзі, якія не лётаюць у снах. Гэта не зусім людзі, як для мяне. Палёт у сне — лірыка, пра лірыку проста неабходна думаць перад сном, як і пра дзяцінства. А вось пісаць вершы ўночы ў ложку не варта. Напішаш нешта накшталт: “Калі я сплю, я — незалежны, безабаронны, калі сплю”.А далей не складаецца, і заснуць не можаш. Разважаеш пра залежнасць, пра сваё рабства і ў рэшце рэшт устаеш, каб выпіць вады і супакоіцца.

Шмат што ў гэтым жыцці не дае мне заснуць. Бывае, забудуся зачыніць у ванным пакоі свайго любімага ката Чарліка. Ён, гад, прыходзіць ціхенька і кладзецца на мае ногі. Такой мяккай гіраю навальваецца, і даводзіцца ўставаць і зачыняць яго, каб спаў на сваім месцы. Кожны мусіць спаць на ўласным месцы, каб іншым не замінаць. І што можа быць горш за тое, калі адна жывая істота не дае спакойна спаць другой цеплакроўнай, і нават халаднакроўнай істоце? Канешне, рацыянальнасць нашага быцця ў нейкай ступені — бяссонне, а таму пра пакуты бяссоння хай пішуць іншыя. А я іду спаць.

*Вільня, снежань, 2000 год*



*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*

лад, не пацікавіцца жанрам “Барыса”, які вызначаны ў мастацтвазнаўстве як народна-гістарычная музычная драма, а не як умоўна-забаўляльнае шоу, і задумацца над праблемай павагі да аўтара, узгадненнем з першакрыніцай іх “сцэнічнага варыянта”? Як растлумачыў у сваім інтэрв'ю дырэктар і мастацкі кіраўнік Нацыянальнага тэатра оперы С. Картэс, “Мусаргскі — гэта геній, які паўплываў на фарміраванне кампазітараў і музыкантаў усяго свету”. Дык жа генія трэба шанаваць і не трактаваць яго творы як сродак для дасягнення ці ўмацавання ўласнай папулярнасці! Адметнай рысай нашага тэатра робіцца, на жаль, толькі ўшанаванне імёнаў — без сапраўднай павагі да творчасці. Як яшчэ заўважыў спадар Картэс, “калі тэатр дасягае пэўнага ўзроўню, без Мусаргскага нельга”. Дык гэта ж, калі ўзровень высокі і ў музычным, і ў агульнамастацкім сэнсе. А з тэатрамі **пэўнага** ўзроўню... Мусаргскаму нельга.

●

Між іншым, а ці можа лічыцца наш оперны тэатр нацыянальным? Чаму без Мусаргскага ў ім нельга (ёсць многа іншых выдатных оперных аўтараў розных краін і ёсць шмат пастановак “Барыса”, на мой погляд, лепшых за нашы), а без беларускіх аўтараў мажліва? Верагодна, опера самога С. Картэса “Візіт Дамы” на сюжэт швейцарскага драматурга ў рускім перакладзе, якая толькі й затрымалася ў рэпертуары з твораў беларускіх кампазітараў, тут лічыцца дастатковым прадстаўніком нацыянальнага мастацтва? Што ж, тады вялікі дзякуй шаноўнаму кіраўніку тэатра за ўздым нацыянальнага рэпертуару... Хаця б да свайго ўзроўню. Відаць, недасягальнага для іншых.

Наогул падаецца, што дзяржаўны тэатр усё больш нагадвае нейкую гастрольную трупу, якая працуе пераважна па замежных заказах, ігнаруючы развіццё опернага жанру ў родным беларускім творчым асяродку. Па вялікім рахунку, той жа “Барыс” рыхтаваўся першапачаткова ў канцэртным выкананні таксама для гастроляў за мяжой, мажліва, з удзелам замежных салістаў, а ўжо затым “перакваліфікаваўся” ў нацыянальную прэм'еру. Народная драма з рускай гісторыі на нашай опернай сцэне — гэта вельмі добра, тым болей, што ўпамінаецца там і Беларусь (пад назвай Літва), але як не быць побач з ёй і ўласна беларускай гістарычнай драме (шкада, прынамсі, што хутка забыты “Князь Наваградскі” А. Бандарэнкі).

Разам з творамі класічнага рэпертуару павінны хаця б часам выконвацца оперы беларускіх аўтараў. У іншым выпадку нацыянальная оперная сцэна робіцца рэстаўрацыйнай майстэрняю па аднаўленні не ў самым лепшым выглядзе старых спектакляў, а самасвядомасць і самапавага народа ў галіне музычна-драматычнага мастацтва ператвараецца ў нішто.

Няблага было б пашырыць і досвед у сусветным класічным рэпертуары, бо шмат ёсць яшчэ шэдэўраў, якія ніколі не ішлі на нашай сцэне, у той час, калі некаторыя папулярныя оперы ставяцца па некалькі разоў.

Магчыма, менавіта на павышэнне якасці прафесійнай працы, на ўздым прэстыжу нацыянальнага опернага мастацтва трэба скіроўваць час і сродкі, дзеля чаго, магчыма, трэба скараціць трошкі колькасць гэтак жаданых гастроляў, абнавіць склад салістаў. Можа, мэтазгодна было б і нешта змяніць у якасці выкладання вакалу ў Беларускай акадэміі музыкі, каб выхаванцы яе, атрымліваючы дыплом, не абмяжоўваліся невялікай колькасцю вядомых оперных партый, а былі б дастаткова падрыхтаваны вакальна і агульнамузычна для працы над больш складаным рэпертуарам, у тым ліку і сучасным. Задужа ўжо часта параўнанне мастацкіх вынікаў “беларускай школы спеваў” і школ суседніх краін ідзе не на карысць першай. Выкананне адной з партый у новай пастаноўцы “Барыса Гадунова” дапамагло зноў у гэтым упэўніцца.

Ці не надышоў час для некаторых “акадэмічных” настаўнікаў чаму-небудзь падвучыцца ў суседзяў? А калі хто не хоча ці не здольны ўжо навучыцца, дык, можа, не варта далей марнаваць свой час на выкладчыцкай працы, а лепш, як кажуць, пайсці на адпачынак, хаця ў нашай акадэміі гэта амаль не прынята...

Што ж, варта і вам адпачыць ад мяне, шаноўны чытач. Бывайце і даруйце, калі залішне празрыста напісаў...

**Дзмітрый ЛЫБІН,**
**кампазітар, музыказнаўца**

**P.S.** *І да сустрэчы ў тэатры, які апошнім часам так хваляць. Тое не дзіўна, бо — як здаўна кажуць на Беларусі — хто салоўку не слухаў, той і дзеркачовай песні рады.*

**Д. Л.**

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*

ВЫСТАВЫ

# Фарбы зімовых вандровак

Як хутка бяжыць час. Нават не верыцца, што пленэр, прысвечаны Язэпу Драздовічу, які пачаўся напярэдадні праваслаўных Калядаў у Падсвіллі, ужо пяты па ліку. А ці далёка той верасень 1996 года, калі адбыўся першы пленэр у імя гэтага славутага беларускага мастака, гісторыка, этнографа, астранома, творцы... Але ж, здаецца, мала што змянілася за гэты час: як і раней у студзені 2001 года пленэр зноў быў нібыта неафіцыйным. Да яго ніяк не спрычыніліся ні Міністэрства культуры, ні кіраўніцтва Саюза мастакоў, ні мясцовыя ўлады. І хоць сёння ўжо не скажаш, што Язэп Драздовіч забыты ці выключаны з гісторыі беларускага мастацтва, але ж сапраўднага разумення таго, каго мы мелі ў асобе Драздовіча і што страцілі, здаецца, не было і няма. Выключна энтузісты працягваюць займацца ўшанаваннем памяці гэтай надзвычай неардынарнай асобы. Адным з такіх быў гісторык Міхась Райчонак, які так заўчасна пакінуў гэты свет. У прадстаўнікоў жа ўладных структур імя Я. Драздовіча, як і дзейнасць некаторых арганізатараў ды і ўдзельнікаў пленэру, зноў стала сімвалам шкоднага нацыяналізму і таму, папросту, выклікае алергію.

І тым не менш пленэр жыве. І ладзіцца штогод у любых варунках пры падтрымцы віцебскага фонду імя Л. Сапегі, фонду “Ідэя”, а яшчэ дзякуючы актыўнай дзейнасці, вялікім арганізатарскім намаганням і сапраўды мацярынскаму клопату асабіста Ады Райчонак. “Дзяржава, на жаль, нам не дапамагае нават у фінансаванні пленэру, — кажа А. Райчонак. — Хоць цікавасць да пленэру з боку мастакоў даволі вялікая”. “І гэта не дзіўна, — дадае да нашай размовы мастак Алесь Марачкін, — паколькі ў наш час, на жаль, любоў да Бацькаўшчыны — Вялікая палітыка!”

Зімовы пленэр... З'ява даволі рэдкая для нашага зусім не субтрапічнага клімату. А маляваць на пленэры, вандруючы па мясцінах, дзе некалі давялося прайсці пехатой, ці праехаць на спадарожных сялянскіх падводах самому Язэпу Драздовічу двайное задавальненне. Пяць дзён у сапраўды сяброўскім коле творча працавалі жывапісцы, графікі, керамісты, мастацтвазнаўцы рознага ўзросту, пагледзеўшы... пагляд у творчай накіраванасці з Мінска, Віцебска, Полацка, Верхнядзвінска, Шаркоўшчыны. Алесь Марачкін і Уладзімір Сулкоўскі, Алесь Родзін і Віктар Маркавец, Валерый Шчасны і Віктар Крук, Андрусь Піскун і Зміцер Мшар, Тамара Васюк і Алесь Шыёнак, Таццяна Гаранская і Міхась Цыбульскі, Алесь Цыркуноў і Сяржук Харытонаў. Дарэчы, імя апошняга з названых мастакоў, прыехаўшага на пленэр з Кліўленда (ЗША), і “ўзняла” статус пленэру да ўзроўню міжнароднага, як жартавалі самі яго ўдзельнікі.

Зіма для мастака, працуючага на пленэры, гэта сапраўды пошукі новай візуальнасці, новай оптыкі. Бязмежжа белага колеру нібыта нейтралізуе звыклае каларыстычнае бачанне жывапісца, ствараe новую маляўнічую прастору, у якой зусім інакш глядзяцца ўкрытыя снегам старажытныя курганы і пагосты, скаваныя празрыстым лёдам азёры, ахутаныя срэбным туманам храмы, вясковыя хаты, дрэвы...

Літаральна “рытуалам” кожнага пленэру стала наведванне ў Галубіцкай пушчы засценка Пунькі — першага месца, дзе жылі Драздовічы, перабіраючыся з арэнды на арэнду. Тут Драздовіч рабіў свае першыя малюнкі, гэтая зямля, здаецца, яшчэ захоўвае памяць аб ім. Мастакі даўно мараць аб тым, каб у будучым у засценку Пунькі пабудаваць Дом творчасці, і перакананы, што гэтыя мясціны стануць такія ж вядомыя, як рэпінскія Пенаты.

Пунькі ўзімку надзвычай прыгожыя. Цішыня і спакой вакол. Вось і прыпарошаная снегам буйнарослая ліпа, якую маляваў Драздовіч, і тая ж студня... І дзякуй Богу, жывы адзіны гаспадар гэтых мясцін Артусь — сапраўдны “беларускі абарыген”, які добра ведаў Я. Драздовіча.

“Шчаслівы той, хто мае час на вольную творчую працу!” — некалі пісаў Язэп Драздовіч у сваім дзённіку. З вялікім натхненнем мастакі малявалі ў ваколіцах Падсвілля, Бабруйшчыны... Але адметнасць пленэраў імя Я. Драздовіча ў тым, што яны ўяўляюць сабой не толькі “паляванне” за эфектнымі пейзажнымі матывамі, але і набываюць выгляд філасофска-паэтычнага Хаджэння, вынікам якога маглі б быць цудоўныя пуцявыя нарысы. Толькі гэтаму літаратурнаму жанру па сілах было б адлюстраваць падзеі і душэўны настрой, які вызначае драздовічаўскія пленэры. Менавіта там можна было распавесці і аб Калядаванні — сапраўдным хэпенінгу, які наладзілі мастакі, і аб Калядднай вячэры, і аб жывой гамонцы падчас яе. Напэўна, знайшлося б месца там і вершаваным нескладухам Алеся Марачкіна і Уладзіміра Сулкоўскага. Ды і метафізічна-планетарным перформенсам Алеся Родзіна, якія часам нагадвалі містычную дзею. Назіраючы іх, неаднойчы прыгадваліся мне “духоўныя, астральныя падарожжы і магнетыстычныя сны”, пра якія пісаў Язэп Драздовіч. Магічныя знакі, хаджэнне басаногам па снезе, акцыя закопвання мастака ў снег... Усё выглядала надзвычай эфектна...

Але сапраўдным вынікам усяго, што адбылося на пленэры у Падсвіллі, безумоўна, стане пасляпленэрная выстава, якая адбудзецца ў сярэдзіне сакавіка ў Полацку.

**Міхась ЦЫБУЛЬСКІ**

*На здымках: мастакі Віктар Крук, Віктар Шчасны; метафізічны перформенс Алеся Родзіна.*

*Фота М. ЦЫБУЛЬСКАГА*







МУЗЫКА

# Што агульнага ў Моцарта ды Вердзі?

Зразумела, на гэтае пытанне адказваць можна доўга. Самы кароткі адказ вы знойдзеце на каляндарным лістку, які паяднаў абодва славутыя прозвішчы. Сёлета (і даты гэтыя прыпалі на адзін дзень, 27 студзеня) спаўняецца 245 гадоў з дня нараджэння Вольфганга Амадзя Моцарта і 100 гадоў з дня смерці Джузэпе Вердзі.

Даты датамі, а геніяльная музыка жыве па-за часавымі межамі, дый увогуле, як той казаў, — межаў не ведае. Напрыклад, і творы класіка венскай кампазітарскай школы, і творы італьянскага маэстра — у сённяшнім рэпертуарным актыве Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі. З іх нават можна зладкаваць своеасаблівы фестываль, “скампанаваўшы” афішу з Моцартавых опер “Чарадзейная флейта”, “Дон Жуан”, “Вяселле Фігара” ці з Вердзіевых — “Набука”, “Травіята”, “Рыгалета”, “Баль-маскарад”, “Аіда”.

Літаральна днямі шэраг вердзіеўскіх опер наш тэатр дапоўніў канцэртным выкананнем “Дона Карласа”, нагадаўшы не такі ўжо і даўні час, калі гэты шэдэўр пад музычным кіраўніцтвам незабыўнага маэстра Яраслава Вашчака ды ў стылёвай рэжысуры Маргарыты Ізворска-Елізар'евай упрыгожваў беларускую музычную сцэну. Дарэчы, на гэтай сцэне, і таксама адносна нядаўна, і неадройчы, паспяхова выконваўся “Рэквіем” Д. Вердзі. А неўзабаве чакаецца прэм'ера “Трубадура”, над якім цяпер працуе оперная трупа.

**С. Б.**

*На здымках: хор у оперы “Набука”; “Дон Жуан” з У. ПЯТРОВЫМ у галоўнай ролі.*

**Фота А. ДЗМІТРЫЕВА**









# ЧАСАПІС

## "Полымя", N 1

Проза прадстаўлена апавяданнямі "Вялікоднае яйка" В. Быкава і "Зязюля пракукуе заўтра..." А. Кудраўца. Друкуюцца біблейскія балады Р. Барадуліна, вершы С. Законнікава, п'еса С. Кавалёва "Францішка, або Навука кахання". І. Багдановіч прамаўляе слова пра пісьменніцу З. Тшашчкоўскую, якая нарадзілася на Капыльшчыне ("Песні дарагавіцкія") і прапануе некалькі яе паэтычных твораў у сваім перакладзе на беларускую мову. Жыццёвы і навукова-даследчыцкі шлях Я. Карскага аналізуе Я. Янушкевіч ("Калумб Беларусі"). "Купалаўцы — любоў мая" — артыкул Б. Бур'яна. А. Мяснікоў ("Рэаліі Арабскіх Эміратаў") дзеліцца ўражаннямі ад замежнай паездкі. А. Марціновіч ("З цэлым народам гутарку весці...") разважае пра творчасць І. Шамякіна. Творчы воблік П. Панчанкі ў цэнтры ўвагі У. Гніламёдава ("З любоўю і болем"). Змешчаны таксама артыкул Г. Юрчанкі "Паэзія народнай моватворчасці", рэцэнзіі — Т. Нуждзіной на "Выбранае" Я. Янішчыц ("Крынічнае слова") і Т. Грамадчанкі на "Апошнія вершы Леаніда Галубовіча" ("Душа красой жывая").

## "Роднае слова", N 1

Любімае многімі аматарамі беларушчыны выданне выйшла з абноўленым мастацкім афармленнем, выкананым Д. Хамяковай і К. Шапашнікавай. У раздзеле "Школа і нацыянальнае Адраджэнне" прапануюцца выступленні галоўнага рэдактара "Роднага слова" М. Шавыркіна "Дайсці да Беларусі", намесніка начальніка Рэдакцыйнага ўпраўлення Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь Т. Салавянчык "Культура беларускага маўлення ва ўмовах білінгвізму", В. Астрогі "Моўны аспект у вывучэнні беларускай гістарыяграфіі ўсеагульнай гісторыі". "РС" віншуе з 80-годдзем І. Шамякіна і з 70-годдзем М. Мушынскага. Адпаведна слова пра іх прамаўляюць М. Тычына ("Усё чалавечае") і В. Скалабан ("Нястомны даследчык"). М. Мушынскі разглядае "Новую зямлю" Я. Коласа ("Яна асноўная паэма ва ўсёй маёй паэтычнай творчасці"). Часопіс прамаўляе добрыя словы і пра М. Зарэмбу ў сувязі з яго 50-годдзем. Падрыхтавана калектыўная анталогія "Старажытная літаратура Беларусі: Готыка, Рэнесанс, Барока, Класіцызм". "РС" мае намер пазнаёміць сваіх чытачоў з асобнымі матэрыяламі з гэтага рукапісу. Першы з іх — "Феномен старабеларускага пісьменства" І. Саверчанкі. Вобраз Еўфрасінні Полацкай у беларускай літаратуры — тэма артыкула І. Воюш "Я — вясна непаўторная!..." Змешчаны артыкулы Т. Старасценкі "Аксюмаран у мікракантэксце Алеся Разанава", А. Кавальчук "Лексемы — характарыстыкі асобы ў гаворках Гродзеншчыны", М. Булахава "Вялікі сын зямлі беларускай" (да 140-годдзя з дня нараджэння Я. Карскага), Л. Баршчэўскага "Літаратура беларускага барока", І. Іўковіч і З. Кавалевіч "Беларуская і англійская мовы: шляхі кантактнага вывучэння", А. Багданавай "Спорт у скульптуры Беларусі", Т. Габрусь "Замак на рэчцы Лідзея", Т. Кудрашовай "Міфалагема змяі як культуралагічная праблема". А. Карлюкевіч ("Гутаркі з Максімам Танкам") рэцэнзуе кнігу М. Мікуліч "Максім Танк. На скразняках стагоддзя"). Да 50-годдзя М. Пазнякова прапануецца слова пра яго і вершы юбіляра. Можна пазнаёміцца і з вершамі А. Каско, а таксама са словам пра яго "Шчырасць — адзнака таленту" В. Козіч. Настаўніца беларускай мовы і літаратуры СШ N 11 г. Салігорска М. Мацюкевіч падрыхтавала матэрыялы вуснага часопіса "Пуцяводная зорка беларусаў", прысвечанага Еўфрасінні Полацкай.

## "Всемирная литература", N 1

У пачатку верасня мінулага года ў Мінску праходзіў Міжнародны форум "Паслы славянства". Аб тым, пра што ішла гаворка, можна даведацца са шмат якіх матэрыялаў, надрукаваных у першым нумары часопіса "Всемирная литература". Змешчаны артыкул Э. Скобелева "Нам дапаможа культура", выступленні І. Чароты "Адзінства славян: беларускі позірк", Ю. Лошыца "Аб гонары славянства", І. Яніна "Мы многае можам", Я. Тужынскага "Трэцяе тысячагоддзе — заклік да славянскай узаемнасці", П. Яніка "Каб нашы словы былі пачуты". Як заўсёды, багата прадстаўлены мастацкія творы, у шэрагу якіх аповесць І. Шамякіна "Пошукі прытулку", апавяданне А. Савіцкага "Лясныя яблыкі", вершы Г. Пашкова, С. Сырневай, У. Няжданава і іншых, фрагменты з аповесці У. Глушакова "Чарнобыльскі шлях, ці Развітанне ў пачатку вясны". Галоўны рэдактар "Всемирной литературы" Т. Бондар выступае з развагамі "Форум завершаны, форум працягваецца".

ПАЭЗІЯ

Віктар ШНІП



# На мяжы між цемрай і святлом

## Балада вяртання

*Я сягоння ў дзяцінства*
*вярнуцца жадаю,*
*Не таму, што там добра,*
*малому, было,*
*А таму, што па сцежках*
*бацькоўскага краю*
*З хаты ў хату цякло Беларусі святло,*
*Ад якога святлелі самотныя хаты*
*І хацелася быць, і хацелася жыць,*
*І спявалі ля рэчкі пра Яся дзяўчаты,*
*І пускалі вянкі, і хацелася плыць*
*За вянкамі ў нязведаны свет за лясамі,*
*Не таму, што там добра,*
*напэўна, было,*
*А таму, што дабрэйшымі*
*мы былі самі*
*І па сцежках цякло Беларусі святло,*
*Ад якога святлелі самотныя хаты...*
*І мне хочацца быць,*
*і мне хочацца жыць,*
*Бо яшчэ, хоць цішэй,*
*ды спяваюць дзяўчаты*
*І ў нябёсах высокіх белы бусел ляціць.*
*Але ўсё ж у дзяцінства вярнуцца жадаю,*
*Не таму, каб там жыць,*
*а каб дзеду сказаць,*
*Што няма ўжо даўно таго*
*сумнага краю,*
*За які ён хадзіў два разы ваяваць...*

●

*Лета праходзіць, нібыта цягнік,*
*Хутка і шумна, і міма мяне.*
*Следам за летам ляціць востры крык*
*Спуджаных птушак, што плакалі*
*ў сне,*
*Сніўшы пра восеньскі дождж у начы,*
*Дождж, ад якога сябе не схаваць.*
*Плакалі птушкі на дрэвах сплючы,*
*Плакалі птушкі,*
*каб заўтра спяваць,*
*Бо не канчаецца з летам жыццё,*
*Бо не канчаецца ў Бога наш час.*
*Кволыя мы, як на дрэвах лісцё, —*
*Вецер зрывае і кідае нас*
*Следам за летам, як за цягніком*
*Хуткім і шумным, што міма мяне*
*Зноў праляцеў і апалым лістом*
*Ціха ляжу я і ў небе-вакне*
*Бачу зноў птушак, што ў вырай лятуць*
*Па-над зямлёю, дзе хутка снягі*
*Лісце апалае пазамятуць...*
*І мо зноў я, а мо нехта другі*
*Будзе ў захмарнае неба глядзець,*
*Лета чакаць, як чакаць цягніка,*
*Будзе які зноўку міма ляцець*
*Гэтых лясоў і мяне, як лістка...*

●

*Ты быў усюды там, дзе быць хацеў,*
*І ў дзень мінулы, нібы ў смерць, глядзеў*
*І разумеў, што хутка ўсё міне,*
*Нібы святло патушыцца ў вакне,*
*Дзе шчэ цябе чакаюць даўно,*
*Нібы ў чарзе за пляшкаю віна*
*Стаіш ты сам, не помнячы даўно*
*Як свеціцца ў глухой начы вакно,*
*З якога больш табе ўжо не глядзець,*
*А да агню пякельнага ляцець,*
*Як матылю, які не знае дня.*
*Ты быў усюды, дзе была хлусня.*
*І пройдзе ноч, нібыта век міне,*
*Нібы святло народзіцца ў вакне,*
*Дзе ўжо нікога цэлы век няма...*

●

*Там, дзе сонца ў травах п'юць вужы,*
*Ты жывеш, як здрада на мяжы,*
*На мяжы між цемрай і святлом,*
*На мяжы, куды мы ўсе ідзём,*
*Дзе не помнім, хто мы, для чаго*
*Адракліся ад жыцця свайго,*
*А чужога ўцяміць не змаглі.*
*Да магілаў сцежкі зараслі,*
*Зарастуць і сцежкі да жывых.*
*Вечнасць праляціць, нібыта міг,*
*І ніхто не ўспомніць, што былі*
*Мы з табой на гэтае зямлі,*
*Там, дзе сонца ў травах п'юць вужы,*
*Там, дзе не разгледзіш ты мяжы,*
*Што, як павуціна, з цемры і святла*
*Між табой і мною пралягла.*
*І ляціць над намі груганнё,*
*І смяецца ў Храме насланнё...*

●

*Ты ўцякаеш... Куды? Сам не знаеш,*
*Бо галоўнае — зноў уцякаеш*
*Праз лясы, праз палі, праз балоты,*
*Як ад ценю, ад мёртвай самоты.*
*Уцякаеш, як вены ўскрываеш,*
*Як сябе на шматкі разрываеш,*
*І крывёй заліваеш свой шлях*
*На траве, на вадзе, на пясках,*
*Дзе ўжо ўслед за табою бягуць*
*Маладыя ваўкі і нясуць*
*Адзіноту сваю, як штандар,*
*І бушуе трава, як пажар,*
*І ўскіпае вада, нібы шкло,*
*І пясок на шляху, як святло,*
*Што з парэзаных венаў сцякае.*
*Уцякаеш, як звер, уцякаеш,*
*Цішыню, нібы лёд, разбіваеш,*
*І твой цень, як вада, затапляе*
*Тых, хто ўслед за табою ўцякае*
*Праз палі, праз лясы, праз балоты*
*Ад уласнай, як смерць, адзіноты,*
*Ад жыцця, што прыгожым завём,*
*Ад жыцця, у якім мы жывём,*
*Як трава, як вада, як пясок,*
*Як загнаны сабакамі воўк...*

●

*Не хочацца думаць,*
*што мы ўсе памром,*
*Труна ў зямлі знікне, бы ў моры паром,*
*Якому хоць плач, а было не даплыць*
*Да тых астравоў,*
*дзе бясконца нам жыць*
*Было абяцана няведама кім —*
*Ці д'яблам прыгожым, ці Богам самім.*
*Не хочацца думаць, а хочацца жыць,*
*Дзяўчат і віно, і Айчыну любіць,*
*І ведаць, што вечнасці ў свеце няма,*
*І смерць не пакліча,*
*смерць прыдзе сама,*
*Як самі прыходзяць зноў думкі аб тым,*
*Што ў свеце мы гэтым аб волі крычым*
*І волі не знаем, бо мы ўсе памром,*
*Як свечкі,*
*патухнем пад Боскім дажджом...*
*Не хочацца думаць, а хочацца жыць,*
*І мора жыцця, нібы мора, любіць...*

## Балада пра сонца

*...І сонца патухне, як свечка ў царкве,*
*І цемра, як дым, у наш свет наплыве,*
*І свет наш патоне, як камень цяжкі*
*У чорнае плыні чарнюткай ракі,*
*Калі ён прачнецца і сонна ўздыхне*
*І ў небе пабачыць, нібыта ў вакне,*
*Вялікае сонца, што столькі шукаў*
*На шэрай зямлі сярод пылу і траў.*
*Ды спіць ён, як мёртвы,*
*як цень ад крыжа,*
*Як кропля крыві на спакоі нажа,*
*Наўзбоччы сцяжыны,*
*наўзбоччы жыцця,*
*На дзідах травы і на крылах лісця,*
*Што светла зляцела ад дыху вятроў*
*З зажурана-ціхіх, як вечар, кустоў.*
*І покуль ён спіць, я куплю пісталет,*
*Застрэлю яго і ўратую ўвесь свет.*
*І людзі, забойцу, убачаць мяне,*
*І кожны, забойцу, мяне пракляне,*
*І буду я смерці, як волі, шукаць,*
*І свечку, як сонца,*
*прад сном задзімаць...*

●

*Вечар затапіла навальніца.*
*І ліхтар пад вокнамі баіцца*
*Утапіцца, бо зусім адзін,*
*Рыжы, як савецкі апельсін.*
*Я праз шумны райскі лес дажджу*
*На дарогу, як раку, гляджу,*
*Па якой сплывае ў небыццё*
*Адзінокае, як мы, лісцё,*
*І за ім мне хочацца паплыць,*
*І пра смерць спакойна гаварыць,*
*Як пра сон, які прысніцца ўсім,*
*Таямнічы, як Ерусалім.*
*Сціхне дождж і раніца ўсплыве,*
*Загарацца свечкамі ў траве*
*Кветкі мокрыя, як вочы маці,*
*І адразу пасвятлее ў хаце,*
*І захочацца ізноўку жыць,*
*І пра смерць зусім не гаварыць...*

●

Трэба весела жыць!

*Сумна жыць — бы глядзець на дарогу,*
*На якой анікога няма*
*І не будзе, напэўна, нікога,*
*Бо ўжо вечар і хутка зіма.*
*Сумна жыць — бы маліцца ля Храма,*
*Ад якога цяпер — толькі яма*
*І нічога, нічога няма.*
*І глядзіш ты, адзін, на дарогу,*
*І знікае дарога, як дым,*
*Што ляціць да аблок, як да Бога*
*Мы штохвілі дыханнем ляцім*
*Праз самоту, жыццём што завецца,*
*Што са снегам у дом нанясецца*
*І растане, і знікне, як дым.*
*Сумна жыць — бы ўміраць на чужыне,*
*Дзе нікому няведамы ты,*
*Нават сумнай, як ружа, жанчыне,*
*І не ведаць, што ёсць шчэ жыццё,*
*Як віно пад сталом у графіне.*

●

*Самотных вершаў не пісаць,*
*Нібыта праўды не казаць,*
*А танцаваць на рэштках Храма,*
*Куды мяне вадзіла мама*
*Да споведзі, як да святла,*
*І споведзь — нібы верш была...*

*Самотных вершаў не пісаць,*
*Нібыта ад сябе ўцякаць,*
*Нібыта пальцы адсякаць,*
*Не думаць, што ўсё гэта грэх,*
*Які не знікне, нібы снег...*

*Самотных вершаў не пісаць,*
*Нібы Іуду цалаваць...*

З НІЗКІ "ЧЫРВОНЫ ЛІХТАР"

## Балада афрыканскай прынцэсы

*Ты хацела з'ехаць за мяжу*
*Падалей ад снегу і дажджу.*
*І цяпер за вокнамі пясок,*
*І вярблюд сліњявы, і сынок,*
*Чорны, як савецкі гуталін,*
*Смокча пераспелы мандарын*
*І па-руску лаецца з сястрой,*
*Белай, як казіны сырадой.*
*Ну а муж хоць негар, ды ўсё ж твой,*
*Вызваленчай арміі герой,*
*Дзесьці ў джунглях корміць камароў,*
*З баявой сяброўкаю любоў*
*Круцячы, — не думае, як ты*
*Тут жывеш без мужа, без вады...*
*І глядзіш ты мёртва на пясок,*
*Дзе вярблюд сліњявы і сынок,*
*І табе ахвота за мяжу,*
*Бліжэй да снегу і дажджу.*

## Балада адной

*Ты ў Доме творчасці адна жывеш,*
*Нібы ў блакноце пра каханне верш*
*Сярод санетаў і паэм пра лета*
*Самотнага не менш цябе паэта.*
*Ты ў змрочным бары выпіла б віна,*
*Калі б ты не была ў начы адна,*
*Як гэта ноч, дзе зорак не відно,*
*Як на стале разлітае віно.*
*І ты сядзіш над кніжкай невясёлай,*
*А ўжо магла б ляжаць на ложку голай*
*І слухаць вершы п'янага паэта*
*Пра цёплае, як пацалунак, лета.*
*Ды ты адна жыла і пражывеш,*
*Нібы ў блакноце пра каханне верш.*

***...Яго, не сумняваюся, вы добра ведаеце. У доўгім чорным модным элегантным паліто ён нагадвае альбо знакамітую кіназорку, альбо палітычнага дзеяча... З пачуццём тонкага гумару. З унікальнай памяццю, якая трымае безліч цікавай інфармацыі. З добрымі прамяністымі вачыма.***

***Добразычлівы. І як гэта заўсёды бывае ў таленавітых і шчаслівых людзей, мае... зайздроснікаў і нядобразычліўцаў.***

***Ягоная працаздольнасць ва ўсіх галінах, да якіх ён мае дачыненне, здзіўляе ўсіх.***

***Пра яго напісана шмат артыкулаў, зняты дакументальныя і мастацкія стужкі, пастаўлены спектаклі.***

***Яго ведаюць і дарослыя, і дзеці. Яго імя, як мне здаецца, па папулярнасці сярод беларусаў не мае аналагаў.***

***Але тое, што хачу расказаць пра яго, мо хоць крыху дапоўніць і адчыніць маленькае вакенца ў дзівосны духоўны свет гэтага чалавека, які 21 лютага адзначыў 45-годдзе працы ў адным калектыве.***

***Мне давялося пазнаёміцца з гэтым чалавекам у даволі шчаслівых і унікальных абставінах: я была запрошана на сустрэчу Старога Новага года на яго роднай зямлі. Такая ўжо ў гэтым калектыве традыцыя — Новы год сустракаць у сем'ях, а Стары Новы год — разам.***

***Хочаце верце, хочаце — не, але я злавіла сябе на думцы, што нават і ў Амерыцы, дзе я пражыла амаль 12 гадоў і дзе амаль 200 гадоў не было войнаў на яе тэрыторыі і звычайна дабрабыт вышэй нашага, не кожны амерыканец можа дазволіць сабе так апранацца, так весяліцца, гэтак па-заліхвацку танцаваць і спяваць, быць раскаваным і так годна сябе паводзіць. Гучала сучасная і класічная музыка. Наўкола — цікавыя людзі. Прыемна было ўзірацца ў іх разумныя вочы і адчуваць шчырасць памкненняў. Адкуль усё гэта?***

***І ў мяне міжволі склаўся верш:***

*З Новым годам, сябры-ы-ы-ы!*
*Спявае вецер у бары...*
*Гарнастай апранула зямля.*
*Зоркі скрозь: у лясах,*
*На зямлі, у палях,*
*І ў прамяністых вачах... Бядуля...*

***Так, гаворка пра Уладзіміра Лявонцьевіча Бядулю.***

# Ёсць на свеце такі чалавек...

У глыбіні Белавежскай пушчы ёсць 11 вёсачак і вёсак, якія 45 гадоў вядомыя як двойчы ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга калгас "Савецкая Беларусь".

Туды прыязджаюць людзі на заробкі, альбо навучыцца і набрацца вопыту. За гэты час калгас ніколі не адчуваў недахопу кармоў. Вялікія дасягненні мае і ў аграрных справах, і ў жывёлагадоўлі. А як старшыня ўвесь свяціўся і нібы дзіця, радаваўся, што ўжо ў студзені яны на 30 працэнтаў атрымалі малака больш, чым абяцалі.

І нават прыпеўку заспяваў.

*Калі хочаш быць прыгожай*
*Пі паболей малака!*
*Калі хочаш быць шчаслівай*
*Не закахайся ў... дурака!*

І не дзіўна, што дабрабыт у калгасе даволі значны. У прыгожых катэджах жывуць калгаснікі. Добра зарабляюць.

А які дзіцячы садок! Двухпавярховы, чысты, упрыгожаны малюнкамі саміх жа дзетак.

І адзіны музей Хлеба ў краіне знаходзіцца ў гэтым калгасе!

І зусім невыпадкова першая музычная школа з'явілася ў калгасе раней, чымся ў раённым цэнтры. Мала хто ведае, што кожны дзень легкавы аўтамабіль старшыні рабіў па два рэйсы ў Брэст, каб атрымаць лепшых настаўнікаў музыкі (бо дэфіцыт гэтай прафесіі ў той час не дазволіў бы калгасным юнакам і дзяўчатам вывучаць чароўны свет музыкі...)

А першы ў рэспубліцы цэнтр трансплантацыі эмбрыёнаў буйной рагатай жывёлы, якому здзіўляліся многія замежныя, уключаючы і амерыканскую, дэлегацыі! У штодзённую працу У. Бядуля неяк умее ўкладаць высокі сэнс неабходнасці людзям і абавязку перад імі.

Але адкуль жа гэта пачалося?

А пачалося тады, калі 28-гадовы малады чалавек папрасіўся на пасаду старшыні калгаса, ужо тады добра разумеючы, што хлеб патрэбны і рабочым, і сялянам, і дзецям, і дарослым, і дзеячам навукі і культуры, і хворым, і здаровым. І хтосьці мусіць іх карміць...

Але ж не хлебам адзіным жыве чалавек, а ўсякім Словам Божым.

Ягоная прага да Божага слова адчулася адразу. Мяркуйце самі: калгас будуе царкву па праекце, якому... 200 гадоў!

Ён і ягоныя паплечнікі амаль год разглядалі прапановы, пакуль нарэшце не спыніліся на лепшай.

І ўсё, што робіць альбо будуе У. Бядуля, будуе надоўга і назаўсёды.

Так ён будаваў і Палац культуры. Спачатку ў калгасе было цяжкае фінансаванне становішча. Але ён разумеў, што галоўны яго рэзерв — рэзерв ягонае душы. І таму для яго адразу стала галоўным і вядучым цэхам гаспадаркі — культура. Разумеў: выхаванне сапраўднага чалавека без гэтага цэха — немагчымае. І таму ўжо тады думаў, як пабудаваць па індывідуальным праекце прыгожы, салідны Дом культуры. А распрацаваў праект архітэктар Леанард Маскалевіч. Зала на 500 месцаў, вялікая ўвага надавалася акустыцы.

У вяскоўцаў вялікім поспехам карыстаўся цырк. Быў час, калі толькі з Ленінграда прыязджалі 7 розных цыркавых груп.

А сотні эстрадных калектываў з саюзных рэспублік і замежных краін?

А сустрэчы з цікавымі людзьмі! Калгаснікі тройчы сустракаліся з паэтам Андрэем Вазнясенскім, Бэлай Ахмадулінай, Яўгенам Еўтушэнкам... На сцэне калгаснага ДК двойчы выступаў хор імя Пятніцкага, колькасць якога 120 удзельнікаў. Калгаснікі мелі асалоду слухаць Дзяржаўную харавую капэлу пад кіраўніцтвам Свешнікава, хор імя Вяроўкі з Кіева. Тройчы прыязджаў Вялікі тэатр з Масквы, тэатр оперы і балета з Мінска. На сцэне калгаснага ДК выступалі ветэраны вайны і працы, адмірал Хвасцякоў з Баранавіч, беларускія музычныя ансамблі і спевакі, па некалькі разоў "Песняры", "Сябры", беларускія пісьменнікі: Ніл Гілевіч, Андрэй Макаёнак, Васіль Зуёнак, Мікалай Матукоўскі, Анатоль Дзяленздік, мастак Міхась Савіцкі, кампазітары Ігар Лучанок, Эдуард Ханок.

Калгаснікі сустракаліся з вядомым дыктарам Юрыем Левітанам, віталі "малышку" Кацю Дзёміну, якая больш за год дамагалася трапіць у ваенна-марскі флот і скончыла вайну на Дунайскай флатыліі.

Гледачы мелі магчымасць паслухаць Валерыя Лявонцьева і Льва Лешчанку, Юрыя Антонава і Юрыя Багацікава... Вяртаючыся з гастроляў у Парыжы і Берліне перад калгаснікамі выступіў сусветна вядомы Святаслаў Рыхтэр. Мясцовы раяль, акустыка і слухачы так спадабаліся знакамітаму музыканту, што праз два гады ён патэлефанаваў і прапанаваў выступіць яшчэ раз.

Але галоўнай падзеяй культурнага жыцця калгаса быў міжсаюзны фестываль "Песня-87", дзе ўдзельнічала ажно 100 выканаўцаў! Выступленні адбываліся на працягу трох дзён у маляўнічым урочышчы "Малін", дзе была падабрана спецыяльная паляна, на якой размясцілася 5000 слухачоў!

А гэта ж было ўпершыню, калі фестываль такога ўсесаюзнага ўзроўню праводзіўся ў вёсцы. (Сталіцы і гарады аспрэчвалі паміж сабой магчымасць правесці такі прэстыжны фестываль у сябе).

Падрыхтоўка ішла, нягледзячы на тое, што былі супраць тыя, хто не хацеў вазіць з Масквы машыны Цэнтральнага тэлебачання, не хацеў вазіць спевакоў, гледачоў і наогул не хацеў клапатаў. Але фестываль усё-ткі адбыўся!

І аднойчы праграма "Время" прысвяціла 2 гадзіны 15 хвілін гэтаму фестывалю ў далёкім беларускім калгасе.

Так, сапраўды, вядучы цэх калгаса — культура.

Культура — катэгорыя таксама эканамічная, дарэчы, пад такім загалоўкам "Советская культура" ў свой час надрукавала артыкул пра выступленне ў "Савецкай Беларусі" хору імя Пятніцкага ў 1966 годзе. "Але паколькі культура катэгорыя эканамічная, то, на маю думку, — разважае У. Бядуля, — камерцыя ёй вельмі шкодзіць. Яна раз'ядае культуру як іржа жалеза. Раней на нашай сцэне рэгулярна выступалі 20-25 розных прафесійных калектываў. А цяпер куды складаней. Але ж мы працягваем праводзіць святы песні, працы, вёскі.

Аднойчы да мяне, як члена Савета Рэспублікі, — працягвае Уладзімір Лявонцьевіч, — звярнулася харавая капэла хлопчыкаў з Брэста дапамагчы прыняць удзел у конкурсе, які адбудзецца ў Францыі. А летась давялося шмат папрацаваць, каб яны маглі паспрачацца на 1-м сусветным конкурсе харавых калектываў у Аўстрыі за ганаровае месца. Трэба было знайсці спонсараў. Дарэчы, вялікі ўклад унёс Брэсцкі аблвыканкам і тады яшчэ новы губернатар Васіль Барысавіч Далгалёў. Мы заахвоцілі яго папрацаваць на аўтарытэт нашай краіны, а кіраўнік капэлы Ала Міхайлаўна Ігумнава запэўніла нас, што яны вернуцца з залатым медалём. Мы ў Брэсцкім тэатры ўшанавалі іх, а потым запрасілі да сябе. Гэта было вельмі хвалююча. Кожнаму зрабілі па памятным падарунку. А паколькі ўсё адбывалася паміж Новым і Старым Новым годам, то закупілі на фабрыцы 2000 падарункаў і адначасова, акрамя ўдзельнікаў капэлы, выдалі іх кожнаму з 600 нашых пенсіянераў..."

Цяпер, паважаны чытач, надышоў час расказаць пра зусім незвычайнае... Я, паверце, спачатку вушам сваім не паверыла... Але факт ёсць факт... У "Савецкай Беларусі" ёсць свой танцавальны калектыў "Непаседы"...

Як быццам нічога дзіўнага... Але адна з дзяўчынак з гэтага калектыву на 8-м Міжнародным конкурсе ў Кіеве была прызнана... не, лепш ганарова сказаць "атрымала тытул"... "Міс свету 2000 года"...

Вось вам і калгас!

Кіруе танцавальным калектывам Ларыса Нечыпарук, а маленькая Саша Шкурдода прыйшла туды танцаваць з 4 гадоў. І цяпер "Міс міні-свет" Сашачка Курдода жыве ў калгасе і працягвае танцаваць у сваім любімым калектыве "Непаседы".

Я расказала як бы пра маленечкі кавалачак вялікага сэрца чалавека, якога вы добра ведаеце і якому яшчэ пры жыцці пастаўлены бюст. І калі я, стоячы каля гэтага бюста, запыталася ў некалькіх прахожых, каму гэты помнік, яны вельмі здзівіліся, маўляў, як можна не ведаць? Вы што, з неба зваліліся? Усе ж яго ведаюць...

Двойчы Герой Сацыялістычнай Працы, заслужаны работнік культуры Беларусі, старшыня калгаса ажно 45 гадоў... Наш зямляк.

...Леснікі Белавежскай пушчы кажуць, што сапраўдны росквіт у дрэў пачынаецца толькі з...80 гадоў, а нашаму юбіляру яшчэ даволі далёка да гэтай даты, але ж...

Віншуем вас, паважаны Уладзімір Лявонцьевіч, з 45-годдзем вашай высакароднай сумленнай працы і ад імя "ЛіМа" і нашых чытачоў, і ад імя ўсіх едакоў, якіх вы так шчодра корміце!

І, нарэшце, хачу прыгадаць галоўны сэнс актыўнай жыццёвай пазіцыі старшыні калгаса Уладзіміра Бядулі: "Калі я ў які-небудзь дзень не зрабіў каму-небудзь дабра, то гэты дзень лічу страчаным".

**Вацлава ВЯРБОЎСКАЯ**



*Уладзімір Бядуля з Вацлавай Вярбоўскай.*



*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ*

А.Станкевіч не адмаўляе іх ролі ў беларускім каталіцкім адраджэнні.

Сучасная "Энцыклапедыя гісторыі Беларусі" (т. 4, Мн., 1997) за тры гады да выхаду ў свет кнігі Ю. Гарбінскага змясціла даведку з партрэтам Лазінскага, напісанай на падставе даследаванняў польскіх гісторыкаў і сведчання таго ж А. Станкевіча. Аўтар даведкі Ігар Ганчарук піша пра Лазінскага: "З-за канфлікту з царкоўнымі ўладамі двойчы (1889—1900 і 1905) быў адхілены ад пасады (...). Спрыяў усталяванню беларускае мовы ў касцёлах, галоўным чынам у час пастырскай дзейнасці ў Мінску (1918—1921). 6.12.1918 разам з *Ф. Абрантовічам* правёў першае беларускае богаслужэнне ў Мінску, быў арганізатарам беларускай каталіцкай семінарыі ў Мінску, якая пазней перанесена ў Навагрудак, а потым у Пінск, дзе паступова паланізавалася". Вось так. Узнікае пытанне: а ці не паблытаў рэцэнзент З. Лазінскага з Р. Ялбжыкоўскім — сапраўдным праціўнікам беларусізацыі касцёла?

Іншыя заўвагі рэцэнзента датычацца пэўных недакладнасцяў і непрымальных для яго ацэнак, якія, як кажа сам Лаўрык, змушаюць яго "чапляцца да слоў" (С. 52). Некаторыя з іх слушныя, іх варта ўлічыць пры выданні энцыклапедычнага даведніка на гэтую тэму. Іншыя ж часам крыху камічныя, нагадваюць (няхай прабачыць мне калега) "цешчыны прычэпкі". Напрыклад, да вызначэння навуковых ступеняў Ф. Абрантовіча "доктар філасофіі, магістр тэалогіі". Рэцэнзент лічыць, што тут ёсць паўтор, бо "немагчыма атрымаць доктарскую ступень, не маючы магістрату". (С. 52). Але ж — гэта не толькі розныя навуковыя спецыялізацыі, гэта і розная наменклатура. Напрыклад, я ўжо дваццаць гадоў доктар філасофіі па спецыяльнасці *эстэтыка.* А калі захачу набыць ступень *магістра тэалогіі*, буду павінен здаць адпаведныя экзамены і абараніць магістарскую дысертацыю па тэалогіі.

Паслухаем яшчэ "логіку" агульнага заключэння гэтых злых нататак: "З увагі на аб'ём часопіса я разгледзеў тутака толькі тры артыкулы. Але я свядома выбіраў іх з пачатку, сярэдзіны і канца біяграфічнага раздзелу, каб *паказаць, што ўся даведачная частка прасякнутая фактаграфічнымі і тэрміналагічнымі памылкамі наскрозь"* (С. 53—54). Трох старонак дастаткова, каб зганьбаваць усю кнігу, у якой — аж 720 старонак! Прыгадваецца рэпліка Анарэ дэ Бальзака. Класік французскай літаратуры казаў пра шустрых журналістаў: ім дастаткова прачытаць тры старонкі рамана, каб напісаць на яго адмоўную рэцэнзію. Што ж датычыцца "факталагічных і тэрміналагічных памылак", то, спадзяюся, мне ўдалося пераканаць чытача: яны маюць пераважна ідэалагічны і ацэначны характар, нечым нагадваюць (не зместам, а "пафасам") бальшавіцкую крытыку.

У заключэнне сваіх злых нататак рэцэнзент называе мяне і майго калегу Адама Мальдзіса — навуковых рэдактараў кнігі — "вясельнымі генераламі". Спадар Юрась Лаўрык! Вы, здаецца, *не былі на нашым вяселлі*, робіце сваю іранічную ацэнку на падставе інсінуацый і чутак. Адам Мальдзіс сам скажа за сябе, а я Вас інфармую: я не толькі ўважліва чытаў рукапіс кнігі Ю. Гарбінскага, але і па яе матэрыялах напісаў пасляслоўе — аналітычны артыкул "Пакутнікі за Веру і Бацькаўшчыну". Які Вы чамусьці не заўважылі ў кнізе. Папярэджваў таксама пра магчымыя недакладнасці ў кніжцы. Некаторыя з іх удалося выправіць.

У рэшце рэшт, мы маем справу з першай грунтоўнай працай пераважна крыніцазнаўчага зместу. Польскія даследчыкі працуюць над аналагічнай тэмай каля двухсот гадоў. І сёння, верагодна, дапускаюць недакладнасці і фактычныя памылкі. А мы толькі пачынаем. Варта ацаніць кнігу Ю. Гарбінскага *за тое, што ў ёй ёсць.* А не нападаць на яго за тое, што ў кніжцы няма.

Закончу свае нататкі малітвай прымірэння, надрукаванай у прадмове да "Кнігі, зовомая Евангеліе учителное", выдадзенай Іванам Фёдаравым і Пятром Мсціслаўцам (Заблудаў, 1569): "Хотящіи же прочитати и преписовати сію книгу, милостави и не зазорливи, молимся мы, трудившіися недостоиніи и худые, будите нашего ума немощи и недостатку, понеже и вы сами человецы и человеческим подлежаще. Яко требуете милости от Бога и пращенія от человек, прощенію вашему и нас сподобляйте".

## ПЕРАКЛАДЫ

**25 лютага — 130-я гадавіна з дня нараджэння выдатнейшай украінскай паэтэсы Лесі Украінкі.**

**Леся Украінка жыла заўсёды тварам да сонца і паварочвала да яго людзей.**

**Стаўшы ў адзін шэраг з геніямі сваёй эпохі (пражыла ўсяго 42 гады), знаходзілася ў адным духоўным вымярэнні з імі.**

**Чаго варты, шаноўныя чытачы, вось гэты, першы ў падборцы, вершык "Надзея", які Леся напісала ў 9-гадовым узросце!..**

Леся УКРАІНКА

### Надзея

*Ні долі ў мяне, ані волі няма,*
*Відаць, засталася надзея сама:*

*Надзея вярнуцца шчэ раз на Ўкраіну,*
*На родную каб наглядзецца краіну,*

*На сіні Дняпро паглядзець яшчэ раз, —*
*Там жыць ці памерці — аднолькавы сказ;*

*На стэп напаследак зірнуць, на крыжы,*
*Гарачыя мары згадаць на мяжы...*

*Ні долі ў мяне, ані волі няма,*
*Відаць, засталася надзея сама.*
1880

### Contra spem spero![1]

*Думы, прэч! Вы з аблокаў асенніх!*
*Вунь вясна прыімчала сюды!*
*Ці вось так, у журбе, галашэнні,*
*Прамінуць маладыя гады?*

*Не, хачу я скрозь слёзы смяяцца,*
*Песні пець сярод ліха і дум,*
*Без надзеі хачу спадзявацца,*
*Жыць хачу! Прэч журботу і сум!*

*Я на ўбогай і сумнай аблозе*
*Кветнік пышны пачну засяваць,*
*Сеяць кветкі пачну на марозе*
*І гаротнай слязой паліваць.*

*Ад слязы ад гарачай растане*
*На тым кветніку наледзь да дна.*
*Кветкі ўзыйдуць і, зрэшты, настане*
*Для мяне мо таксама вясна.*

*На крутую гару я сумленна*
*Стану камень цяжкі падымаць*
*І, хоць гэта цяжар неймаверны,*
*Буду весела песню спяваць.*

*Доўгай, цёмнай, нявіднаю ночкай*
*Не стулю ні на хвільку вачэй,*
*Я шукаць буду зорку-прарочку,*
*Валадарніцу цёмных начэй.*

*Свайму сэрцайку спаць не дазволю,*
*Хоць вакол будзе цемра, нуда,*
*Хоць сама я адчую: няўмольна*
*Набліжаецца смерці хада.*

*Смерць наляжа мне цяжка на сэрца,*
*Уваччу стане грозна цямнець,*
*Ды дужэй маё сэрца заб'ецца, —*
*Мо адолее лютую смерць.*

*Так! змагу я скрозь слёзы смяяцца,*
*Песні пець сярод ліха і дум,*
*Без надзеі змагу спадзявацца,*
*Буду жыць! — Прэч журботу і сум!*
2 мая 1890

[1] Без надзеі спадзяюся! (лат.)

●

*Калі прыйдзе журба, ты не думай яе*
*Разагнаць у забавах выключных,*
*За сталом, дзе сябры весяляцца твае,*
*П'юць-гуляюць пры воклічах гучных.*

*Ты не йдзі ў пышны дом,*
*дзе звініць і вірыць,*
*Дзе танцуюць вясёлыя пары, —*
*Там страшней яшчэ сэрца тваё забаліць*
*І цяжэй на душу лягуць хмары.*

*І ў людское цячэнне не важся брысці,*
*Дзе гурба — стогаловае мора, —*
*Йдзе, хвалюе, шуміць, —*
*з ёй не варта ісці,*
*Не разыйдзецца й там тваё гора.*

*Лепш ідзі ў цёмны бор*
*ці ў раскідзісты гай,*
*Ці мо ў поле, дзе жыта сівее,*
*Там разважліва з ліхам*
*сабе размаўляй, —*
*Можа, там яго ветрам развее.*

*Або песню вясёлую так запяяй,*
*Каб ажно засмяялася ліха, —*
*Вось тады, пэўна, згіне пачвара твая*
*І на сэрцайку зноў стане ціха...*
1891

●

*Слова, чаму ты не сталь-бліскавіца,*
*Тая, якая ў баі так іскрыцца?*
*Што ж ты не востры, бязлітасны меч,*
*Здольны варожыя зграі пасеч?*

*Шчырая ты, гартаваная мова,*
*Я цябе выцягнуць з ножан гатова,*
*Толькі ж ты кроў з майго сэрца пральеш,*
*Ворага ж сэрца клінком не праб'еш...*

*Вывастру, вытачу я сваю зброю,*
*Колькі мне хопіць умення, настрою,*
*Потым яе пачаплю пры сцяне*
*Іншым на ўцеху, на клопаты мне.*

*Слова, мая ты адзіная зброя!*
*Мы не павінны загінуць абое!*
*Можа, ў руках невядомага брата*
*Станеш мячом ты найлепшым на ката.*

*Бразне клінок аб жалеза кайданаў,*
*Рэха шугне па цвярдынях тыранаў,*
*Стрэнецца з бразгатам іншых мячоў,*
*З гукам ліхіх, не турэмных прамоў.*

*Дужыя мсціўцы сарвуць маю зброю,*
*Кінуцца з ёю адважна да бою...*
*Зброя мая, паслужы смельчакам*
*Лепей, чым служыш ты хворым рукам!*
25.XI.1896

●

*Дзе тыя струны і голас магутны,*
*дзе тое слова крылатае,*
*каб заспявалі нам пра ліхалецце,*
*шчасцем і горам багатае,*

*каб у мурах прыхаванае знеслі*
*на гаманкія майданы,*
*каб пераклалі на мову людскую*
*песню, што звоняць кайданы?*

*Ерусалім меў свайго Ерамію,*
*што галасіў сярод поля;*
*як жа свайго Ераміі не мае*
*наша зламаная воля?*

*Полымем вечным на одум нашчадкам*
*Дантава пекла палае;*
*пекла шчэ горай пячэ ў нашым краі, —*
*як жа мы Данта не маем?*

*Гэй, бліскавіца, грому сястрыца,*
*дзе ты? Разбі злыя чары!*
*Хай мы хоць раз праўду выкажам громам*
*так, як вясновыя храмы!*
24.V.1902

**З украінскай пераклаў Валеры СТРАЛКО**

## НОВАЕ

# "Беларускі гістарычны раман"

Раманам Уладзіміра Караткевіча пра беларускае сярэднявечча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", што зусім нядаўна выйшаў з друку і з'явіўся ў нашых кнігарнях, выдавецтва "Беллітфонд" распачало вялікую кніжную серыю — "Беларускі гістарычны раман".

Доўгі час розныя "дабрадзеі" з захаду і з усходу ўсяляк засланялі ад нас, перакручвалі да непазнавальнасці нашу шматвяковую гісторыю, імкнучыся зрабіць з нас Іванаў, якія не помняць свайго роду-племені. Гэтыя палітыканы ад гісторыі добра ведалі: народ без сваёй Гістарычнай Памяці, без нацыянальнай самасвядомасці становіцца звычайным "памяркоўным" насельніцтвам, якое вельмі лёгка можна далучыць да сваёй дзяржавы, прыхапіўшы разам з ім і ўсю яго тэрыторыю, яго краіну.

Мэта нашай серыі — вярнуць беларускаму народу яго слаўную, але амаль забытую і занядбаную намі Гісторыю, такую, якая была яна ў сапраўднасці.

У серыі "Беларускі гістарычны раман" мы мяркуем праз яркія мастацкія вобразы расказаць пра больш чым тысячагадовую барацьбу нашага народа за сваю дзяржаўнасць, за волю і незалежнасць, паказаць велічныя і трагічныя старонкі беларускай Мінуўшчыны. У раманах серыі ва ўсёй паўнаце і велічы ўстануць перад чытачом жывыя постаці славутых сыноў Беларусі. А пантэон славутасцяў, вартых пяра лепшых майстроў слова, у нас надзвычай прадстаўнічы: Таргітай, Рагвалод, Тур, Рагнеда, Ізяслаў Уладзіміравіч, Брачыслаў Полацкі, Усяслаў Чарадзей, Глеб Менскі, Кірыла Тураўскі, Еўфрасіння Полацкая, Уладзімір Полацкі, Ізяслаў Навáградскі, Міндоўг, Войшалк, Тройдзень, Віцень, Давыд Гарадзенскі, Гедымін, Альгерд, Кейстут, Вітаўт, Настасся Слуцкая, Францішак Скарына, Мікола Гусоўскі, Пётр Мсціславец, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Леў Сапега, Саламон Рысінскі, Канстанцін Астрожскі, Мікалай Радзівіл Чорны, Стахор Міткові́ч, Ян Кароль Хадкевіч, Францішка Уршуля Радзівіл, Спірыдон Собаль, Міхаіл Крычэўскі, Казімір Лышчынскі, Сімяон Полацкі, Васіль Вашчыла, Іяхім Літавор Храптовіч, Зарыян Даленга-Хадакоўскі, Тадэвуш Касцюшка, Міхал Клеафас Агінскі, Валенці Ваньковіч, Эмілія Плятэр, Адам Міцкевіч, Тамаш Зан, Ігнат Дамейка, Ян Чачот, Францішак Савіч, Станіслаў Манюшка, Кастусь Каліноўскі, Рамуальд Траўгут, Напалеон Орда, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Ігнат Грынявіцкі, Францішак Багушэвіч, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Аляксандр Ельскі, Міхаіл Ельскі, Янка Купала, Максім Багдановіч, Якуб Колас, Вацлаў Ластоўскі, Алесь Гарун, Іван Луцкевіч, Антон Луцкевіч, Кастусь Езавітаў, Браніслаў Тарашкевіч, Яўхім Карскі, Мітрафан Доўнар-Запольскі, Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны), Адам Станкевіч, Міхась Забэйда-Суміцкі, Рыгор Шырма, Максім Танк, Ларыса Геніюш, Іван Якубоўскі, Канстанцін Заслонаў, Уладзімір Гіль-Радзіёнаў, Алесь Адамовіч, Уладзімір Караткевіч і г. д. Само жыццё кожнага з гэтых і іншых славутых людзей Беларусі, калі б праўдзіва і па-мастацку апісаць яго, магло б стаць найцікавейшым раманам. За іх жа плячыма — свая эпоха, на якую яны рабілі сваё, часам рашаючае ўздзеянне.

Проста просяцца ў раманы і звязаныя з гэтымі імёнамі векапомныя падзеі нашай Мінуўшчыны, сляды якіх захаваліся ў тапаніміцы, у народных песнях і паданнях, ва ўспамінах сучаснікаў. Прыгадаем хаця б асобныя з гэтых падзей, пачынаючы з далёкай старажытнасці. Гэта, напрыклад, напад на Полацкую зямлю наўгародскага князя Уладзіміра Святаслававіча ў 980 годзе і барацьба палачан за незалежнасць ад Кіева, бітва паміж полацкім войскам Усяслава Чарадзея і аб'яднанымі войскамі сыноў Яраслава Мудрага на рацэ Нямізе пад Мінскам у 1067 годзе, эпізоды змагання полацкіх і наваградскіх князёў з крыжакамі Ордэна мечаносцаў у XIII стагоддзі, легендарная бітва нашых продкаў з войскам хана Койдана пад Крутагор'ем у 1249 годзе, перамога беларусаў над татарамі каля вёскі Магільна ў 1284 годзе, уціхаміранне князем Віценем паўстання жмудзінаў (продкаў сучасных літоўцаў) за аддзяленне Жмудзі, ці Жамойці, як называлася раней этнаграфічная Літва, ад беларускай дзяржавы Вялікае Княства Літоўскае ў 1294 годзе, пераможны паход войска ВКЛ на чале з Давыдам Гарадзенскім на Брандэнбург у 1326 годзе, вызваленне беларускімі войскамі на чале з вялікім князем Альгердам братняй Украіны ад татара-мангольскага іга ў выніку пераможнай бітвы на рацэ Сіняя Вада ў 1362 годзе (за 18 гадоў да Кулікоўскай бітвы), паходы беларускага войска на Маскву ў 1368 і ў 1370 гадах, удзел полацкага і друцкага палкоў у бітве маскоўскага войска з татарамі на Куліковым полі ў 1380 годзе, вайна Вітаўта з Ягайлам за незалежнасць Вялікага Княства Літоўскага ў канцы XIV ст., заключэнне Крэўскай уніі паміж Польшчай і ВКЛ у 1385 годзе, паход беларускага войска на чале з вялікім князем Вітаўтам на крымскіх татар у 1397 г., пераможная бітва з Тэўтонскім ордэнам пад Грунвальдам (1410), пераможны паход беларускага войска на Залатую Арду ў 1411 годзе, разгром татараў пад Клецкам у 1506 годзе, мяцеж Міхаіла Глінскага ў 1508 годзе і ўцёкі яго ў Маскву, перамога 30-тысячнага войска Канстанціна Астрожскага над 80-тысячным маскоўскім войскам на рацэ Крапіўна каля Оршы 8 верасня 1514 года, пераможная бітва беларускага войска з маскоўскім войскам пад Улай у 1564 годзе, утварэнне ў выніку Люблінскай уніі федэратыўнай польска-беларускай дзяржавы — Рэч Паспалітая ў 1569 годзе, перамога 4-тысячнага беларускага войска над 14-тысячным войскам шведаў каля Кірхгольма (1605), перамога над туркамі пад Хоцімам (1673) і Венай (1683), сялянскае паўстанне на Крычаўшчыне (1741—1744), антырасійскае паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі (1794), паход Напалеона на Маскву праз Беларусь і вяртанне разбітых французскіх войскаў назад (1812), антыцарскія паўстанні на Беларусі ў 1831 і ў 1863—1864 гадах, рэвалюцыйныя падзеі на Беларусі 1905—1917 гадоў, абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 года, утварэнне БССР 1 студзеня 1919 года, Слуцкае ўзброенае паўстанне супраць бальшавікоў (1920), партызанская барацьба на Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў (1941—1944), вызваленне Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 3 ліпеня 1944 года, абвяшчэнне Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі 27 ліпеня 1990 года...

Як бачым, тэм для гістарычных раманаў у нашай Мінуўшчыне — хоць адбаўляй. Варта толькі майстрам мастацкага слова скіраваць на яе свой зацікаўлены позірк і, выбраўшы на даўно ўдзірванелым полі Гісторыі сваю дзялянку-тэму, узяцца за яе распрацоўку.

Нельга сказаць, што дасюль гэтая праца ў нашай літаратуры не вялася. Да гістарычнай тэмы звярталіся многія нашы пісьменнікі розных пакаленняў. Сярод іх — Сцяпан Александровіч, Лідзія Арабей, Уладзімір Арлоў, Леанід Дайнека, Генрых Далідовіч, Язэп Дыла, Вольга Іпатава, Уладзімір Караткевіч, Якуб Колас, Валянціна Коўтун, Юзаф Крашэўскі, Алег Лойка, Міхась Лынькоў, Георгій Марчук, Міхась Машара, Барыс Мікуліч, Іван Мележ, Іван Новікаў, Алесь Пашкевіч, Піліп Пестрак, Генрых Ржавускі, Уладзімір Случанскі, Міхась Тычына, Вітаўт Чаропка, Іван Шамякін, Алесь Якімовіч і іншыя. Думаю, творы многіх гэтых пісьменнікаў добра прыдадуцца да серыі "Беларускі гістарычны раман".

Але найбольшае наша спадзяванне на новыя гістарычныя раманы беларускіх пісьменнікаў, напісаныя з улікам апошніх дасягненняў нашай гістарычнай навукі, тых гісторыкаў, якія раскрываюць у сваіх даследаваннях сапраўдную, пазбаўленую розных палітычных напластаванняў гісторыю Беларусі.

Клічам усіх прыняць актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і выданні "Беларускага гістарычнага рамана" — як пісьменнікаў, так і тых, хто зможа фінансава дапамагчы справе вяртання беларускаму народу яго вялікай гісторыі.

**Кастусь ЦВІРКА,**
**галоўны рэдактар выдавецтва "Беллітфонд"**

ВЫСТАВЫ

# Фантазія паперы і нажніц

Імя Вячаслава Дубінкі добра вядомае і ў журналісцкіх, і ў пісьменніцкіх, і ў мастакоўскіх колах. Бо шмат год працаваў ён фотакарэспандэнтам “Звязды”. Уражанні складваліся ў апавяданні, тыя друкаваліся спачатку ў раённых газетах, пасля сталічных. Сапраўднай радасцю сталася першая аповесць у “Маладосці” ў 1981 г., якая пазней выйшла асобнай кніжкай. Наступныя кнігі “пякліся” хутка, што стала прычынай сяброўства ў Саюзе пісьменнікаў. Вось і нядаўна выйшла новая, прасякнутая своеасаблівым незласлівым гумарам. Да таго ж Вячаслаў — заўзяты падарожнік. Прайшоў з экспедыцыямі, геалагічнымі партыямі горы Цянь-Шаня, Карпаты, Памір, Саяны, Алтай. А з 1968 г. захапіўся пісьменнік папяровай выцінанкай.

Што падштурхнула Вячаслава Дубінку да гэтага занятку? Магчыма, дзіцячыя ўспаміны, як маці выразала з паперы просценькія карункі на вокны і абразы. Альбо шматлікія камандзіроўкі, дзе нажніцы і папера дапамагалі вабіць час. Праз паўгода “падарожнай” працы выштукавалася нарэшце і першая ўдалая кампазіцыя. Далей адбывалася суцэльная імправізацыя з выявамі звяроў, птушак, кветак, дрэў ды замкаў. За апошнія трыццаць год прайшло шмат выставаў, пабачылі свет колькі кніжак з выцінанкамі Дубінкі на вокладцы: паэзія Г. Каржанеўскай, В. Хамчук, С. Басуматравай, дзіцячыя кніжкі В. Іпатавай, А. Вольскага і іншых.

Нядаўна адбылася выстава выцінанак Дубінкі ў Музеі сучаснага мастацтва, уразіўшы гледачоў тыпова-дубінкаўскімі доўгімі папяровымі ручнікамі і нястомнай фантазіяй мастака. Штодзень аўтар садзіўся ля вакна ў цэнтры выставачнай залы і спрытна працаваў нажніцамі. Вячаслаў ніколі не робіць папярэдніх замалёвак для сваіх работ. Яго выцінанкі нараджаюцца з імправізацый і пры гэтым застаюцца шматфігурнымі, складанымі па кампазіцыі, надзвычай яскравымі колерна.







Сам жа Дубінка, хоць і з любоўю адносіцца да занятку выцінанкаю, лічыць яго ледзьве не хобі. Матэрыяльна гэты занятак сябе не апраўдвае, большасць выцінанак Дубінкі так і ляжаць, акуратна складзеныя ў папачкі. На адкрыцці выставы мастак прэзентаваў гледачам і свой апошні альбом выцінанак з цікавымі прадмовамі аўтара і доктара мастацтвазнаўства Яўгена Сахуты. Альбом гэты Вячаслаў выдаў за свае грошы і зусім не спадзяецца, што ягоныя ўкладанні апраўдаюцца. Магчыма, з гэтай прычыны вось ужо колькі год ён утрымлівае прыватную мастацкую майстэрню.

Каб не заканчваць на сумнай ноце, хочацца дадаць, што энтузіязм Вячаслава Дубінкі дапамагае зрабіць выцінанку папулярнай і нават стаць прадметам навучання ў мастацкіх школках.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

# Зялёны “Апалон” і “Знакі памяці”

Новай пластычнай мовай, адпаведнай свайму часу, вызначаюцца графічныя работы сямі мастакоў, якія прадставілі свае творы на выстаўцы, што адкрылася нядаўна ў Нацыянальнай бібліятэцы. Сем мастакоў прадстаўляюць не толькі розныя гарады нашай краіны — Баранавічы, Мінск, Оршу, — але і розныя светапогляды і тэмперамент творцаў.

Іранічныя афорты Сяргея Балянка поўныя летуценняў пра гарманічныя ўзаемаадносіны чалавека і прыроднага свету, населенага фантастычнымі разумнымі істотамі (“Усё роўна сарвуся”). Гэтаму мастаку характэрныя доўгія літаратурныя, часам афарыстычныя назвы, якія ён дае сваім творам. “Не варта падглядваць за часам, у кожнага свая рыба...” называецца афорт з даверлівай рыбай, якая ўшчамілася ў насценны гадзіннік з маятнікам, а ўнізе — палеткавае пудзіла-назіральнік: час — гэта вада, ці не праўда?

Юлія Валынец — самая юная ўдзельніца выстаўкі, вызначаецца жаночым пяшчотным і рамантычным успрыманнем жыцця. Нават вароны на яе афортах — добрыя і свойскія птушкі-сімвалы (“Attente”). У афорце “Вяртанне” час прыпадабняецца пяску, які ў пясочным гадзінніку канкрэтнага чалавечага жыцця можа сыпацца не толькі ўніз, але і ўверх, як расце дрэва. Усе работы мастачкі, пазначаныя 2000-м годам, маюць лаканічныя назвы.

Смела эксперыментуе з формай у пошуках новай стылістыкі Юрый Падолін. Яго афорты поўныя таямнічных вобразаў ночы, і ўсе яны ў цэлым прасякнутыя тонкім, трывожным, архаічным водарам эротыкі: “Час жоўтай Поўні”, “Вочы ночы”, “Tutti”, “Купалле”.

Гэтак жа трывожаць падсвядомасць гледача і самыя, бадай, абстрактныя з усіх выстаўленых твораў акварэлі Барыса Іванова з цыкла “Знакі памяці” сярэдзіны 90-х гадоў. Мастак — як медыум, які трансфармуе свае асабістыя адчуванні ў больш-менш даступную форму для гіпатэтычнага суразмоўцы ў гаворцы пра наша старадаўняе, а, можа, нават і Вечнае. Акварэльныя творы Іванова нібыта пакрытыя густымі зморшчынамі часу.

Акварэлі Дзмітрыя Сурыновіча — больш яркага, дэкаратыўнага плана, больш разнастайныя па тэхніцы і па настроі: “Вечар у Ленінградзе”, “Скумбрыя”, “Якія пілуюць дровы”. Асабліва нечаканым падаўся вобраз старажытнага апекуна мастацтваў — бога Апалона ў аднайменнай рабоце (1991 г.): зялёны — як дрэва, і высокі і магутны — як яно ж, калі стаяць пад ім і ўглядацца ў вяршыню знізу. Так, карані мастацтва — у Прыродзе...

Два мастакі — Аляксей Фалей і Аляксей Шаліма — знаёмяць гледачоў са сваімі работамі, выкананымі ў гуашы — тэхніцы цяпер амаль што забытай нашымі прафесійнымі мастакамі. Творы Фалея (“Пейзаж”, “Пскоў”) дэманструюць вабную плоцкую рэчыўнасць фарбаў, вільготнасць мазка, паслухмянага ўпэўненаму пэндзлю. Аляксей Шаліма ад працэсу сузірання краявідаў запрашае нас у інтэр’ер кватэры, дзе гуашавай фарбай не “выпісвае”, а літаральна “апявае” такія, здавалася б, звычайныя прадметы хатняга ўжытку, як газавая лямпа і простае драўлянае крэсла з вазонам ружовых кветак на ім: кветкі — таксама жывыя істоты, падобныя да катоў, дзяцей, гаспадыні і іншых жыхароў планеты-кватэры. Гэтая наіўная думка-адкрыццё, гэты нібы знарочысты “наіўны стыль” работ Аляксея Шалімы, а таксама агульная гуманістычная скіраванасць твораў і ўсіх папярэдніх шасці ўдзельнікаў выстаўкі ў рэшце рэшт падводзяць гледачоў да асэнсавання ісціны: людзі ў прыродзе, прырода ў часе, час у мастацтве — вечныя, таямнічыя метамарфозы.

**Л. СІЛЬНОВА**

АБ’ЯВЫ

# Гімн горада-героя Мінска

## ПАЛАЖЭННЕ АБ ПРАВЯДЗЕННІ КОНКУРСУ НА СТВАРЭННЕ ГІМНА ГОРАДА-ГЕРОЯ МІНСКА

**І. Мэта конкурсу**

Конкурс праводзіцца дзеля стварэння Гімна горада-героя Мінска — сталіцы Рэспублікі Беларусь.

**ІІ. Умовы ўдзелу ў конкурсе**

1. У конкурсе могуць прымаць удзел прафесійныя і самадзейныя аўтары, работнікі культуры і мастацтва і іншыя грамадзяне Беларусі.

2. Тэкст Гімна павінен быць напісаны на беларускай мове, складацца не больш чым з трох куплетаў і адлюстроўваць у сваім змесце гісторыю горада, яго прыгажосць, захапленне і любоў да яго.

Гімн пішацца для голасу ў суправаджэнні фартэпіяна.

3. У якасці варыянта Гімна можа быць выкарыстана музыка У. Алоўнікава “Песня аб Мінску” з новым тэкстам.

Дадзеная работа будзе разглядацца на агульных умовах.

4. Матэрыялы на конкурс дасылаць у канвертах ва ўпраўленне культуры Мінгарвыканкама (220006, г. Мінск, вул. Маякоўскага, 22, кор. 2) да 6 красавіка 2001 года.

5. На канверце не павінны быць указаны прозвішча і адрас, замест гэтага трэба напісаць дэвіз аўтараў. Дэвіз ставіцца таксама на нотах і тэксце. Дадаткова ў канверт укладваецца другі запячатаны канверт з дэвізам і са звесткамі аб аўтарах: прозвішча, імя, імя па бацьку, хатні адрас і нумары тэлефонаў.

Канверты, у якіх знаходзяцца даныя аб аўтарах, распячатваюцца толькі пасля падвядзення вынікаў конкурсу.

6. Матэрыялы, прадстаўленыя з парушэннямі ўмоў конкурсу, разглядацца не будуць. Матэрыялы, дасланыя на конкурс, не вяртаюцца.

**ІІІ. Падвядзенне вынікаў конкурсу**

1. Конкурс складаецца з адборачнага і фінальнага тураў.

2. Падрыхтоўку і правядзенне адборачнага тура конкурсных твораў забяспечвае ўпраўленне культуры Мінгарвыканкама. Па выніках адборачнага тура ўпраўленне культуры Мінгарвыканкама выносіць шэсць лепшых твораў на разгляд рабочай групы Мінгарвыканкама па падрыхтоўцы прапаноў аб Гімне горада-героя Мінска.

3. На пасяджэнні групы дадзеныя творы будуць выкананы салістам у суправаджэнні акампанементаў на фартэпіяна.

Рашэнне рабочай групы аб канчатковых выніках конкурсу выносіцца на разгляд Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў і Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта.

4. Пераможцы конкурсу будуць адзначаны прэміямі:

***Першая прэмія (адна)*** — 100 мінімальных зарплат;
***Другая прэмія (адна)*** — 70 мінімальных зарплат;
***Трэцяя прэмія (адна)*** — 50 мінімальных зарплат.



ВЕРНІСАЖ




*Малюнкі М. ГАРЭЛАВАЙ*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ,**
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фота-карэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856
Наклад 2865
Нумар падпісаны ў друк 22.2.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 1088

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12